ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

15 жніўня 1997 г. № 33/3909 Кошт 3 000 руб.







# *Леў — сузор'е лідэраў*

Спраўляць юбілей летам — шчасце: усё ў прыродзе ўбіраецца ў сілу, наваколле прыгожае і непагодлівым днём, і столькі розных кветак радуе вока нават на гарадскіх вуліцах!

Спраўляць юбілей летам — праблема: сезон адпачынкаў, можна і сямейнікаў за бяседным сталом не сабраць...

Спраўляць юбілей летам — інтрыга: хтосьці абавязкова паспадзяецца, што ўвосень будзе "працяг", "паўтор", кшталту "юбілею для ўсіх".

Спраўляць юбілей летам — надзея: што віншаваць будуць толькі блізкія, што атмасфера будзе шчырай, што кветкі будуць ад сяброў.

І ўсё ж нават у разгар лета чалавеку вядомаму зрабіць свой юбілей ціхім асабістым святам цяжка. Хаця — народнаму артысту Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі, прафесару Акадэміі музыкі кампазітару Дзмітрыю Смольскаму гэта, можна сказаць, удалося.

Уявіце, якая іронія лёсу: пра тое, што сёлета шаноўнаму Майстру, народжанаму пад сузор'ем Ільва, спаўняецца 60, наш усявед-каляндар чамусьці маўчыць...

Не маўчала з нагоды юбілею, бадай, толькі радыё: намаганнямі калегаў ды вучняў прагучалі ў эфіры перадачы з добрымі словамі пра Дзмітрыя Браніслававіча, з ягонай музыкай. Гаротныя газетчыкі ў гэтkіх выпадках разводзяць рукамі: не пойдзеш у фанатэку, не падбярэш запісы, не пацешыш слых чытачоў...

Насмельваюся, аднак, спадзявацца, што якраз нашы чытачы музыку Дзмітрыя Смольскага ведаюць. І разумеюць адметнасць філігранных вакальных маналогаў; старонак опер "Сівая легенда" ды "Францыск Скарына"; эксперыментальных і дасціпных інструментальных опусаў у розных жанрах; драматычнай і дзёрзкай для часу свайго нараджэння "купалаўскай" араторыі "Паэт". Разумеюць вынаходствы сімфоній, пазначаных рукою музыканта-эрудыта, дзе адмысловую і абгрунтаваную аўтарскай логікай ролю вядзе альбо электрагітара-сола, альбо раяль, альбо паэзія Іосіфа Бродскага, альбо аркестравая цытата з Бетховена...

Ён безупынны ў сваім памкненні займацца мастацтвам.

Ён — сузіральнік жыцця, філосаф, настаўнік, мудрэц — не стаміўся спрабаваць у творчасці рознае, шукаць, разважаць, задаваць адвечныя пытанні, адказу на якія не знаходзіць, здаецца, ніхто й ніколі.

Ён шчыры ў сваім жаданні дзяліцца тым, што ведае: з выканаўцамі ды слухачамі сваёй музыкі. З вучнямі, якіх вядзе ў прафесію, не прымушаючы пісаць-падладжвацца "пад сябе". Можа, таму яго самыя даравітыя колішнія студэнты гэтак адрозна-яскрава раскрываюць сёння ўласныя мастацкія індывідуальнасці?

Пагутарыўшы з Дзмітрыем Браніслававічам у часіну ягонага "леццяя", на памежжы ліпеня ды жніўня, я, пэўна, пісала б зараз інакш. А, мажліва, не напісала б ні радка. І не таму, што лета было ў разгары.

Я і не дамаўлялася на інтэрв'ю.

Таму што галоўныя пытанні ды адказы пра свет кампазітара выснойваюцца з ягонай музыкі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Здымак зроблены падчас сёлетняга фестывалю "Музы Нясвіжа" пасля сустрэчы прафесара і ягоных таленавітых выхаванцаў, ужо добра вядомых кампазітараў, у дзіцячай музычнай школе. На першым плане — Галіна ГАРЭЛАВА, стаяць музыказнаўца Радаслава АЛАДАВА, кампазітары Аляксандр ЛІТВІНОЎСКІ, Сяргей ЯНКОВІЧ, Уладзімір КУР'ЯН і — Дзмітрый СМОЛЬСКІ.*

***Фота Віт. АМІНАВА***

## КОЛА ДЗЁН

***Калі і хапае чагосьці ў нашай дзяржаве, дык гэта палітыкі, якой не дастае гнуткасці. Бо палітыка — гэта найчасцей балансаванне на мяжы між жаданым і магчымым. Без узаемных кампрамісаў у палітыцы (як і на базары) не можа быць поспеху, не будзе падпісана ніводная дамова. Непахіснасці ж пазіцыі Беларусі (якая дзіўна не супадае з менталітэтам народа) дзівяцца ва ўсім свеце. Можна назваць гэта прынцыповасцю, а можна і зусім інакш... Пошукі згоды ў нас толькі абяцаюцца, а калі даходзіць да справы — дзяржава не адступае ні на крок ад сваіх "прынцыпаў". Ці не таму найперш зайшлі ў тупік перамовы з апазіцыяй пры пасрэдніцтве Еўрасаюза... Візіт прадстаўніка ЕС сп. А. Коста і сустрэча яго з А. Лукашэнкам, праўда, пакінулі надзею, што яны адновяцца (9 верасня), што размова на іх пойдзе пра ўдасканаленне Канстытуцыі 1994 года і новыя выбары парламента, што прадстаўнікі прэзідэнта атрымаюць поўнае права прымаць самастойныя рашэнні... А. Коста, вядома, можа зрабіць выгляд, што верыць гэтым абяцанням, а вось апазіцыя... Апазіцыя, што ўвязалася ў "гульню без правілаў", цяпер ніяк не можа знайсці з яе дастойнае выйсце і вымушана, каб не быць абвінавачанай у зрыве перамоў, чакаць "з мора надвор'я"...***

### СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Падчас паездкі па Гомельшчыне прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка сказаў словы нечаканыя, але выключна важныя: з наступнага года дзяржава не будзе фінансаваць стратныя гаспадаркі і дatаваць з бюджэту правядзенне сельгаскампаній. Кіраўнікам калгасаў і саўгасаў давядзецца працаваць, разлічваючы толькі на свае сілы... Хутчэй за ўсё гэта была імправізацыя, не падмацаваная пакуль канкрэтнымі разлікамі. Бо здаўна ўсе мы ведаем, што наша сельская гаспадарка не пражыве без дзяржфінансавання і аднаго дня. Аднак у сувязі з прыходам да ўлады "свайго" прэзідэнта, апетыты яе ў апошні час сталі празмернымі, а датацыі нямеранымі: "колькі трэба"... А таму можна толькі вітаць намер хоць бы нейкім чынам зменшыць колькасць грошай, што кідаюцца "ў вёску" без надзеі на вяртанне.

### ФАКТ ТЫДНЯ

Паводле зацверджаных Міністэрствам працы новых сярэднедушавых спажывецкіх бюджэтаў ("кошыкаў") абсалютная большасць беларускіх сем'яў знаходзіцца цяпер за афіцыйнай рысай беднасці. Пры сярэднім заробку ў чэрвені 2 млн. 188 тысяч рублёў пражыццёвы мінімум для мужчыны складае 2 млн. 195 тысяч, жанчыны — 2 млн. 157 тысяч, дзіцяці да трох гадоў — 1. млн. 357 тысяч. Няцяжка падлічыць, што бацькі зарабляюць толькі на сябе, а дзецям з іх заробку нічога не застаецца. Эксперымент над нацыяй на выжыванне працягваецца.

### ПРАТЭСТ ТЫДНЯ

Сёння спаўняецца 20 дзён як была арыштавана здымачная група ГРТ на чале з П. Шараметам. Усе спробы грамадскасці і палітыкаў — звароты, пікеты, заявы ды інш. — вызваліць расійскіх журналістаў з-за кратаў хоць бы пад падпіску аб нявыездзе, нічога не далі: улады да просьбаў застаюцца глухімі. 13 жніўня П. Шарамет у знак пратэсту аб'явіў галадоўку... Улады тым часам зрабілі вопіс маёмасці ў кватэры П. Шарамета і папярэдзілі яго адваката Г. Паганяйлу, што ён можа быць пазбаўлены ліцэнзіі на адвакацкую дзейнасць... За развіццём падзей у Беларусі вакол сітуацыі з затрыманнем журналістаў сочаць не толькі ў Расіі, але і ва ўсім свеце. І, здаецца, на гэтым тыдні напружанне дасягнула свайго эпагею.

### ПАГРОЗА ТЫДНЯ

Нягледзячы на жорсткую антынатаўскую пазіцыю Беларусі, паўночна-атлантычны блок (пры падтрымцы Расіі) усё ж пашыраўся да самых нашых межаў. А значыць, прыйшоў час новых ініцыятыў беларускіх уладаў. Адну з самых цікавых прапаноў выказаў С. Посахаў: стварыць у бліжэйшы час новы антынатаўскі блок і... вярнуць на Беларусь выведзеныя ў Расію ядзерныя ракеты... С. Посахаў — асоба афіцыйная, а значыць словы гэтыя — не жарт.

### АДМОВА ТЫДНЯ

Зусім нядаўна газеты паведамілі, што былы спікер парламента Мечаслаў Грыб пасняхова здаў іспыты на званне адваката. "Яшчэ адным незалежным адвакатам, справядлівым абаронцам незаслужана абвінавачаных стане больш" — паспяшалася парадавацца апазіцыя. Аднак на мінулым тыдні стала вядома, што М. Грыбу ў атрыманні ліцэнзіі на адвакацкую працу адмоўлена... Аказваецца з "высокім званнем беларускага адваката" несумяшчальна тое, што М. Грыб прымаў удзел у санкцыянаваным шэсці ў дзень Канстытуцыі — афіцыйнага свята дзяржавы Беларусь.

### ЗАКАЗ ТЫДНЯ

8 жніўня прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка наведаў кінастудыю "Беларусьфільм". Адным з вынікаў візіту стаў заказ кінематаграфістам на "магутны, прыгожы" беларускі фільм, які здзівіць свет... Прэзідэнт паабяцаў выдзеліць на гэта 1 мільён долараў, пры ўмове, што фільм будзе зроблены роўна за год: 3 месяцы на сцэнарый і 9 месяцаў на здымкі.

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Стала вядома, што Міністэрства сувязі Беларусі задумала пабудаваць у Мінску новую звышсучасную тэлевежу. Ужо выбрана месца для яе — праспект Машэрава і вядомая будучая вышыня — 410 метраў. Ужо самі размовы пра "сваю" тэлевежу прыкмета нашай незалежнасці. Масква Мінску такога не дазваляла. Хоць, трэба прызнаць, неабходнасць у такой тэлевежы саспела даўно.

### АКЦЫЯ ТЫДНЯ

Пасля Мінска і Барысава "беларускім" горадам на некалькі гадзін стаў райцэнтр Стоўбцы. На мінулым тыдні за адну ноч усе чырвона-зялёныя сцягі ў горадзе былі заменены на бел-чырвона-белыя, а сцены дамоў распісаны "антыпрэзідэнцкімі" і "вострa-нацыяналістычнымі" лозунгамі. Акцыя "Горад наш..." крочыць па Беларусі?

### НЕСПАДЗЕЎКА ТЫДНЯ

Аказваецца і ў Еўропе не забылі яшчэ беларускі бел-чырвона-белы сцяг. У першыя дні чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы ў Афінах грэчаскае тэлебачанне побач з прозвішчам беларускага спартсмена змяшчала не чырвона-зялёны, а бел-чырвона-белы сцяжок. Але потым грэкі (як летась амерыканцы ў Атланце) апамяталіся і "справядлівасць" была аднолена.

АДГАЛОСКІ

# А гарантый няма...

Падобна на тое, што канфлікт вакол будынка па вуліцы Кірава 21, дзе месціцца Беларускі гуманітарны ліцэй, наўрад ці ў бліжэйшым часе атрымае пэўнае вырашэнне. Запаволілася развіццё падзей, якія па-ранейшаму ўяўляюць з сябе аднастайную хроніку штодзённых пікетаванняў, зваротаў і заяў, марных безвыніковых перамоў паміж кіраўніцтвам ліцэя, вучнямі ды іхнімі бацькамі з аднаго боку і ўладнымі чыноўнікамі Міністэрства адукацыі і Адміністрацыі прэзідэнта з другога.

Дастаткова цікавым падаецца стаўленне тых, хто ажыццяўляе распараджэнне А. Лукашэнкі аб перадачы згаданага памяшкання Упраўленню справамі прэзідэнта. Напачатку яны аніяк не рэагавалі на пратэсты бацькоўскага камітэта і вучняў. Аднак захады абаронцаў ліцэя, дарэчы, вельмі цывілізаваныя, вымусілі чыноўнікаў пайсці з імі на кантакт. У гутарках яны сцвярджалі, што ніхто не збіраецца ліквідоўваць ліцэй як навучальную ўстанову, што зараз вядзецца пошук магчымага варыянта перасялення ліцэя, які б задаволіў усіх. Але пры гэтым не тлумачылася, які ўсё ж сэнс пераводу будынка на баланс ведамства І. Ціцянкова. Ды ўвогуле дзіўна, чаму для правядзення такой маштабнай акцыі ўлады не выпрацавалі дакладнага механізму: хто зойме цяперашні будынак гуманітарнага ліцэя, куды пераедзе сам ліцэй і г.д. Усё цьмяна.

Падаецца, што ўлады хочуць папросту сцішыць абурэнне пратэстуючых, выйграць час. Так, было паведамлена, што навучальны год з 1 верасня ліцэісты пачнуць у сваім будынку. Аднак пісьмовае дакументальнае пацвярджэнне гэтага не даецца.

Сустрэчы дэлегацыі ліцэя з прадстаўнікамі ўладаў на мінулым тыдні гэтаксама аніякіх канкрэтных вынікаў не прынеслі. 7 жніўня вучні накіраваліся ў Адміністрацыю прэзідэнта, каб перадаць больш за пяць тысяч подпісаў, сабраных у абарону ліцэя. Да іх выйшаў начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта М. Падгайны, з якім і адбылася саракахвілінная гутарка. Першым пытаннем ліцэістаў, натуральна, было, ці атрымаюць яны нарэшце пісьмовыя гарантыі на тое, што пачнуць вучыцца 1 верасня ў сваім будынку. Спадар Падгайны адказаў наступным чынам: "Якія могуць быць гарантыі паміж дзяржавай і дзяржаўнай установай, якой з'яўляецца ваш ліцэй". Ён параіў пачынаць вубочу, а за год для ліцэя будзе знойдзены новы, дакладней перабсталяваны ў цэнтры горада, будынак.

На наступны дзень кіраўніцтва ліцэя і дэлегацыю ад вучняў запрасілі ў Міністэрства адукацыі, дзе з імі пагутарыў намеснік міністра А. Слука. Асноўным вынікам стала рэкамендацыя: "спыніце пікеты". Была дадзена згода з умовай, што да аўторка гэтага тыдня з'явяцца вышэйпамянёныя пісьмовыя гарантыі. У аўторак пікеты аднавіліся..

Прагназаваць, што будзе далей, складана, бо шмат што дзеецца насуперак логіцы і здароваму сэнсу. Што казаць, калі не зважаюцца нават Закон Беларусі аб адукацыі і Закон Беларусі аб уласнасці. Канфлікт вакол гуманітарнага ліцэя набывае і палітычную аздобленасць. Так, чацвёртага жніўня будынак ліцэя пікеталі прадстаўнікі БПСМ, якія ўчынілі сапраўдны фарс. Гэтыя новыя зацікаўленыя ў тым, каб атрымаць дом 21 па вуліцы Кірава, асобы выйшлі з лозунгамі: "Собственность комсомола — молодежным организациям" і "Долой национализм в образовании". Натуральна, аператыўна адгукнулася на акцыю, якая, дарэчы, была praведзена са значнымі парушэннямі заканадаўства, Беларускае тэлебачанне. Хіба ж не падаюцца такія дзеянні правакацыйнымі, амаль наўпрост ініцыіруючымі закрыццё ліцэя. У той жа час афіцыйныя ўлады рашуча адпрэчваюць усялякія абвінавачванні ў тым, што справа з ліцэем ёсць наступ на беларускую культуру.

Не зусім прыстойнымі выглядаюць і выказванні самых высокіх чыноўнікаў на адрас дзяцей, якія змагаюцца за свой сапраўдны другі дом, нібыта яны сталі марыянеткамі "ў руках" апазіцыйных палітычных партый. На гэта ў гутарцы са мной вучні ліцэя заявілі, што да іхніх захадаў у абарону ўласнай навучальнай установы недарэчна спрычыняць той жа БНФ. Яны адзначылі, што невінаватыя, што падзеі вакол ліцэя асвятляе выключна незалежная прэса, а дзяржаўная, куды яны неаднаразова звярталіся, ігнаруе. А БНФ маладыя людзі шчыра ўдзячныя, як і ўсім, хто выказвае падтрымку і занепакоенасць лёсам адзінага ў свеце беларускамоўнага ліцэя.

**Кірыла ПАЗНЯК**

# Запрашаем да супрацоўніцтва

АДКРЫТЫ ЛІСТ С. С. ШУШКЕВІЧУ

Шаноўны Станіслаў Станіслававіч!

З газет і ад калег мы даведаліся аб вашых намаганнях стварыць яшчэ адну партыю ў Беларусі, назваць яе сацыял-дэмакратычнай і да таго ж — грамадой.

Мы добра ведаем, што Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада створана па ініцыятыве нябожчыка Міхася Ткачова і яго аднадумцаў Міхася Чарняўскага і Анатоля Сідарэвіча. Паплечнікі Ткачова сумесна з таварышамі па партыі рабілі ўсё, каб Грамада была сапраўды сацыял-дэмакратычнаю. У такой якасці яна жыве і актыўна працуе сёння. Пасля аб'яднання з ПНЗ Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада атаясамілася з новай назвай — БСДП (Народная Грамада). Гэтая партыя паслядоўна трымаецца галоўных каштоўнасцей: незалежнасці Беларусі, дэмакратыі, законнасці, сацыяльнай абароненасці грамадзян. У БСДП знайшлі магчымасць самарэалізацыі, служэння Радзіме і мы, хто падпісаў гэты ліст.

Мы ўпэўненыя, што сёння Беларусі патрэбна кансалідацыя дэмакратычных сіл. Калі кожны былы Старшыня Вярхоўнага Савета або іншы вядомы палітык будзе ствараць сваю партыю дзеля асабістых інтарэсаў, то яшчэ сто гадоў Беларусь не будзе мець сапраўднай незалежнасці, дэмакратыі, законнасці, сістэмы сацыяльных гарантый.

І яшчэ дзве заўвагі. Па-першае, каманду па "адраджэнні" Грамады ўзначальвае, здаецца, Алег Трусаў, сумна вядомы тым, што ў 1994 г. вельмі дапамог правячым групоўкам, калі вераломна зняў галасы дэпутатаў, пададзеныя за вылучэнне Генадзя Дзмітрыевіча Карпенкі кандыдатам на пасаду прэзідэнта. Цяпер А. Трусаў зноў шчыруе, каб расказаць, аслабіць дэмакратычны рух.

І другое. У лістах, якія распаўсюджвае каманда А. Трусава, ужываюцца беспадстаўныя абвінавачванні, бессаромныя намёкі на адрас БСДП і яе кіраўніцтва. Прыёмы вядомыя. Наш палітычны вопыт падказвае, дзе могуць быць вытокі гэтага бруду. Але прычым тут Вы, Станіслававіч?!

Запрашаем Вас, калега, яшчэ раз прааналізаваць сітуацыю ў дэмакратычным руху Беларусі, рэальна ацаніць сваю ролю ў ім. Запрашаем да плённага супрацоўніцтва на карысць Беларусі, у тым ліку ў рэшычшы беларускай сацыял-дэмакратыі.

З найлепшымі пажаданнямі

**Георгій ТАРАЗЕВІЧ,**
**былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі БСДП.**

**Мечаслаў ГРЫБ,**
**былы Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, сакратар Цэнтральнага Камітэта БСДП.**

*Мінск, жнівень 1997 г.*

ВЫСТАВЫ

# Гэты непаўторны Айвазоўскі

Вядома ж, мастака Айвазоўскага — найперш яго знакамітую карціну "Дзевяты вал" — ведаюць нават людзі, далёкія ад мастацтва. Але ж Іван Канстанцінавіч за сваё жыццё стварыўшы каля шасці тысяч карцін, малюнкаў і акварэляў стаў адным з выдатнейшых марыністаў свету. Творы Айвазоўскага на сённяшні дзень захоўваюцца ў музеях розных краін. Ёсць яны і ў фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Цяпер, у сувязі са 170-годдзем з дня нараджэння слыннага жывапісца, тут арганізавана яго персанальная выстава, на якой прадстаўлена 13 жывапісных палотнаў і 2 гравюры. Гэтыя творы, адносяцца да розных гадоў дзейнасці майстра і даюць магчымасць атрымаць даволі выразнае ўяўленне аб яго творчасці. Прынамсі, можна пазнаёміцца з такімі работамі, як "Пётр І каля Краснай горкі", "Ноч на востраве Родас", "Бура", "Месячны пейзаж", "Раніца на моры", "Туманная раніца" і іншымі. А ў выніку лішні раз упэўніваешся, наколькі Айвазоўскі, застаючыся нязменным прыхільнікам адной і той жа тэмы, дзякуючы вялікаму свайму таленту, мог паказваць мора ва ўсёй яго красе ў самым розным стане. Адначасова, сам чалавек у яго паўставаў часцінкай гэтай стыхіі. Творы Івана Канстанцінавіча на такі шырокі погляд у мастацкім музеі выносяцца неўпершыню. У 1988 і 1992 гадах яны выстаўляліся поруч з творамі іншых выдатных творцаў, а экспазіцыі адпаведна называліся "Айвазоўскі і марыністы яго часу" і "Куінджы, Шышкін і Айвазоўскі".

**А. АН-ЕВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Свяці, свяці, наша "Звязда"!

У газет, як і ў людзей, свой лёс. Часам пакручасты, няпросты, са сваімі спадамі і ўздымамі, набыткамі і стратамі. "Звязда" ў гэтым сэнсе не выключэнне. Якніяк, 80 гадоў пражыць — гэта, як кажуць, не поле перайсці...

Першы нумар "Звезды" — так, "Звезды", бо да 1925 года яна выходзіла на рускай мове — з'явіўся ў Мінску 27 ліпеня 1917 года (9 жніўня па новым стылі). Ведама, які час быў. Паспрабуй правільна зарыентуйся! "Звезда" зарыентавалася, узняўшы свой голас у абарону абяздоленых, у змаганні за іх правы, за сацыяльную справядлівасць. За тую праўду, якую несла са сваіх старонак, паплацілася. Часовы ўрад двойчы забараняў яе. Выходзіла пад іншымі назвамі — "Молот", пасля — "Буревестник", а ад сваёй пазіцыі не адступала.

З 1925 года выдавалася ўжо на беларускай і рускай мове. А снежань 1927-га — яе другое нараджэнне, бо менавіта тады яна стала "Звяздой" — газетай беларускай. І не толькі па мове, а і па змесце, па нацыянальным духу.

А працаваць даводзілася ва ўмовах няпростых. І таму, што неўзабаве з'явіўся канкурэнт — газета "Савецкая Беларусь" таксама была беларускамоўнай і таксама пастаянна ўзнімала пытанні нацыянальнага адраджэння. Ды тут паразуменне знайсці было лёгка, калі ўлічыць, што абедзве газеты працавалі ў імя адной справы, у імя Беларусі.

Што было — тое было. Гэта, як у самім жыцці. І хацеў бы забыць тыя гады, ды не сціраюцца яны ў памяці...

У гады Вялікай Айчыннай вайны "Звязда" мужна заклікала да барацьбы з ворагам, расказвала пра тых, хто са зброяй у руках абараняў Айчыну. Спачатку выходзіла нелегальна, як орган Мінскага падпольнага камітэта КПБ(б), пасля — як орган ЦК КПБ(б) і Мінскага абкома ў зоне дыслакацыі партызанскіх злучэнняў на Міншчыне. У акупаваным Мінску выйшла чатыры нумары, у партызанскіх лясах — дзевяноста тры...

І ў наступныя гады лёс "Звязды" самым цесным чынам быў звязаны з жыццём краіны, з жыццём Беларусі. Дастаткова перагартаць падшыўкі таго часу (канечне ж, выбарачна, бо калі ўважліва чытаць, не адзін дзень спатрэбіцца, каб упэўніцца, што "Звязда" — як бы свайго роду лакмусавая паперка тагачаснага грамадства. Яна вітала вясну абнаўлення, што наступіла пасля "хрушчоўскай адлігі", але ж яна і кукурузу "сеяла". Яна выкрывала культ асобы Сталіна і яна ж дапамагала стварэнню культу Брэжнева...

Чарговае, трэцяе нараджэнне "Звязды" звязана з набыццём Беларуссю дзяржаўнасці, незалежнасці. І зноў усё адбывалася, як у самім жыцці. Спачатку шмат радасці, узнёсласці, пазней — цвярозы роздум над тым, што ёсць і што будзе. І разуменне, што "чацвёртая ўлада" — справа добрая, але ёю, як і любой уладай і трэба карыстацца ўмела. І тут "звяздоўцам" нельга не пазайздросціць.

"Звязда" — адзіная газета, якая не кідаецца ў крайнасці. Ні правыя, ні левыя бакі не вабяць яе, бо кірунак "Звязды" на сённяшні дзень — прамы і выразны. Паколькі яна адзіная беларускамоўная штодзённая газета ў Рэспубліцы Беларусь, яна гатовая падтрымаць усё, што спрыяе адраджэнню Беларусі, яе далейшаму росквіту. "Звязда" не баіцца даць магчымасць выказацца людзям з рэзка процілеглымі пунктамі гледжання, бо разумее, што толькі ў спрэчках нараджаецца ісціна. А да ісціны можна прыйсці толькі ў згодзе. А там, дзе згода, адкрыты і шлях да Беларусі. Свабоднай, незалежнай Краіны...

"Звязда", безумоўна, — газета грамадска-палітычная, але "Звязда" і газета, якую цікавяць розныя бакі паўсядзённага жыцця. Таму ва ўсе часы яна вялікую ўвагу ўдзяляла і пытанням літаратуры, тэатра, кіно, выяўленчага мастацтва, культуры ў цэлым. У свой час на яе старонках упершыню былі надрукаваны асобныя вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, байкі Кандрата Крапівы і нават яго камедыя "Брама неўміручасці".

Дарэчы, даваць мастацкія творы з працягам — добрая традыцыя "звяздоўцаў". Магчыма, цяпер яна крыху забываецца. Як і тое, што не так даўно, бадай, ніводная значная кніга, спектакль, фільм, выстава не заставаліся "Звяздою" не заўважанымі. А які цудоўны падарунак атрымалі чытачы ў маі 1990 года, калі з'явіўся маляўніча аформлены, шматколерны сувенірны спецвыпуск пад назвай "Слова", прысвечаны святу славянскага пісьменства і культуры. Сёння ён — бібліяграфічная рэдкасць...

Цяпер у "Звязды", як і ў іншых выданняў, нямала цяжкасцяў. Таму і не можа выходзіць, як яшчэ некалькі гадоў назад, у павялічаным аб'ёме. Ды і тыраж яе крыху знізіўся, бо грамадства зрабілася завельмі "інтэрнацыянальным", а таму сёй-той і павярнуўся ў бок, супрацьлеглы беларускасці. Аднак сталыя прыхільнікі "Звязды" не здрадзілі сваёй любімай газеце і здраджваць ёй не збіраюцца...

...У газет, як і ў людзей, свой лёс. Свой лёс і ў "Звязды". Але, калі для чалавека 80 гадоў — час падрахункавання, дык для перыядычнага выдання — узрост, калі жыць ды жыць. Таму і хочацца сказаць: свяці, свяці, наша "Звязда"! Тваё свята заўсёды было патрэбна, але, як ніколі, яно неабходна сёння. Дапамагай выбрацца на беларускую дарогу тым, хто яшчэ блукае, надай ім сіл і ўпэўненасці!

**А.М.**

ЭКСЛІБРЫС

# Беларускае студэнцтва на чужыне

*Рагуля Барыс. Лёндан (Канада) — Нью-Йорк, 1996.*

**Калі пачынаеш аналізаваць сённяшнюю сітуацыю ў беларускім грамадстве і спрабуеш даць адказ на пытанне: чаму здарылася тое, што здарылася, дык прыходзіш да абгрунтаванай высновы, што інакш і не магло быць, бо нельга з гразі вылепіць кулю.**

**Так, інакш і не магло быць. Занадта старанна прапольваліся беларускія гряды. Вось тыповая перадваенная сітуацыя. Барыс Рагуля, студэнт-медык Віленскага універсітэта, мабілізаваны ў польскае войска падчас сусветнай вайны, уцякае з нямецкага палону і вяртаецца ў родную Любчу. Прыходзяць саветы. У Любчы адчыняюць рускую школу. Ён пытаецца ў дырэктара: чаму? У адказ: "А вы что, националист?" А праз месяц — арышт, менская амерыканка і смяротны прысуд. Было яму тады 20 гадоў. Такой меркаю саветы ацэньвалі любоў да беларушчыны.**

**Б. Рагулю пашанцавала, расстраляць яго не паспелі, пачалася вайна, пасля якой ён апынуўся ў эміграцыі, сярод сотняў тысяч беларусаў, якія ўдосталь накапталіся камуністычнага хлеба і не жадалі вяртацца ў падсавецкую Беларусь. Моладзь хацела вучыцца. Хлопцы ды дзяўчаты меркавалі, што іхнія веды ўрэшце прыдадуцца Бацькаўшчыне. Ініцыятыўны Б. Рагуля дамаўляецца ў нямецкім універсітэце г. Марбарга аб прыёме беларускіх студэнтаў і неўзабаве там пачынаюць вучыцца каля 30 сяброў... Тут закладаецца адна з першых беларускіх студэнцкіх арганізацый на чужыне.**

**Неўзабаве цяжкія эканамічныя ўмовы прымушаюць студэнтаў шукаць месца вучобы па-за межамі Нямеччыны. Дзякуючы таму ж нястомнаму Б. Рагулю такое месца знаходзіцца ў Бельгіі, у каталіцкім універсітэце ў г. Лювэн. Дэмакратычныя парадкі універсітэта дазвалялі вучыцца ў ім людзям розных хрысціянскіх канфесій і хутка амаль уся беларуская грамада з Марбарга, а таксама беларуская моладзь з іншых краін свету перабралася ў Лювэн.**

**Як сведчыць аўтар кніжкі, беларускім студэнтам удалося наладзіць актыўнае грамадскае жыццё. З дапамогаю кампазітара М. Равенскага, запрошанага імі на сталае жыццё ў Лювэн, быў створаны беларускі хор, які прапагандаваў беларускую культуру па ўсёй Еўропе, абуджаў у беларускіх эмігрантаў цікавасць да ўласнага нацыянальнага жыцця. Дастаткова сказаць, што з лювэнскай студэнцкай грамады выйшлі такія вядомыя беларускія дзеячы на эміграцыі, як Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік, Павел Урбан, Вітаўт Рамук ды іншыя.**

**На жаль, ва ўспамінах не знайшла асвятлення адна з малавядомых гераічных старонак беларускай эміграцыі. Гэта засылка беларускіх разведчыцкіх груп у савецкую Беларусь у 50-я гады. А між тым, адзін з лювэнскіх студэнтаў, Цімох Вострыкаў патрапіў у такую групу і быў дэсантаваны ў Налібоцкую пушчу, а потым на 15 гадоў патрапіў у ГУЛАГ.**

**Большасць са студэнтаў-беларусаў на чужыне на працягу жыцця не адышлі ад беларускай справы і як маглі стараліся працаваць дзеля незалежнасці Бацькаўшчыны. Іхняе жыццё не было марным. Расце новая беларуская моладзь, якой трэба будаваць свой лёс, маючы дастойныя прыклады з ранейшых беларускіх пакаленняў.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ФАКТ

# Моладзь яднаецца

***На мінулым тыдні адбылося чарговае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па правядзенні ўстаноўчага з'езда грамадскага аб'яднання "Малады фронт". На ім быў абмеркаваны статут будучай арганізацыі, а таксама пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем з'езда.***

— На сённяшні дзень ужо, у асноўным,скончанае абмеркаванне статуту і амаль падрыхтаваны яго праект, — сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту "ЛіМа" старшыня аргкамітэта Андрэй Пятроў. — Вырашаны ідэалагічныя пытанні, што датычаць адносін з БНФ, а таксама з іншымі арганізацыямі, юрыдычнымі асобамі, якія будуць уваходзіць у "Малады фронт".

Паводле задумы арганізатараў, аб'яднанне будзе мець статус рэспубліканскага і дзейнічаць на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

— Хоць "Малады фронт" яшчэ не зарэгістраваны, але ўжо сёння мы маем арганізаваныя структуры ў некаторых рэгіёнах рэспублікі, — дадае А.Пятроў. — Асабліва моцныя філіі дзейнічаюць у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях. І хоць у астатніх суполкі яшчэ не вельмі падрыхтаваныя, мы плануем склікаць на з'езд як мінімум 300 чалавек.

Трэба сказаць, што ідэя стварэння самастойнай арганізацыі ўзнікла яшчэ ўвесну 1996 года ў маладзёжнай фракцыі БНФ, калі падчас веснавых акцый пратэсту на вуліцы выйшла шмат маладых людзей. Зарганізаваць гэтую стыхійна ўвайшоўшую ў палітыку моладзь і ўзяліся актывісты "МФ" БНФ. Першыя канкрэтныя захады былі зроблены на пачатку 1997 года. Вынікам іх стала стварэнне аргкамітэта. "Малады фронт" у будучым павінен стаць ядром, якое б гартавала вакол сябе дэмакратычную моладзь Беларусі. Натуральна, што ён будзе супрацоўнічаць і з іншымі маладзёжнымі аб'яднаннямі, але відавочна, што ў іх кола не патрапяць структуры кшталту БПСМ.

**Ян ВАЙТОВІЧ**

АДУКАЦЫЯ

# Пяць букварoў — не так і мала

***Абрэвіятуру НМЦ ведаюць у творчым асяроддзі. Навукова-метадычнаму цэнтру вучэбнай кнігі і сродкаў навучання патрабуюцца і аўтары, і складальнікі, і рэцэнзенты, і выдаўцы. Пра тое, як адбывалася станаўленне цэнтра і пра сённяшні стан выдання вучэбнай кнігі расказвае в.а. дырэктара Галіна Пятроўна ЗНОСЕНКА.***

— Стварэнне сістэмы нацыянальнай адукацыі немагчымае без падручнікаў па ўсіх галінах ведаў. Між тым цэнтрам вучэбнай кнігі да 1992-га года была, як вядома, Масква. У нас выходзілі толькі буквар, беларуская мова і літаратура, гісторыя і геаграфія БССР ды нешматлікія перакладныя дапаможнікі. Пачынаць давялося амаль што з нуля: вызначалі асноўныя накірункі і тэмы, шукалі аўтараў. Цэнтр прызваны забяспечваць патрэбы як прафесійнай школы (ВНУ, тэхнікумы, ПТУ), так і сярэдняй, а таксама дашкольнага выхавання. З выхаваннем, напэўна, складаней за ўсё. У гэтай сферы заўжды было шмат навацый і змен, за якімі кнігавыданню няпроста было паспець. А тут яшчэ і ідэалагічны крызіс падаспеў. Пасля распаду піянерскай арганізацыі настаў перыяд разгубленасці, адсутнасці арыентацыі, пошуку шляхоў. Натуральна, у нас таксама ішоў пошук прыярытэтных накірункаў. Што ж мы маем у гэтым плане на сённяшні дзень? За 96-ы год выйшла больш дзесятка кніжак, напрацоўка якіх вялася ўсе апошнія гады. Згодна з "Святы і абрады беларусаў" В. Літвінкі, "Выцінанка" М. Жабінскай. Такія кнігі цікавыя і для дарослых, бо хто нас асабліва выхоўваў па нацыянальнай лініі... З дзяцінства памятаю папяровыя фіранкі, выразаныя рукамі мамы. Самога слова, праўда, я тады не ведала, затое мае сняжынкі, прынесены ў клас на Новы год, былі самымі прыгожымі. Толькі пазней я даведалася, што гэта від народнага мастацтва. Дарэчы, мы ўпрыгожвалі выцінанкамі нашы стэнды на кірмашы ў Лейпцыгу.

**— НМЦ адзін прадстаўляў Беларусь на міжнародным кніжным кірмашы ці былі там і іншыя выдавецкія ўстановы?**

— Сёлета вясной сваю прадукцыю прадстаўлялі толькі мы. Найперш перад намі паўстала пытанне, што з сабою браць — рускія ці беларускія падручнікі. Не абышлося без дыскусіі. У выніку ўзялі 60 найменняў кніг, у тым ліку нацыянальныя буквары.

**— І што выклікала найбольшую цікавасць у наведвальнікаў?**

— Паколькі я сама працавала пры стэндах (трохі ведаю нямецкую мову), то магу засведчыць: у цэнтры ўвагі аказаліся якраз буквары. Справа ў тым, што ў нас ствараюцца камплекты падручнікаў для дзяцей з асаблівасцямі развіцця — з парушэннямі слыху, маўлення і для дапаможнай школы. Так што акрамя двух звычайных (Клышкі і Шылец) мы прывезлі туды тры спецыяльныя. У працэсе вытворчасці беларускі буквар для сляпых дзяцей (шрыфтам Брайля). У краінах СНД, наколькі я ведаю, такога няма. Дык і не дзіўна, што каля нашых стэндаў было даволі людна. Адзін выкладчык з Гамбурга, які збірае буквары краін свету, не мог адысціся, давялося яму адзін падараваць, адзін выслаць з Мінска.

**— Магчыма, не ўсе ведаюць, што цэнтр толькі заказвае і рыхтуе да друку вучэбную літаратуру, а выдаюць яе розныя выдавецтвы.**

— Мы супрацоўнічаем і з дзяржаўнымі выдавецтвамі — "Народная асвета", "Полымя", "Беларусь", "Вышэйшая школа", "Універсітэцкае", і з недзяржаўнымі. Якасцю паліграфіі сярод іх вылучаецца прадукцыя выдавецтва "Асар".

**— Прыемна было пачуць пра поспех нашых букваpoў, але, з другога боку, мы ведам і рэальныя працэсы: скарачаецца колькасць беларускіх школ, класаў... Што як гэтыя кнігі для першакласнікаў застануцца незапатрабаванымі?**

— Я ўпэўнена, што рана ці позна яны спатрэбяцца. У грамадстве закладзены здаровыя гуманныя тэндэнцыі, а гэта не прападае так проста. Не ўсе бацькі рашаюцца аддаваць сваіх дзяцей у беларускія класы, не ўсе кіраўнікі ў сферы адукацыі дастаткова свядомыя ў гэтым сэнсе, але ж былой непавагі да беларускага ўжо не будзе.

**— Як няма і ранейшай уніфікацыі ў сферы навучання.**

— Так. І вось вам яскравы прыклад. Існуюць дзве паралельныя праграмы навучання па беларускай літаратуры — М. Лазарука і В. Ляшук, на іх працуюць цэлыя аўтарскія калектывы. Няхай школы самі выбіраюць, па якой праграме вучыць дзяцей, гэта іх права. А мы выдадзім столькі асобнікаў, колькі заказана. У Расіі — яшчэ адзін прыклад — ёсць каля дзесяці варыянтаў падручнікаў па матэматыцы для аднаго толькі класа. Ва ўсім свеце гэта лічыцца нармальным.

**— На кірмашы вы ж, мабыць, параўноўвалі якасць уласнай прадукцыі і той, што прадстаўлялася іншымі краінамі. Ці намнога мы тут адстаём?**

— Калі мы і адстаём, то не па змесце, а выключна па паліграфіі. Бачылі мы новыя падыходы ў афармленні і падачы матэрыялу, выдатную картаграфічную прадукцыю. Адзначалі і тое, да чаго нам ісці ды ісці: на захадзе без аўдыя- і відэакасет падручнікі замежнай мовы не лічацца камплектам. Ёсць там і спецыяльныя праграмы для навучання і для паўтарэння матэрыялу і многае іншае.

**— Наколькі я ведаю, у цэнтра адзін час былі цяжкасці са сродкамі. Ці выпраўляецца становішча цяпер?**

— Упершыню за апошнія паўтара года мы выйшлі на апераджальнае фінансаванне: заказваем неабходныя сумы, і яны паступаюць у гарантаваныя тэрміны. Іншая справа, што грошай усё ж недастаткова, і мы штучна стрымліваем аб'ём кнігавыдання.

**Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## У дар — беларускі каляндар

**Выдавецтва "Беларусь", працягваючы добрую традыцыю, выпусціла адрыўны каляндар "Родны край" (рэдактары-складальнікі Валянціна Балвановіч і Валянціна Кудзіна) на наступны, 1998 год. Прыемна, што наклад выдання прыстойны — 75 тысяч асобнікаў. Як звычайна, у календары можна знайсці самую разнастайную інфармацыю, што тычыцца розных бакоў жыцця. Пры гэтым звернута ўвага на юбілеі і памятныя даты. А іх у 1998 годзе нямала. Да прыкладу: будзем адзначаць 135-годдзе з дня пачатку паўстання 1863—1864 гадоў і 160-годдзе з дня нараджэння яго кіраўніка Кастуся Каліноўскага. Спаўняецца 80 гадоў, як была апублікавана "Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча. 1998 год — гэта і 200-годдзе з дня нараджэння Адама Міцкевіча, якое прыпадае на самы схіл года, на 24 снежня. А яшчэ 85 гадоў назад у Пецярбурзе члены гуртка беларускіх студэнтаў упершыню паставілі камедыю Я. Купалы "Паўлінка". Важная падзея і 180-годдзе з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча. Не кажучы ўжо пра юбілеі сучасных беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў — і жывых, і тых, хто, на жаль, пайшоў з жыцця. А пачынаецца каляндар вершам У. Мацвеенкі, змешчаным на другой старонцы вокладкі, што так і называецца — "Родны край":**

***Атрымаў я ўчора ў дар***
***Беларускі каляндар.***
***Маці кажа: "Вось чытай,***
***Яго назва "Родны край".***

**В. ЗУШЧЫК**

## Стваральніца прыгажосці



**Таццяна Лабок з вёскі Луначарская Верхнядзвінскага раёна робіць свае вырабы з гліны і саломкі.**

## Усяму свой час

**У мастацкім цэнтры "Жыльбел" можна пазнаёміцца з выставай работ Рыгора Скрыпнічэнкі. Гэтая экспазіцыя, прысвечаная 930-годдзю горада-героя Мінска, незвычайная. На суд наведнікаў Р. Скрыпнічэнка выставіў не новыя свае творы, а акварэлі, якія выканаў яшчэ ў час студэнцтва — на пачатку шасцідзесятых гадоў. Акварэлі дазваляюць пазнаёміцца з многімі куткамі старажытнага і вечна маладога горада, у тым ліку і з тымі, што цяпер набылі іншы выгляд.**

## Пра творчасць Алеся Разанава

**Дачакалася манаграфій і сённяшняе пакаленне пяцідзесяцігадовых. Прынамсі, дзякуючы выдавецтву "Беларуская навука" выйшла кніга Ганны Кісліцынай "Алесь Разанаў. Праблема мастацкай свядомасці".**

# Не хвалюйцеся за багіню Кліо...

### ВЫМУШАНЫЯ ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ АРТЫКУЛА ВУЧОНАГА-ЭТНОГРАФА

Спакон веку базар быў генератарам і распаўсюджвальнікам розных чутак і плётак. На любым з іх ёсць свая адмысловая публіка, ці, як модна зараз казаць — свой электарат. Не выключэнне — і самы буйнейшы на Беларусі — Камароўскі. Ён не толькі ў цэнтры сталіцы, ён сам ужо цэнтр, магутны жывы механізм. Гэты механізм аніяк не мог абысціся без свайго друкаванага органа, свайго, гаворачы словамі класіка, "калектыўнага арганізатара і кіраўніка мас". І гэты орган з'явіўся. І з'явіўся зусім заканамерна. І не толькі таму, што яшчэ вельмі шмат у нашым грамадстве свядомых прыхільнікаў колішняй сістэмы "Кароткага курсу". Бог з імі. Іх ужо ніхто і нішто не пераканае. Але, відаць, і таму, што ёсць пэўныя сілы і колы, якім даспадобы норавы Камароўкі з яе базарным гвалтам і лямантам, а таксама тыя, хто ўвогуле разлічвае на ўлоў у мутнай вадзе.

Гэтыя думкі ўзніклі пасля знаёмства са зместам асобных нумароў тыднёвіка "Славянский набат", у якога, як бачна з выходных дадзеных, "учредитель — госпредприятие "Минский Комаровский рынок", а издатель — предприятие "Славянский базар".

Не было б нічога дзіўнага ў тым, што Камароўскі рынак мае сваё выданне, якое дапамагала б яго наведвальнікам (ці спажыўцам) лепей арыентавацца на рынку. Але замест гэтага прапаноўваецца зусім іншы тавар. Тое, што ён з душком і крыху падплеснявелы — няважна. Галоўнае, што ён у падмаляванай да глянцу абгортцы.

Акрамя назвы, звяртае ўвагу ў газеце ўвагу і тлумачэнне гэтай самай назвы: **"Набат — колокольный звон особого строя, означающий тревогу"**. Гэта, вядома, не "Из искры возгорится пламя", ці "Пролетарии всех стран, соединяйтесь!". Тут задача быццам бы прасцейшая. Калі не змаглі аб'яднаць пралетарыяў усіх краін, тых, каму, як вядома, няма чаго губляць, дык асядлаем іншага канька — славянскую ідэю.

Адкуль растуць вушы гэтай задумы, добра бачна. Разлік робіцца на тое, што Беларусь яшчэ доўга будзе знаходзіцца ў "аслінай шкуры" міфічнага Апулея, пакуль беларусы зразумеюць сябе зусім сапраўднай нацыяй.

Гэта цудоўна ўсведамляюць тыя, хто 70 год здымаў званы з храмаў, разумеючы, відаць, што аднойчы магутны вечавы звон можа прывесці праведны гнеў, які сатрэ ўсю злачынную антынародную хеўру. Ідэолагаў і практыкаў нацыянал-сацыялізму ў свой час пасадзілі на лаву падсудных, а іх старэйшыя браты — ідэолагі і практыкі сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, будаўніцтва "светлага будучага" — абышліся лёгкім "испугом" у канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. Тым не менш і гэтая з'ява, якая забрала дзесяткі мільёнаў жыццяў, з цягам часу атрымае міжнародна прававую ацэнку. І тое, што "Камароўка" падняла фальшывы звон, яшчэ зусім не азначае, што ўсе забыліся пра "святцы".

Знаёмства са зместам колькіх нумароў паказала, што адмысловыя прыёмы і метады, загатоўкі, ці балванкі недалёкай мінуўшчыны не здадзены ў архіў. Яны, праўда, крыху пераліцаваны, але дух — той самы. Галоўнае ў тым, гаворачы словамі сучаснага расійскага шлягера, што "за словами суть вещей мало кто поймет". Таму можна замяніць словы "савецкі" на "славянскі" і смела граміць і выкрываць "антыславяністаў" і "антыславянскую" (лічы антысавецкую) прэсу. А чаму не! Вядома, хто на базары гучней за ўсіх крычыць лаві злодзея, — сам злодзей.

Зразумела, што рэагаваць на падобную базарна-бульварную, ці, як кажа наш прэзідэнт, "жоўтую" прэсу зусім марная і бессэнсоўная справа. Хаця я і лічу, што яна мае права на існаванне і ведаю, што ў яе ёсць гарачыя прыхільнікі. Барані толькі Божа, каб у яе не з'явіліся прыхільнікі ва ўладных структурах.

Звычайна паважаючы сябе чалавек не чытае сумніцельных выданняў. Стараюся не рабіць гэта і я. Але па абавязку сваёй прафесіі гісторыка вымушаны праглядаць любыя выданні, а таксама працы розных людзей, як творы Сталіна, так і опусы Гітлера, айчынных і замежных даследчыкаў, "нацыяналістаў", "калабарацыяністаў" і г.д., ведаць таксама "творчасць" аўтараў "бульварнай прэсы". Такі лёс любога аб'ектыўнага даследчыка. Я ўжо не кажу пра архіўныя дакументы і сведчанні ўдзельнікаў гістарычных падзей.

Не збіраўся ўступаць у палеміку з газетай камароўскага базару. Хоць бы ўжо таму, што згодны з французскім філосафам Б.Паскалем, які пісаў: "І пачуцці, і розум мы ўдасканальваем ці, наадварот, разбэшчваем, гаворачы з людзьмі. Вядома, што адны размовы ўдасканальваюць нас, другія — наадварот. Значыцца, трэба рупліва выбіраць субяседнікаў. Аднак гэта немагчыма, калі розум і пачуцці яшчэ не развіты ці не разбэшчаны. Вось і атрымліваецца зачараванае кола, і шчаслівы той, каму ўдаецца выскачыць з яго". Ды гэтым разам "выскачыць" не маю рады, бо недаравальна пакінуць без адказу (хаця б з павагі да сваёй прафесіі) зневажанні ў адрас установы, у якой працую шмат гадоў, так і ў мой асабісты адрас. Тым болей, што гэты адказ вымушаны даваць паважанаму дасюль старэйшаму сябру па прафесійным цэху, доктару гістарычных навук, прафесару, члену-карэспандэнту НАН Беларусі Васілю Бандарчыку.

У 9-м нумары "Славянского набата" ў рубрыцы "Асцярожна,фальсіфікацыя!" змешчаны яго артыкул з гучнай назвай "Багіня Кліо ў заняпадзе" ды яшчэ з быццам бы балючым пытаннем-падзагалоўкам — "Колькі будзе працягвацца накірунак гістарычнай навукі на русафобію, замшэлы нацыяналізм і фальсіфікацыю гісторыі Беларусі?"

Азнаёміўшыся са зместам яго артыкула, я доўга не мог зразумець жанру гэтага, з дазволу сказаць, твора. Што гэта? Чарнавік даносу, ці спроба даць рэцэнзію прац інстытута? Назва і першыя абзацы сведчылі, што гэта "сігнал" у вышэйстаячыя органы, болей вядомы ў шырокай свядомасці людзей **звычайны данос агулам** на калектыў Інстытута гісторыі і, у прыватнасці, на яго кіраўніцтва — дырэктара М. Касцюка, які, дарэчы, сёлета абраны правадзейным акадэмікам, намесніка дырэктара па навуцы М. Біча і загадчыка аддзела ваеннай гісторыі А. Літвіна, а таксама на "каля 50 іншых іх аднадумцаў". На карысць гэтага сведчаць як зневажальна-з'едлівы тон артыкула, абсалютна ненавуковыя, бессэнсоўныя штампы-вызначэнні, кшталту "русафобія", "замшэлы нацыяналізм", фальсіфікатары гісторыі і г.д., так і наяўнасць у ім прапаноў па канкрэтных рэпрэсіўных пакараннях. Напрыклад: "Ці не прыйшоў час пазбавіць усіх такіх "вучоных" пасад і званняў?"

Не буду даваць адказ аўтару "сігнала" наконт бессэнсоўных абвінавачванняў інстытута ў т.зв. "русафобіі". Гэта аўтарытэтна зроблена іншымі і бачна любому незаангажаванаму ідэалагічнай слепатой чалавеку.

Мяне больш цікавіць спроба аўтара даць "навуковую" рэцэнзію на асобныя артыкулы першых двух тамоў Беларускай гістарычнай энцыклапедыі, прысвечаных падзеям Вялікай Айчыннай вайны, якія выйшлі чатыры гады таму назад. Зразумела, што любы добрасумленны даследчык заўсёды ўдзячны аб'ектыўным рэцэнзентам. Іх рэцэнзіі дапамагаюць аўтару ўдасканальваць свой твор, рабіць яго лепшым. І нічога кепскага няма ў тым, калі рэцэнзія з'яўляецца праз чатыры і болей гадоў. Галоўнае, каб яна была навуковай, каб яна была аб'ектыўнай.

Настроіўшыся на больш глыбокае знаёмства з заўвагамі, я ўзяў аловак і чысты ліст паперы. Але — ён застаўся чыстым. Прабачце, шаноўны Васіль Кірылавіч, толькі ж нічога новага, слушнага ў вашых заўвагах няма. Вашы заўвагі-абвінавачванні не пасуюць у навуковых спрэчках, яны разлічаны на тых, хто не абцяжарвае сябе неабходнасцю глыбокага ведання той ці іншай з'явы і каму дастаткова ідэалагічна-спрошчанага ўяўлення аб мінулай вайне.

Лішне пісаць, што паважаючы сябе рэцэнзент павінен ведаць прадмет сваёй крытыкі. Інакш яго заўвагі будуць насіць прыватны, ці, інакш сказаць, дылетанцкі характар. На такія заўвагі звычайна ніхто не рэагуе, а раіць аўтару пачытаць, ці паглядзець той ці іншы матэрыял.

Прабачце, Васіль Кірылавіч, але ў мяне склалася ўражанне, што артыкулаў, якія вы рэцэнзуеце, вы ўвогуле не чыталі. Не выключана, што вы падпісалі падрыхтаваны кімсьці матэрыял. Каб не быць галаслоўным, адпраўляю вас да свайго артыкула "Беларускае культурнае згуртаванне". Прачытайце яшчэ раз.

Вы прапануеце, каб у артыкуле было сказана, што Б. К. З. "працавала пад кіраўніцтвам мацёрага антысаветчыка Аўгена Калубовіча. Яно аб'ядноўвала фашысцкіх халуёў, якія фальсіфіцыравалі сапраўдную гісторыю Савецкага Саюза і Беларускай ССР, падзеі на фронце і ўсхвалялі нямецка-фашысцкія мерапрыемствы ў Беларусі".

Вам вельмі падабаюцца вызначэнні: "мацёры антысаветчык", "фашысцкі халуй" і г.д. Ваша справа. Але прычым тут навука? Няхай мяне .прабачыць чытач, знаёмы з артыкулам у ЭГБ, але для рэцэнзента і тых, хто не чытаў, хацелася б працытаваць урывак, з якога ўсё вышэйсказанае яскрава бачна —"Беларускае культурнае згуртаванне — БКЗ — культурна-асветная арганізацыя, якая дзейнічала на акупіраванай тэр. Беларусі ў Вял. Айч. вайну. Створана ў студзені 1944 г. у Мінску кіраўніцтвам БЦР са згоды германскіх акуп. улад. Кіраўнік А. Калубовіч. Мела 4 аддзелы: музыкі — узначальваў М. Шчаглоў (М. Куліковіч), прапаганды і бел. культуры — У.Дудзіцкі (У. Гуцька), літаратуры — Н.Арсеньева, музеяў і краязнаўства — А. Шукелайць. Ставіла за мэту аб'яднаць усе існуючыя на той час на Беларусі культ. асв. установы (тэатры, нар. дамы, б-кі, музеі і інш.). Пры дапамозе БКЗ кіраўніцтва БЦР спадзявалася ўздзейнічаць на бел. насельніцтва з мэтай прапаганды палітыкі і ідэалогіі акупантаў, б. бы супраць камуніст. ідэалогіі і інш. Аднак гэтыя спробы гітлераўцаў і іх памагатых не мелі падтрымкі нас-ва Беларусі".

Зусім незразумела, што маеце вы супраць маіх артыкулаў аб "Беларускай краёвай абароне", "Беларускай народнай самапомачы", "Беларускай Радзе даверу"? Так, так, Васіль Кірылавіч, падчас вайны гэтыя з'явы былі. Як і была спроба пэўнай часткі людзей пайсці на супрацоўніцтва з ворагам, была спроба стварэння прафашысцкага ўрада і беларускіх узброеных фарміраванняў. Гэта наша рэальная гісторыя.

Можна, канешне, увогуле было не пісаць ні пра Беларускую Цэнтральную Раду, ні пра Беларускую Самаахову, ні пра беларускую паліцыю, ні пра ўкраінскія, остмусульманскія, каўказскія ці ўласаўскія фарміраванні, што і рабілася на працягу 50 гадоў, бачачы ў любой публікацыі "імкненне абяліць фашысцкі рэжым і розныя прафашысцкія фарміраванні".

Успамінаюцца "ўстаноўкі" высокага партыйнага кіраўніцтва пры напісанні трохтомніка аб партызанскім руху: паліцаяў, здраднікаў не ўспамінаць — пра ўсіх пісаць "немцы", "фашысты", "гітлераўцы". І зусім не важна было, аб чым гаварылі дакументы.

Гэтага ж сёння патрабуе фактычна і В. Бандарчык. Якраз аб'ектыўны падыход да асвятлення падзей вайны вымусіў аўтараў і кіраўніцтва энцыклапедыі пісаць аб гэтых з'явах на старонках энцыклапедыі. Хацелася б, каб гэтых з'яў зусім не было ў нашай гісторыі, але калі яны былі, то аб іх трэба ведаць праўду. **І бяда нашай гістарыяграфіі, што гэтыя артыкулы і шмат іншых упершыню з'явіліся толькі ў энцыклапедыі. Такога няма нідзе ў свеце і, трэба спадзявацца, што больш не будзе на Беларусі.**

**Аляксей ЛІТВІН,**
**загадчык аддзела ваеннай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук**

*Ці думала калі, што буду сядзець вось так, адно насупраць аднаго, з самім Іванам Пятровічам Шамякіным? І не дзе-небудзь, а на ягонай дачы, каля Ждановічаў, дзе кожнае лета жыве пісьменнік са сваёй вялікай сям'ёй: жонкай, дочкамі, унукамі — усяго адзінаццаць душ. Тут ён працуе.*

*Які ён — Іван Шамякін — сёння? Аб чым думае? Што яго турбуе? Гэта і іншае і паспрабавала я высветліць у часе гутаркі.*

# Іван ШАМЯКІН:
# "Сёння ў нас ужо не сметнік..."

**— Іван Пятровіч, мне здаецца, зараз вы можаце сказаць пра сябе словамі з верша Г. Бураўкіна:**

***Я цяпер напорысты і злосны.***
***Не таму зусім,***
***Што я такі,***
***А таму,***
***Што час наш невыносны***
***Вельмі часта дорыць гузакі...***

— Добрыя радкі, і паэт добры... Я б не сказаў, што я злосны, гэта не лепшая якасць. Пісьменнік павінен быць добрым. Ён можа быць камуністам, можа быць нацыяналістам — гэта яго справа, але, калі ён садзіцца за стол, — павінен напаўняцца дабрынёй. Мне здаецца, зараз ужо ўсе зразумелі, што бязвоблачнае жыццё само не прыходзіць, шчасце трэба дабываць працай і барацьбой.

**— І з кім вы хочаце змагацца?**

— Я ўжо не лічу сябе змагаром. Не хачу, у маім узросце...

**— Інтэлігенцыі заўсёды жылося цяжка... І вашы апошнія аповесці ўсё часцей закранаюць гэтую тэму. Словы Аляксандры Іванаўны Клімавай, народнай артысткі СССР: "А ці ёмка сказаць, што я сёння галадаю?" — ці можна лічыць эпіграфам да нашай рэчаіснасці?**

— На шчасце, ніхто ў нас яшчэ не галадае. Гэта заслуга нашага кіраўніцтва, нашага прэзідэнта... Людзі ў нас жывуць не вельмі шыкоўна, але не галадаюць. Выраўнялася і становішча інтэлігенцыі. Гэтыя словы А. Клімавай былі сказаны 4—5 гадоў назад, калі ў нас панаваў песімістычны настрой, я сам амаль што галадаў... Зараз пенсія павышаецца, хаця ганарары па-ранейшаму нізкія. Становішча інтэлігенцыі цяжкае, асабліва ў пісьменнікаў, і ў першую чаргу з-за таго, што зараз рэзка абмежавана выдавецкае поле. Раней выдавецтва "Мастацкая літаратура" выдавала 180 назваў кніжак у год, зараз толькі 28 — і гэта на 500 пісьменнікаў саюза!



**— У 95-м "Звязда" надрукавала ваша "Адкрытае пісьмо Прэзідэнту РБ тав. Лукашэнку А. Р.", дзе вы выступілі ў абарону беларускай мовы і з заклікам дапамагчы творчай інтэлігенцыі Беларусі. Ці атрымалі вы адказ на гэтае пісьмо?**

— Пісьмовага адказу не было, але быў вусны. Ён прымаў мяне.

**— Прабачце, але гэта было праз год, у дзень вашага юбілею, — Лукашэнка прыняў вас у сваёй рэзідэнцыі...**

— Так... Увогуле ён добра ставіцца да мяне і да ўсіх маіх калег — з павагай. Мяне асабіста вельмі парадавала, што на Дні Незалежнасці Лукашэнка выступіў на беларускай мове. Потым яшчэ быў канцэрт, дзе гучала шмат беларускіх песень, — гэта вельмі прыемна... Учора я гутарыў з міністрам асветы Васілём Стражавым; ён паабяцаў, што колькасць беларускіх школ не будзе скарачацца. І падручнікамі дзеці будуць забяспечаны. Так што клопат урад праяўляе.

**— А як жа быць з тым, што ў Саюза пісьменнікаў забіраюць будынак?**

— Не вельмі я зразумеў, навошта гэта робіцца. Гэта работа не Лукашэнкі, гэта ўсё яго памочнікі... Навошта ж бударажыць наша племя пісьменніцкае? Не разумею. Ды і на будоўлю Дома літаратара 2/3 грошай выдаткаваў калісьці Савет Міністраў і 1/3 сродкаў — гэта былі літфондаўскія грошы. А ў Літфонд ішло 6 працэнтаў ад сумы пісьменніцкіх ганарараў, гэта значыць, непасрэдна з нашага пісьменніцкага заробку.

**— У 94-м годзе ў інтэрв'ю вы сказалі: "Не прымаю развалу Саюза... Не разумею жабрацтва народа". А крыху раней, у аповесці 93-га года "Вернісаж", прагучалі такія словы: "Хаос. Не, не хаос. У хаосе ёсць завяршэнне, пачатак і канец... А я не бачу канца нашага развалу... грандыёзны сметнік "вялікай дэмакратыі". Скажыце, на ваш погляд, што зараз робіцца на нашым "сметніку"?**

— Сёння ў нас ужо не сметнік. Зараз ужо парадак наведзены. Хаця я і разумею, што двойчы паўтарыць гісторыю нельга, усё ж такі саюз з Расіяй вітаю. Гэта павінна быць аб'яднанне, створанае па тыпе Еўрасаюза, дзе б мы маглі сумесна вырашаць эканамічныя і некаторыя палітычныя праблемы.

**— Добра, давайце крыху адыдзем ад палітыкі і звернемся да вашай творчасці. Я ведаю, што ў свой час вы сустракаліся з многімі вядомымі людзьмі: з Якубам Коласам, Андрэем Макаёнкам, Валянцінай Церашковай, Юрыем Гагарыным і многімі іншымі. Ці плануеце выдаць асобна свае ўспаміны пра гэтыя і іншыя сустрэчы?**

— З Клімуком і Кавалёнкам я каньяк піў! Пра свайго сябра Андрэя Макаёнка я напісаў "Аповесць пра сябра". Пра Коласа, Лынькова, Броўку, пра Івана Мележа — ён быў маім суседам па дачы — я напісаў успаміны. А вось Гагарына я бачыў толькі ў Нью-Йорку. У час XVIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, у рабоце якой прымаў удзел. Памятаю, што Валя Гагарына была такая замучаная ад усіх гэтых пералётаў! Яму — нічога, ён падрыхтаваны, а на яе шкада было глядзець. Але я з імі не размаўляў... Ды вось на днях я напісаў артыкул пра Ціхана Якаўлевіча Кісялёва да яго 80-годдзя. Шкада, што памёр: быў добры гумарыст і работнік, але і чыноўнікаў здорава ганяў! Мой зямляк. Апошнія мае ўспаміны былі пра выдатнага паэта Максіма Танка — эрудзіраваны быў чалавек, дарэчы, таксама гумарыст, рагатун... Пражыў я вялікае жыццё, многа людзей бачыў... Добра сябраваў з украінскімі пісьменнікамі: з Алесем Ганчаром, Сцяпанам Алейнікам, Васілём Казачэнкам, Багданам Чалым. Мяне многа выдавалі, амаль усе раманы выдаваліся на Украіне, мае п'есы ставіліся ў тэатрах Кіева, Львова.

**— Іван Пятровіч, я ведаю, што вашы творы выдаваліся на 30-ці мовах свету... А ў якіх краінах вам пашчасціла пабываць?**

— Ездзіў я няшмат, бо па характары дамасед. У былых сацыялістычных краінах па некалькі разоў быў. Ездзіў у Бельгію, Данію, Фінляндыю, Швецыю... А вось у Францыі не быў, Парыжа не бачыў! Неяк не давялося. Таксама на Усходзе не быў нідзе. У Кітаі выдавалася некалькі маіх раманаў, кітайцы мяне асабліва любілі!

**— Калісьці, яшчэ ў кнізе "Размова з чытачом", вы прызналіся, што вельмі не любіце пісаць публіцыстыку. Менавіта таму вамі напісана больш за "30 буйных твораў мастацкай прозы і толькі 3 кнігі публіцыстыкі"?**

— Па-мойму, толькі дзве... Гэта, па-першае. А па-другое — пісьменнік павінен пісаць мастацкія творы, а не займацца журналістыкай. Раней я пісаў шмат пра Сталіна, Хрушчова. Пра Брэжнева — мала. А вось Гарбачова адразу не прыняў.

**— А пра Сталіна пісалі шчыра?**

— Гэта былі заказы рэдакцыі. Зараз да яго ў мяне адносіны супярэчлівыя. Але ж вялікую ролю яго ў вайне адмовіць нельга!

**— Іван Пятровіч, неяк вы звярталіся да чытача: "Ты — мой кантроль, суддзя, дарадца, сябра". Дык кім жа, перш за ўсё, ён з'яўляецца, і які ён, ваш чытач?**

— Я і зараз магу паўтарыць гэтыя словы. Ён з'яўляецца адначасова ўсім... Але ўсё ж такі мой чытач мяняецца, можа, таму, што я сам мяняюся. Калі раней маім галоўным чытачом былі салдаты, у асноўным моладзь, студэнты, — пісьмамі проста завальвалі, асабліва пасля выхаду ў свет "Глыбокай плыні" і "Сэрца на далоні". Пісьмы ішлі цэлымі мяшкамі! Некаторыя яшчэ да гэтых пор захаваліся... З асобнымі чытачамі я нават перапісваўся... Так, з адной жанчынай з Хабараўска мы перапісваліся гадоў 15. Балгары пісалі, немцы... Зараз пісьмаў мала, і, як я зразумеў, асноўны мой чытач — людзі ўжо пажылыя...

**— У "Полымі" Валянціна Локун пісала: "Творчасць І. Шамякіна — адна з найбольш яркіх старонак былой савецкай літаратуры. Той яе часткі, якая была ў клопаце аб чалавеку, рамантычна яго апявала і разам з гэтым чалавекам шчыра верыла ў лепшую будучыню". Як вы адносіцеся да гэтых слоў?**

— "Былой" — гэта яна дарэмна. Так, было маё месца ў савецкай літаратуры, але літаратура не можа быць былая... Гэта — вялікая літаратура, самае галоўнае — у нас быў станоўчы герой. Можа, ніводная літаратура не мела такога героя! І мы яго апявалі. Вось зараз я вычытваю сваю новую аповесць — "Завіхрэнне", сюжэт вельмі цікавы, але расказваць не буду...Дык вось, мая трагедыя як пісьменніка зараз у тым, што я не знаходжу станоўчага героя!

**— Скажыце, з часам вашы літаратурныя захапленні мяняліся?**

— Так. Калі быў маладым, любіў Ясеніна і Паўлюка Труса. Ужо сталым пісьменнікам захапляўся Блокам. Любіў і люблю Танка, Куляшова, Пысіна, Бураўкіна, Лукшу, Зуёнка, з маладых — Мятліцкага, Пісьмянкова...

**— Я ведаю, што Іван Пятровіч Шамякін вельмі добры сем'янін, ажаніўся ў 19 гадоў "па шчырым каханні, на дзяўчыне, з якой быў знаёмы з 5-га класа". Ці ёсць нейкі сакрэт вашага шчасця?**

— Я застаўся верным юнацкаму каханню. Выхаваў 3 дачкі... Жонка ў мяне добрая, разумела спецыфіку творчай працы — а гэта самае галоўнае...

**— Наколькі вы лічыце сябе шчаслівым чалавекам?**

— Працэнтаў на 80... Розныя бываюць выпадкі: страта блізкіх ды іншае...

**— У адной з апошніх аповесцяў вы пісалі: "Не ржавее і не паддаецца пазалоце толькі адно пачуццё — Любоў: да зямлі, якую называеш Радзімай, да народа, якому служыш, і да дзяцей, якіх нарадзіў".**

— Так, я лічу, што гэта самае галоўнае ў жыцці. Тут і дабавіць нічога не магу.

**— Дзякуй, Іван Пятровіч, за гутарку! Поспехаў вам!**

**Гутарыла Раіса МШАР**

*Фота А. Мацюша*

## Вяртанне герба



Праз чатырыста гадоў на гарадскую ратушу ў Віцебску вярнуўся герб, дадзены гораду згодна прывілею на Магдэбургскае права яшчэ ў 1597 годзе: "в блакитном полю образ Спаса Збавителя нашого и прытом зараз нижей меч голый червоны, што ся разуметь кровавый". Выкананы герб у бронзе віцебскім скульптарам Валерыем Магучым.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Займальна і карысна

З любоўю да прыроды напісаны апавяданні і абразкі, што ўвайшлі ў кнігу Янкі Галубовіча "Гронка каліны", выпушчаную выдавецтвам "Беларуская навука" ў серыі "Школьная бібліятэка". У гэтым зборніку прадстаўлены таксама і казкі. Як у першым, так і ў другім выпадку Я. Галубовіч імкнецца пісаць займальна, пашыраць кругагляд дзяцей.

## Год за годам

Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, як вядома, у 1995 годзе выпусціла "Ілюстраваную храналогію Беларусі", якая ахоплівала падзеі з часоў глыбокай старажытнасці да канца першай сусветнай вайны. І вось з'явілася другая частка гэтага, безумоўна, вельмі патрэбнага выдання. Часавыя межы яе — 1919 год і да нашых дзён. Як і ў першым выпадку, прапануецца вельмі багаты фактычны матэрыял. Яно і не дзіўна: за адрэзак часу амаль у восемдзесят гадоў адбыліся падзеі вартыя памяці. Звесткі падаюцца ў храналогіі пагадовых запісаў. Часам прапануюцца і невялікія абагульняючыя матэрыялы. Шмат ілюстрацыйнага матэрыялу — каляровыя і чорна-белыя здымкі, карты, схемы.

## Памяці Івана Чыгрынава

У Мінску на вуліцы Пуліхава адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі з барэльефам Івана Чыгрынава і словамі: "У гэтым доме з 1977 па 1996 год жыў народны пісьменнік Беларусі Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў". Аўтарамі дошкі з'яўляюцца скульптар Генадзь Буралкін і архітэктар Яўген Кавалеўскі.

На адкрыццё дошкі сабраліся блізкія Івана Гаўрылавіча, тыя, хто яго добра ведаў і сябраваў з ім. Прачулыя словы пра аўтара знакамітых раманаў з жыцця Верамеек і іх жыхароў у гады Вялікай Айчыннай вайны, шматлікіх апавяданняў, шэрагу драматургічных, публіцыстычных і літаратурна-крытычных твораў, актыўнага грамадскага дзеяча, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны — гаварылі старшыня камісіі па захаванні творчай спадчыны Івана Гаўрылавіча Алесь Пісьмянкоў, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Зуёнак, старшыня Фонду культуры Уладзімір Гілеп, які на гэтай пасадзе змяніў І. Чыгрынава, вядомы літаратуразнавец, крытык, які адным з першых па вартасцях ацаніў напісанае І. Чыгрынавым, Уладзімір Юрэвіч...

***У развіцці любой з літаратур свету ёсць нямала выключных момантаў, сімвалічных па сваім характары, з якіх пачыналіся новыя этапы, новыя павароты, новыя рухі ў літаратурным і грамадскім жыцці і з якіх пачынаўся сам пісьменнік. Формула такога ўзаемазвязанага развіцця наступная: рух жыцця — рух часу — рух літаратуры. Прыгадаем вядомы выраз класіка пра эпоху Адраджэння, якая мела патрэбу ў тытанах і нарадзіла тытанаў духу.***

***Прыход Янкі Купалы ў літаратуру ў многім звязаны з выхадам у свет да свайго чытача газеты "Наша Ніва". Пачынаўся якасна новы этап нацыянальна-культурнага Адраджэння. Купалу, Коласа і іншых іх паплечнікаў нездарма называлі адраджэнцамі, а іх эпоху — эпохай новага беларускага Адраджэння.***

# Падказанае сэрцам застаецца

### ПАТРЫЯТЫЧНАЯ ЛІРЫКА ЯНКІ КУПАЛЫ НАШАНІЎСКАЙ ПАРЫ І ЯЕ ГІСТАРЫЧНЫ ЛЁС

Напэўна, вялікая духоўная сіла народа ў тым, што ён здольны ў неабходны момант паслаць на змену аднаму генію другога генія, вылучыць са сваіх духоўных нетраў цэлую плеяду нястомных рупліўцаў для новай хвалі беларускага Адраджэння. Так было ў рускай класіцы, калі на змену Пушкіну прыйшоў нікому яшчэ невядомы паэт, лейб-гвардыі гусарская палка карнет Лермантаў, які выступіў з вершам пра смерць і значэнне вялікага рускага паэта, з якім ён, дваццацідвухгадовы, нават асабіста не быў знаёмы. Пакрочыў след у след, падзяліўшы славу і лёс свайго папярэдніка.

Першае апавяданне Івана Мележа "У завірусе" прысвячалася К. Чорнаму і было надрукавана ў лістападзе 1944 года ў тым жа нумары газеты "Звязда", дзе змяшчалася і паведамленне аб смерці выдатнага празаіка і класіка беларускай літаратуры. Адзін класік прыходзіў на змену другому класіку. Пачынаў тварыць, ставячы перад сабою ў літаратуры і ажыццяўляючы задачы, якія пачынаў ажыццяўляць і ажыццяўляў яго настаўнік, а менавіта імкнуўся стварыць мастацкую біяграфію свайго народа пры пераходзе ад адной цывілізацыі да другой, ад адных форм гаспадарання на зямлі да зусім іншых форм узаемаадносін не толькі чалавека і зямлі, але і чалавека да чалавека.

Каб быць выдадзенай, кніга беларускіх вершаў Я. Лучыны "Вязанка" выдавалася за балгарскую! Адзіны прыжыццёвы зборнік паэзіі "Вянок" М. Багдановіча стаў беларускай класікай. Адзіны верш пятнаццацігадовага "беларускага Кабзара" Паўлюка Багрыма "Зайграй, зайграй, хлопча малы", упершыню надрукаваны, дарэчы, у Лондане, у друкарні на Граўплейс, 5, увайшоў ва ўсе хрэстаматыі і больш-менш поўныя анталогіі беларускай паэзіі. Парастак, а не загінуў, з усіх сіл цягнуўся да сонца, да волі ("Бо воля сонейку раўня", Я. Купала), ды стаў магутнай таполяй на ўзлеску, літаратурнай пушчы.

Васіль Быкаў быў пахаваны зажыва, яго імя высечана на абеліску над брацкай магілай, маці атрымала пахавальны ліст, а ён застаўся жыць, каб расказаць чалавецтву пра мяжу чалавечых мажлівасцей, пра чалавека і абставіны на вайне, пра неабходнасць кожнага ў кожны момант жыцця свайго пацвярджаць высокае званне чалавека на зямлі, здаваць маральны экзамен.

Андрэй Макаёнак, таленавіты драматург, удзельнік Керчанска-Федасійскага дэсанта на Крымскім паўвостраве, у першым жа баі быў паранены, яму пагражала ампутацыя ног, але ён не даўся гэта зрабіць, пагражаючы рэвальверам. І тады неўгамоннага палітрука вывезлі на Вялікую Зямлю на адзіным, цудам ацалеўшым там, самалёце. Назаўтра немцы наваліліся на дэсант і дашчэнту знішчылі яго, ніхто не ўратаваўся...

Існуе выраз, што беларусы спазніліся на свой цягнік. Адчуванне сябе ўласна беларусамі прыходзіць да мясцовага ці тутэйшага люду ў XIX стагоддзі, калі па ўсёй Еўропе разгарнулася фармаванне нацый. Але да таго былі іскры самапазнання і самаўсведамлення, якія раскідаў у народзе, пасеяўшы ў душах людскіх цікавасць да сваёй этнічнай прыналежнасці, Кастусь Каліноўскі, 27-гадовы кандыдат права, выпускнік Віленскага ўніверсітэта, — гэты беларускі "Пугачоў з універсітэта". Французскі апалагет іезуітаў граф дэ Мэстр менавіта так і прарочыў, што найбольшыя ўзрушэнні прыйдуць на рускія землі тады, калі на чале вызваленых сялян стане якінебудзь Пугачоў з універсітэта. Характэрна, што і наш "Пугачоў" пачынаў абуджэнне нацыі, несучы прарочае слова народу ў сваёй газеце "Мужыцкая праўда".Затым былі "гоманаўцы" — Х. Ратнер і А. Марчанка — пецярбурскія студэнты са Шклова (якіх , дарэчы, на той час у Пецярбурзе вучылася з Беларусі каля 9 тысяч чалавек), што выпускалі часопіс "Гоман". Тут жа распачалася дзейнасць Ф. Багушэвіча, які ўпершыню, бадай, акрэсліў геаграфічныя межы Беларусі ў сувязі з апісаннем арэалу распаўсюджання роднай мовы. Сюды спрычынілася і праца К. Каставіцкага (К. Каганца) і Г. Татура. Прайшоў этап самаўсведамлення, прыйшла пара тэарэтычнага, навукова абгрунтаванага этапу нацыянальнага самапазнання і самавызначэння, які прыпадае на 1906—1914 гг. Ён звязаны найперш з дзейнасцю газеты "Наша Ніва" (1906—1915). Навукова-асветная і культурная дзейнасць беларусаў прыняла легальныя формы. Нашаніўцы на чале з Янкам Купалам, братамі Луцкевічамі распрацоўвалі тэорыю беларускай культуры, аналізавалі шляхі нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі.

Нашанівец В. Ластоўскі выдаў "Кароткую гісторыю Беларусі" (Вільня, 1910), якая стала першай навуковай працай па гэтай тэме на беларускай мове. Я. Купала быў не адзін, вакол "Нашай Нівы" гуртаваліся выдатныя беларускія песняры М. Багдановіч, А. Гарун, М. Гарэцкі, Я. Колас, Цётка і інш. Літаратура стала адной з галоўных трыбун беларускага народа, з якой выказваліся гнеў і абурэнне, радасць і надзея, аптымізм і спадзяванне на духоўны росквіт. Літаратуру нездарма называюць "універсітэтамі душы". Літаратура арганізуе нацыянальнае жыццё, стымулюе нацыянальную псіхалогію, дапамагае выпрацоўцы самасвядомасці народа.

Нацыянальная ідэя — альфа і амега развіцця беларускай літаратуры.

Я. Купала адразу ўключыўся ў агульную працу з нашаніўцамі па беларускім Адраджэнні. Тут ён вызначыў для сябе адну з магістральных тэм творчасці — тэму Бацькаўшчыны, станаўлення дзяржаўнасці Беларусі, матыў маладой Беларусі, якая займае свой "пачэсны пасад між народамі". Творчасць Я. Купалы перыяду "Нашай Нівы" — амаль цалкам патрыятычная, па-грамадзянску мужная. Відавочна, такой была сама тагачасная рэчаіснасць. Нараджаліся вершы пра чалавека працы, пра сапраўднага гаспадара на зямлі, вершы пра родны край. Спыніліся на тых творах, якім не вельмі "пашанцавала" трапіць у шматтомныя зборы твораў народнага паэта ў савецкай Беларусі, творах, якія, можа, былі найдаражэйшымі для Купалы-паэта, бо былі яны для яго праграмнымі, вузлавымі, відавочна, не так лёгка даваліся, без якіх творчасць паэта выглядала прылізанай, абкрадзенай, нават трошачкі прэснаватай — бо з імі выкідваліся боль і гнеў паэта.

Што ж так не падабалася ў савецкай Беларусі ў вершах Я. Купалы нашаніўскай пары, што яны доўгі час знаходзіліся пад забаронай, не перадрукоўваліся, замоўчваліся, альбо і наогул выкідваліся з творчай спадчыны? Гэта не былі бляклыя радкі паэта-інтэлігента з плачам-енкам аб гаротаконцы", а з гэтага вашага местачковага нацыяналізму ўсе беды і пачынаюцца. Ізноў жа там, у вершах, на кожным кроку наш старэйшы "рускі чынадрал" прыгадваецца, а як тут крыўдзіць старэйшага брата, рускі народ, — сястру родную Расію. Забараніць!" Наогул дзіву даешся з тагачаснай дзяржаўнай ідэалогіі: лепшыя вершы народнага паэта БССР, лаўрэата розных прэмій, аўтарытэтнага і шаноўнага творцы — і пад забаронай, не мусіш іх нават прыгадваць, а не тое што цытаваць ці вывучаць у школах. Вершы, якія не адносяцца да савецкага часу, дзе ўсё прасякнута сыноўняй любоўю да Бацькаўшчыны і пякучым болем за яе лёс. Гэта ж яшчэ адно сведчанне заганнасці царскай палітыкі ў адносінах да нацыянальных ускраін. Яшчэ адно слова ў падтрымку камуністычнай ідэі брацтва, свабоды, роўнасці, еднасці. Ды не! Не тое! Не так! Вось ужо сапраўды ў савецкіх ідэолагаў, як у нарысе Г. Успенскага "Будка" ў будачніка Мымрацова, усё сыходзілася на адным патрабаванні "цягнуць" і "не пушчаць". Прытым "цягнуў ён звычайна туды, куды абсалютна не хацелі трапляць, а не пускаў туды, куды гэтага смяротна жадалі".

Зрэшты, так паводзілі сябе ўлады на Беларусі і з самім Янкам Купалам. Што тут здзіўляцца несамавітаму лёсу ягоных твораў?

Сярод забароненых у савецкі час твораў Янкі Купалы дарэвалюцыйнай пары — многія выдатныя, найпрыгажэйшыя вершы, глыбокая патрыятычная лірыка паэта. Гэта вершы нашаніўскай пары "Забраны край", "Казка аб песні", а таксама напісаныя пазней "Беларушчына", "Папросту", "Сваякі", "Смейся", "Увесь да дна". З дарэвалюцыйных вершаў "выпадалі" з поля зроку масавага чытача "Над Нёманам", "З мінулых дзён", "Брату-беларусу", а таксама часткова (?) паэма "На Куццю". Гэта нямала!

А калі яшчэ ўлічыць творы, якія знаходзіліся пад цэнзурай, напісаныя ў савецкі час? Тады якога Я. Купалу-паэта мы знаем? Што вывучалася ў школах? Што ведае сённяшні выпускнік сярэдняй школы, ды і выпускнік ВНУ пра творчасць Народнага песняра Беларусі? Часам толькі пакладзены на музыку Ігара Лучанка верш Я. Купалы "Спадчына" (1919г.). Цудоўны матыў, цудоўны змест, цудоўная песня, якая кранае душу і западае ў сэрца. А Купала-змагар, Купала-праўдалюбца, прарок, вяшчун, апостал народнага духу, магутная постаць беларускага Адраджэння? Усё гэта доўгі час заставалася і пакуль што застаецца па-за ўвагай грамадскасці і шырокага кола чытачоў. Святы абавязак навукоўцаў, педагогаў, настаўнікаў — данесці да вучнёўскай і студэнцкай моладзі патрыятычную лірыку Я. Купалы.

Спынімся на некаторых з твораў, напісаных у часы працы Янкі Купалы ў рэдакцыі газеты "Наша Ніва". Уявім сабе маладога Купалу, які прыехаў пасля працы на броварах ў рэдакцыю газеты ў Вільню, з галавой заглыбіўся ў вір самых найноўшых ідэй, самых супрацьлеглых думак, у вір жыцця і ў самы эпіцэнтр нацыянальна-культурнага руху. Ці мог паэт абысці тэму роднага краю, яго лёсу? З вуснаў зрываюцца прачулыя словы пра свой край і народ, пра спробу ўлад зрынуць іх у небыццё, пра долю і волю, пра душу жывую народа, пра голас з

най Радзіме. Не былі тыя творы і гнеўным асуджэннем бальшавіцкай ідэалогіі. Усё, супраць чаго пратэставала душа паэта, што гнеўна кляйміў і супраць чаго выступаў, — адносілася да дасавецкага перыяду ў гісторыі Беларусі, то ці ж магло яно напалохаць бальшавіцкіх ідэолагаў? Навошта камуністычная прапаганда адносіла ўсё ў вершах на свой адрас, чаму баялася чужых грахоў і чужых папрокаў на сваю галаву? Ды ў тым уся і справа, што на злодзеі і шапка гарыць: "Ведаем, куды вы хіліце, за беларускасць выступаеце, а ў нас ідэалогія шырэйшая — пралетарскі інтэрнацыяналізм. "Не ўсё сонца, што ў

дзедаўскіх і прадзедаўскіх магіл.

Патрыятычная лірыка паэта ў нашаніўскі перыяд — лірыка глыбокай філасофіі. У ёй няма і ценю фанфарнасці, апявання, звону літаўр. Больш тут — суму і тугі. Філасофіі быта і быцця, адчайная спроба пайсці да людзей, з людзьмі ("А хто там ідзе?"), "ідучы ад парога к парогу", як у той біблейскай прытчы, стукаючыся ў кожныя дзверы, падымаючы "на стогн жывых" усіх, хто здольны вярнуць сабе свой край, сваю песню, сваю мову, сваю будучыню. Верш называецца "Забраны край".

Як толькі ні называлі і ні называюць беларускія паэты свой родны край?! Якія вызначэнні-сімвалы ні знаходзяць! "Мой родны кут! Як ты мне мілы!" — у Я. Коласа; "Люблю свой край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла, дзе першы раз спазнала шчасце, слязу нядолі праліла," — такое прызнанне знаходзім у паэтэсы Канстанцыі Буйло, якая ледзь не ўсё сваё жыццё пражыла ў Маскве. Далей: "О Беларусь, мая шыпшына, Зялёны ліст, Чырвоны цвет. У ветры дзікім не загінеш, Чарнобыллем не зарасцеш", — так яшчэ на пачатку стагоддзя ў далёкім 1926 годзе напісаў таленавіцейшы паэт, прадбачлівы У. Дубоўка,які дваццаць сем гадоў адсядзеў у сталінскіх лагерах."Краем паэтаў" назаве Беларусь П. Панчанка, падкрэсліваючы: "І адна ў мяне — пра Радзіму — трывога, і адна ў мяне — на Радзіму — дарога!" "Зямля Беларусі! Ты помніш нямала..." — звяртаўся да сваёй Радзімы ў самы разгар Вялікай Айчыннай вайны П. Броўка. "Беларусь! Твой народ дачакаецца Залацістага яснага дня..." — усклікаў некалі геніяльны М. Багдановіч. "Беларусь мая, сонца, Дарагая і родная маці! На якіх раздарожжах згубіла ты шчасце сваё?" — са скрухай і жалем запытальна ўсклікаў У. Караткевіч. "Беларусь мая родная, Як жа я рвуся яшчэ раз пеша ўсю цябе змерыць, увесь і чабор твой і верас", — звяртаўся да Радзімы, нібы падсумоўваючы ўсё сказанае вышэй іншымі творцамі, Аркадзь Куляшоў...

Янка Купала назваў свой край "забраным краем". Дакладнасць вызначэння з'явілася настолькі выразнай, наколькі і гістарычна справядлівай, аб'ектыўнай, бо менавіта так пачалі зваць Беларусь самі яе жыхары пасля прымусовага далучэння зямель Вялікага княства Літоўскага, у склад якога ўваходзіла і старажытная Беларусь, да Расійскай імперыі, пасля чаго на працягу стагоддзяў запанавалі гады чорнасоценнай царскай рэакцыі на беларускіх землях. Сябе ж жыхары беларускіх абшараў называлі проста і зразумела — "тутэйшымі" (Драму "Тутэйшыя" Я. Купала напісаў пазней, у 1922 годзе). Верш Я. Купалы "Забраны край" упершыню быў надрукаваны ў зборніку "Шляхам жыцця" ў 1913 годзе. Верш меў напачатку прысвячэнне-падназву "Балканскім славянам", народам, якія стагналі пад турэцкім прыгнётам, але пазней тое вызначэнне было знята. Царскія ўлады верш прапусцілі, у выніку чаго твор убачыў свет. Пра адрасата яго не трэба было гадаць, няхай сабе і пры падабенстве долі-нядолі славянскіх народаў. Лёс "забранага" беларускага краю ўгадваўся тут у кожным радку і з кожным новым паваротам думкі, з кожнай новай дэталлю. Лёс селяніна, аратага і пастуха, сейбіта на сваёй спрадвечнай зямельцы, "спавітай у вечны туман", дзе "пад цёмнымі зорамі днюе, начуе, ляжыць на кургане курган", дзе "косы", і "сохі" "гуляюць там ройна".

Усё тут наша, роднае, беларускае, знаёмае да болю. Паэт дае эмацыянальнаацэначны малюнак жыцця ў краі як бы дыстанцыруючыся, выказваючы нібыта погляд "збоку", аб'ектыўна, але разам з тым вельмі і вельмі страсна, драматычнанапружана ("Я ведаю, знаю старонку такую, спавітую ў вечны туман...") Затым, як гэта часта бывае ў Я. Купалы, ідзе разгортванне штрыхоў-накідаў, расшыфроўваюцца думкі і пачуцці, якія набываюць пад пяром паэта рэзальныя абрысы, асядаюць у памяці. Настрой змяняецца, гучанне то гнеўнае, то задумлівае, то разважнае. Пачуццё набывае дынаміку, раскручваецца па спіралі, усё нарастаючы, каб з сілай асляпіць нечаканай думкай-развагай. "Выходзіць... і з ветрамі, з бурамі б'юць на трывогу: "Забраны край" клічуць уставаць". Забраць жа той край назад нялёгка, бо не толькі геаграфічна ён далучаны да іншай зямлі, межамі-разорамі адгароджаны ад свету і сілком спавіты чужацкай ідэалогіяй, але яшчэ і таму, што ў самім краі адбываюцца змены амаль неабарачальныя, бо беззваротна страчваюцца і песні, і слова, і мелодыі скрыпак, струны якіх "па-свойску чужая зрывае рука". У тым краі сляпы бацька знемагаецца ў цямніцы, а "на стражы пастаўлены сынок", "сыны зямлі роднай чужыя палеткі ў чужую карысць засяюць", "галодныя дзеткі.... чужую жывёлу пасуць". Знемагаецца "забраны край", а ў людзей "без ліку няволя есць сіл". Верш — драматычны, з мноствам сюжэтаў-разгаліненняў, якія патрабуюць нашага суперажывання. Паэт крыўёю сэрца піша гісторыю "забранага краю" з надзеяй, што воля магіл і "прадзедаў косці", якія ляжаць пад крыжам, натхняць людзей на непакору і падымуць іх. Рытміка верша гнуткая, яна мяняецца, напал пачуцця высокі, эмацыянальны рэгістр узвышаецца да трагізму, але агульная танальнасць усё ж аптымістычная. У творы — багаты лексічны склад, шмат афарыстычных выразаў, многія радкі вызначаюцца ўнутранай прастатой ("Купляюць, збываюць, гандлююць чужынцы Народным дабром як сваім...")

Не менш прыгожы, мілагучны і маляўнічы верш нашаніўскага перыяду "Казка аб песні". Купала сапраўды разгортвае перад сваім чытачом вершаваную казку пра песню, а гэта значыць, пра душу людскую, якую аплёў павуцiннем чужынец-заблуда, які "з ярмом даў і песню" чужую. Тут ужо не адкінеш, не адпрэчыш, калі нават у сэрцы пасялілася нуда, калі "народ сваёй песні забыўся". Я. Купала ўсклікае:

*Не ўмелі змагаць грамадою нягод*
*І бога хваліць грамадою,*
*Па шчасці нязведаным*
*грэшны народ,*
*Як каня, ўздыхаў за вадою.*

Вершы запамінальныя, глыбокія, праўдзівыя, выпакутаваныя паэтам. "Купала захапляецца ідэяй усебаковага адраджэння народу беларускага, ідэяй адбудавання паняволенае Бацькаўшчыны. — адзначаў Ант. Навіна (А. Луцкевіч) у выданні публічнай лекцыі "Янка Купала як прарок Адраджэння". Пры гэтым дадаваў: А ўсё гэта грунтуецца на вялікіх агульналюдскіх ідэалах".

Пра наяўнасць такіх твораў, забароненых цэнзурай у савецкі час, улады ведалі, але не дапускалі нават і напамінку пра іх. Маглі не "знасіць галавы" і самі паэты, маючы ў сваім арсенале такія творы выразна нацыянальнага гучання, дзе адстойвалася права беларусаў на сваю тэрыторыю, мову, культуру, на сваю ўласную гісторыю. Творы забараняліся, а самі творцы знаходзіліся на свабодзе (ці на свабодзе?!?). Пра гэтую акалічнасць добра выказваўся англійскі вучоны чэшскага паходжання Вальтэр Коларц, словы якога прыводзіць С. Станкевіч у кнізе "Янка Купала", выдадзенай БІНІМ у Нью-Йорку на 100-ыя ўгодкі нараджэння паэта. Дзякуючы такім выданням, даходзілі і дайшлі да нас многія творы класіка, доўгі час схаваныя ад чытачоў. У кнізе гаварылася наступнае: "Роля, якую ігралі Колас і Купала ў Савецкай Беларусі, не мае сабе падобных ува ўсім СССР. Ніводзін беларускі бальшавік ніколі не ўграў ролі народнага правадыра беларусаў, гэтая роля правадырства была ў руках Коласа й Купалы. Замiж "адхіліць" двух паэтаў савецкі ўрад прабаваў кіраваць на "добры шлях" іхнюю паэтычную дзейнасць і выкарыстоўваць іх для камуністычнай прапаганды. Колас і Купала былі часта аб'ектамі крытыкі: у пэўных момантах выглядала, што яны ў няласцы, але яны ніколі не зніклі, як гэта сталася і з шматлікімі выдатнымі пісьменнікамі й паэтамі амаль усіх галоўнейшых народаў Савецкага Саюза.

Вычышчэнне Коласа і Купалы было б раўназначным з банкроцтвам савецкай культурнай палітыкі Беларускай ССР, таму што гэтыя два чалавекі былі не толькі выдатнымі персанажамі, але, на справе, культурнымі "інцыятарамі" свайго народа. Беларусь магла б абысціся без сваіх гісторыкаў і фалькларыстых "нацыяналдэмакратаў", яна магла абысціся без сваіх кіруючых палітыкаў, але Колас і Купала былі неабходны. Іхні выпадак паказвае, што на ўсё ёсць межы, нават на чысткі ў Савецкім Саюзе. Нельга было пасунуць чыстку на Беларусі аж да таго, каб паставіць пад небяспеку культурныя асновы трэцяга народа Савецкага Саюза. Вось чаму Колас і Купала былі ашчаджаныя не зважаючы на іхнія "грахі" і "ўхілы".

Пісьменнікі заставаліся жыць і былі любімы ў грамадстве. Затое з іх творчасцю ўлады маглі рабіць усё, што ім хацелася.

Напісанае ад сэрца знойдзе дарогу да чытачоў. Абавязкова. Нават праз гады. Праб'ецца праз напластаванні хлусні і тоўшчу забыцця, бо і трава прарастае праз асфальт.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт, загадчык кафедры**
**беларусазнаўства БДУ**

БЛІЦ-КРЫТЫКА

# На подступах да самога сябе

***У сённяшняй рубрыцы "Бліц-крытыка" абмяркоўваюцца казкі-прыпавесці Пятра Васючэнкі "Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага". Як заўсёды, выказванні рэспандэнтаў тычыліся не толькі згаданага канкрэтнага твора, але і творчасці аўтара ў цэлым. У абмеркаванні бралі ўдзел Валянцін Акудовіч, Навум Гальпяровіч, Таццяна Мушынская, Людка Сільнова, Алесь Туровіч, Андрэй Федарэнка, Віктар Шніп, Генадзь Шупенька, Алена Яскевіч.***

***Нагадваем, што пералік прозвішчаў аўтараў выказванняў даецца ў алфавітным парадку, які не супадае з парадкам друкавання адказаў.***

Сярод прадстаўнікоў адраджэнскага пакалення творчасць Пятра Васючэнкі вылучаецца асаблівай цэльнасцю і інтэлектуалізмам. У прозе Пятра Васючэнкі чэхаўская тэма маленькага чалавека надала сучаснай беларускай літаратуры асабліва шчымлівую чалавечнасць. Вяршыняй творчасці Пятра Васючэнкі з'яўляецца драматургія, у якой яму ўдалося вырашыць адну са звышзадач беларускай літаратуры, паяднаўшы старажытнае і новае, увасобіць спрадвечны беларускі характар (як мару) у адценнях і фарбах сцэны. Гэтае паяднанне мары і рэчаіснасці асабліва адчулася чытачамі "Прыгодаў паноў Кубліцкага ды Заблоцкага".

Даўно з цікавасцю сачу за творчасцю Пятра Васючэнкі, своеасаблівы гумар спалучаецца з цікаўнасцю, кніжнасцю, і, так бы мовіць, даследчыцкім зудам. На ўсіх гэтых напрамках Пятро нешта набывае і нешта страчвае. Гэта, відаць, ад жадання і маладой прагі захапіцца ўсім, засведчыцца ўсюды. Тым не менш станоўчы знак перавышае, хаця, як мне здаецца, Пятро яшчэ на подступах да самога сябе. Вось і "Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага" мілая, цікавая кніжка, якая, як мне здаецца, спадабаецца не толькі Марылі, але і многім нашым хлопчыкам і дзяўчынкам.

Казкі нашага дзядзькі Пятра — не толькі для малодшага школьнага ўзросту, як пазначана, але і старэйшыя з асалодай пачытаюць і не раз, і не два слінку пракаўтнуць. Смачная мова ў дзядзькі Пятра! Ну проста мёд, поліўка грыбная, клёцкі ў масле!

Ні разу не сустракаў прозвішча Васючэнкі ў пераліку нашых лепшых сучасных празаікаў. А між тым некалі яго асобныя рэчы ненавязліва прэтэндавалі на месца ў анталогіі беларускага апавядання 90-х гадоў. Проза Васючэнкі месцамі мне нагадвае прозу Мрыя. Але Мрыю, здараецца, не хапала далікатнасці, тактоўнасці, натуральнасці гумару. Мрый смяшыць, не зважаючы на сродкі. Васючэнка — незласліва пасміхаецца. Мрый, іранізуючы, здзекуецца над сваймі нягеглымі героямі, Васючэнка, іранізуючы, аберагае сваіх нягеглых герояў ад здзеку.

Пятро Васючэнка — добры хлопец, але я яшчэ не зразумеў яго да канца.

Пятро Васючэнка яшчэ можа стаць адным з лепшых беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, адным з лепшых празаікаў, адным з аўтарытэтных крытыкаў і літаратуразнаўцаў... Ён — усюды, адно што толькі не выступае з вершамі.

Ён яшчэ можа стаць адным з лепшых... Але час ідзе, і гэтае "яшчэ можа" можа знікнуць, як дым. Варта Пятру нешта выбраць сабе па нутру і стаць першым у нейкім жанры, бо ўсюды ён першым быць не зможа, і гэта ўжо бачна нават сёння.

П. Васючэнка для мяне на сёння адзін з лепшых крытыкаў і празаікаў. Усё, пра што б ён ні пісаў, атрымліваецца ў яго на ўзроўні, у тым ліку і "Прыгоды..."

**А. Ф.**

У адным з апошнім нумароў газеты "Культура" Валянцін Акудовіч змясціў інтэрв'ю з героем сённяшняй лімаўскай бліц-крытыкі і слушна, з гумарам назваў П. Васючэнку "літаратурным камбайнам", які выдае шмат прадукцыі ў розных жанрах. "Прыгоды паноў Кубліцкіх і Заблоцкіх" — яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму.

Старонкі гэтай вясёлай і дасціпнай кнігі прымушаюць успомніць бессмяротнага барона Мюнхгаўзена і больш блізкага нам па часе капітана Урунгеля. Жанр літаратурнай казкі вельмі цяжкі. Мела магчымасць пераканацца ў гэтым на ўласным вопыце.

Цяжкі і таму, што жыццё наша, ну, зусім не казачнае. І таму, што яно зусім не сюжэтнае.

Асабіста я захапляюся фантазіяй аўтара, уменнем нават не сачыніць, а вынайсці сюжэт (якасць досыць рэдкая!), абсалютнай свабодай адчування сябе ў прасторы смешнага. Гратэскавая атмасфера гэтых дзіцячых казак нейкім незразумелым чынам адлюстроўвае алагізм і абсурднасць цалкам дарослага жыцця.

**Т. М.**

Перш за ўсё, спадар Пётр для мяне выкладчык і крытык, з тых людзей, хто ў значнай ступені фарміруе сучасны беларускі літаратурны светагляд — цераз лекцыі ў маладзейшых, цераз артыкулы ў старэйшых. Але ён з'яўляецца адным з аўтараў самага нелюбімага майго драматычнага твора. Твор быў зроблены ў сааўтарстве з Сяргеем Кавалёвым і прысвечаны прыгодам двух шляхцюкоў. П'еса так часта транслявалася па кабельным радыё, ды яшчэ даводзілася глядзець яе пастаноўку ў Тэатры юнага гледача... што сцерлася ў памяці яе назва, як забываецца і сціраецца назва чагосьці вельмі блізкага і звычайнага. Здаецца, герояў звалі панам Кубліцкім і Заблоцкім. Самае запамінальнае са спектакля — гэта прагныя паны ласуюцца мясам, апетытна прыгаворваюць: "САЛА, САЛА!", "КІЛБАСЫ, КІЛБАСЫ!". Вельмі непрыемна, калі так паказваюць нашу шматпакутную гісторыю, і свядома ці падсвядома разбураюць святыя ідэалы мінуўшчыны. Але тое, што дзеці падчас спектакля пляскалі ў далоні і шчыра смяяліся, у пэўнай ступені рэабілітуе ў маіх вачах нават і гэты твор.

**У наступнай рубрыцы "Бліц-крытыка" для абмеркавання прапануюцца творы Вітаўта Чаропкі — празаічны зборнік "Апошні князь" і апавяданні ў перыёдыцы.**

**Выказаць свае меркаванні можна па тэл. 233-19-85 рэдактару аддзела крытыкі Людміле Рублеўскай. Па жаданні рэспандэнта яго адказ можа быць падпісаны.**

КНІГАРНЯ

# Па-новаму і цікава

## УПЕРШЫНЮ Ў ГІСТАРЫЯГРАФІІ

Беларусі Я. Анішчанка ў кнізе "Генеральнае межаванне на Беларусі", выпушчанай выдавецтвам "Беларуская навука", разглядае ва ўсім комплексе праблем змест, ажыццяўленне і дакументальныя вынікі Генеральнага межавання ўсходнебеларускіх земляў. Сваім зместам кніга ахоплівае перыяд з канца XVIII да першай паловы XIX стагоддзя. У якасці дадатку прапануюцца унікальныя карты.

## КАЛІ ЛАСКА, ПА НЁМАНЕ

падарожнічайце. А дзеля гэтага неабавязкова выбірацца ў дарогу. На дапамогу вам паспяшалася тое ж выдавецтва "Беларуская навука". Адна з чарговых кніг яго - "Гродна і помнікі Панямоння" вядомага даследчыка даўніны Л. Аляксеева. Гэта кніга і дазваляе, няхай і завочна, зрабіць падарожжа па Нёмане, даведацца аб гісторыі паселішчаў, што размешчаны на яго берагах, слаўных людзях гэтага старажытнага і прыгожага кутка беларускай зямлі.

## І Ў ДАГІСТАРЫЧНЫЯ ЧАСЫ

не так і складана трапіць. Пры адной умове, калі напаткаеце кнігу А. Мядзведзева "Беларускае Панямонне ў раннім жалезным веку (I тысячагоддзе да н. э. — 5 ст. н. э.)". Яе выдаў Інстытут гісторыі Акадэміі навук. І хоць гэтая кніга, як, дарэчы і праца Я. Анішчанкі, навуковая, тым не менш сустрэча прынясе шмат карысці, бо дазволіць даведацца пра нашу гісторыю шмат новага.

# Брава, Даніэле!



У час гастроляў хору хлопчыкаў Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі ў Італіі да мяне, удзельніка той паездкі, падышоў пасля канцэрта ў горадзе Лекка малады прыкметны хлопец. Павіншаваў з добрым выкананнем на аргане і пацікавіўся, ці нельга наладзіць для яго некалькі канцэртаў на Беларусі. Ён — арганіст, выпускнік Міланскай кансерваторыі, працуе арганістам у каталіцкай царкве Францыска Асізскага. Гэта было ў снежні 1995 года. А сёлета 24 ліпеня беларускія аматары арганнай музыкі слухалі ігру маладога італьянскага выканаўцы — Даніэле Брывіа.

Ён сваёй ігрой парадаваў слухачоў і ў Мінску, і ў Полацку. Залы сталічнага касцёла Святога Роха і полацкага Сафійскага сабора былі перапоўненыя, шмат аматараў не змаглі трапіць на канцэрты, нягледзячы на даволі вялікі кошт білетаў.

Што ўразіла мяне як спецыяліста?

Па-першае, адносіны музыканта да аргана як інструмента, блізкага чалавечаму голасу, пявучаму, у піяна пяшчотнаму, у фортэ аб'ёмнаму, моцнаму, але не крыклівайму і не мітуслівайму.

Па-другое, праграма — ад Баха да сучасных італійскіх майстроў: разнастайная, яна дае магчымасць слухачам не толькі азнаёміцца з рэгістрамі нашых арганаў, але і пачуць творы рэдка выконваемых кампазітараў: М. Боссі, Дж. Марандзі (дарэчы, настаўніка Д. Расіні), М. Відора.

І, канешне, цікавае знаёмства з рэгістроўкай арганіста італійскай школы, выканаўцаў якой мы не так часта слухаем.

У выніку адбылася яркая падзея, за што вялікі дзякуй непасрэдным арганізатарам канцэртаў: Тамары Савіцкай у Мінску ды Ліліі Емяльянавай у Полацку. І яшчэ раз дзякуй таленавітаму музыканту Даніэле Брывіа, які не пашкадаваў вялікіх грошай, каб прыехаць на Беларусь і зрабіць маленькае музычнае свята для аматараў арганнай музыкі.

**Аляксандр МІЛЬТО**

# "Музобоз" паведаміў...

Вынікі міжнародных конкурсаў, што ўваходзяць у WFIMC (Сусветная Федэрацыя міжнародных конкурсаў), падсумавала вядомая расійская газета "Музыкальное обозрение". Сёлета Федэрацыі спаўняецца 40 гадоў, і за гэты час колькасць конкурсаў-"чальцоў" перасягнула сотню. Сярод краін у правядзенні конкурсаў лідзіруе Італія (там іх ладзіцца 19), затым ідзе Германія (12), Іспанія (10), Францыя (9), ЗША (6)... З былых краін СССР у Федэрацыі прадстаўлена адным конкурсам толькі Летува. Што да непасрэдных вынікаў мінулага конкурснага года, дык у вялізным спісе, надрукаваным газетай "Музыкальное обозрение", ёсць і адно беларускае імя: Сяргей Мікулік. Наш музыкант (пра якога, дарэчы, не так даўно пісаў "ЛіМ") названы ў ліку лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу піяністаў у партугальскім горадзе Порта.

**С. Б.**

ФЕСТЫВАЛІ

# "Славянскі базар-97": гульні эпохі постмадэрна

## РЭКЛАМНЫ КАТАЛОГ МАДЭЛЕЙ



***Што ні кажыце, а менавіта ў Віцебску, на Міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар-97", я канчаткова зразумела, што да жыцця трэба ставіцца прасцей. Памятаеце, як там у класікаў? "Что наша жизнь? Игра!" — віскліва тэнаруе Герман, а аркестр яму адказвае... ігрой пад назвай "хто ў лес, а хто па дровы". Так і гуляюць у "хто каго": ці то аркестр — салістаў, ці яны разам — дырыжора, ці разам з дырыжорам — слухачоў. Тых, што дачакаліся гэтай рэплікі ў фінальным акце.***

***Але ж сапраўды — ад "класічных" разважанняў, якія, падкрэслю, не маюць аніякага дачынення да беларускай опернай трупы, пяройдзем непасрэдна да "базарнай" практыкі. Тым больш, што ў гэтым я, шчыра прызнацца, базарная цётачка "са стажам". Таму пасля пазнавальна-карабельнай экскурсіі па "СБ-93", пасля канапных "бу-бу-букаў" пра "СБ-94", а таксама філасофскага кідання каменьчыкаў у "СБ-95" і верталётных фуэтэ над партытурай "СБ-96" я прапаную вам — гульні "СБ-97".***

***Такім чынам, мадэль першая —***

## ГУЛЬНІ З НЕБАМ.

Наведаўшы фестываль, Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка падчас прэзідэнцкага прыёму, падобна экстрасенсу, "даў установку": каб беларуская канкурсантка М. Жолудзева была першай. Калі пра гэта чула хіба не ўся "базарная" тусоўка, дык, відаць, пачулі і нябёсы. І — здзейснілі пажаданне: згодна жараб'ёўцы, Марына выступала першай.

Думаеце, простае супадзенне? Не, не і не! Праверыла — уласна на сабе. Недзе на пяты дзень фестываля я ўсклікнула: "Божа! Хутчэй бы скончыўся гэты фэст!" І ён — скончыўся. Для мяне асабіста. З распухлай пасля "варожай" падножкі ступнёю я апынулася спачатку ў гарадскім траўмапункце, а потым — у родным нумары гатэля, дзе не было ні тэлевізара, ні тэлефона. Адпачывай — не хачу! Ну чым не "дарунак лёсу"? Да таго ж, сам Алег Елісеенкаў! Мяне! Нёс на руках! Ці ж такога ад кампазітараў калі дачакаешся? А яшчэ — я не магла бачыць выступлення Уладзіміра Правалінскага на заключным канцэрце. Значыць, судовыя "разборкі" мне не пагражаюць. Бо і дагэтуль жывыя паданні пра тое, як пасля "СБ-92" спявак вёў судовы працэс супраць "ЛіМа".

Сярод тых, хто распачаў гульню з небам, быў і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай карпарацыі "Славянскі базар", дырэктар Генеральнай Дырэкцыі фестываляў Радзіён Бас. На адкрыцці прэс-цэнтра ён пажартаваў: маўляў, мы спецыяльна выклікалі з раніцы дождж, каб ён змыў усё непрыемнае. Нябёсы зразумелі гэта літаральна — і праводзілі "дэзінфекцыю" штодзённа. А напрыканцы "СБ" навальніца грымела ўсю ноч да світання: відаць, было што змываць. І асабліва

## "БАЗАРНА-ВАЛЮТНЫЯ" ГУЛЬНІ.

Гуляюць двое: фестываль і "васількі" — так званыя фестывальныя грошы. Перамагае, па-першае, той, хто дасягне фінішу... апошнім. А па-другое — "васількоўвыя рэстараны": калі "васількі" лічацца за грошы толькі ў іх, дык цэны можна адпускаць ажно ў космас. У кожным з выпадкаў гульня заканчваецца, галоўным чынам, для балельшчыка — уладальніка "васількоўвай валюты": яму лепей ехаць дамоў, пакуль засталіся хаця б "зайчыкі".

Дый увогуле "гульні" гэтай мадэлі вызначаюцца капрызлівымі зменамі "валютнага курсу". Дамаўляюцца на адну суму ганарару — выплачваюць крышачку іншую. Ці наадварот: дамаўляюцца на адну — патрабуюць іншую. Зразумела, самі лічбы ахінуты таямніцай, але не сакрэт, што, напрыклад, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі адпрацаваў свой юбілейны вечар без аплаты. А "сольнік" А. Саладухі пачаўся амаль гадзінай пазней яшчэ і з-за таго, што расійскія апаратары рэзка ўзнялі свой ганарар за тэлезапіс — і пачалі адкрыта шантажаваць спевака.

Побач з такімі "базарна-валютнымі" гульнямі на "СБ-97" пярэста квітнелі і проста "базарныя". Той жа "сольнік" А. Саладухі праходзіў на фоне... аркестравых пультаў, сарамліва прыкрытых шчытамі. Нішто сабе дызайн! Асабліва для тэлездымак. Але М. Фінберг спасылаючыся на маючую адбыцца раніцаю рэпетыцыю, не дазволіў прыбраць сцэну.

Гэтак жа "балела" за калегу А. Пугачова, якая раптам прыйшла на прэс-канферэнцыю В. Лявонцьева, дэманстратыўна пераключыўшы ўвагу журналістаў на сябе. Да таго ж, гэта быў яе першы "выхад у свет" на "СБ-97", бо папярэднія дні яна разглядала яго толькі праз таніраваныя вокны "Кадзілака", а П. Кіркораў залзуніваў журналістаў, што адправіў жонку на мора — з унукам. Вось і думай, хто тут вінен. Ці, больш дакладна,

## ХТО КАМУ.

Гульня "хто каму" — гэта спецыяльны фестывальны варыянт вядомых гульняў кшталту "хто каго", што ў перакладзе значыць — спаборніцтва, а на фестывальным "жаргоне" — конкурс маладых выканаўцаў папулярнай песні. Мадуляцыя з "хто каго" ў "хто каму" адбылася сёлета ўжо на жараб'ёўцы. Бо ўдзельнічалі ў ёй не самі канкурсанты, а дзеці, кожны з якіх "цягнуў нумар" некаму са спевакоў. Прычым не проста "цягнуў", а завабўаў падчас гульні. Гульня гэтая распаўсюджаная ў дзіцячых садках: каму не хопіць крэсла (а іх на адно меней, чым удзельнікаў) — той выбывае і становіцца нумарам "раз". Але дзеці, урэшце перастаўшы бегаць, пачалі хадзіць — усё больш асцярожна і запаволена. Апошнія ж хлопчык з дзяўчынкай, не зводзячы адно з аднаго вачэй, натуральна трымаліся за табурэтку і... садзіліся на яе абое. І так раз за разам, пакуль хлопчык не праявіў галантнасці, саступіўшы месца даме. Ну чым не "хто каму"?

Ды ўсё ж у поўнай меры асаблівасці гэтай гульні выявіў уласна конкурс і яго вынікі, якія дакладна дэманстравалі, хто каму падыгрывае. Не ў тым сэнсе, што М. Фінберг на чале Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі "падыгрываў" усім без выключэння канкурсантам, калі яны павінны былі выканаць песню-рэтра пад аркестравы акампанемент. А ў сэнсе тых балаў, што выстаўляла журы. Калі неардынарнасць Святланы Слаўкавіч (Югаславія) не выклікала ваганняў у прысуджэнні Гран-пры, дык астатнія тры месцы, згодна ўсім "палітычным раскладам", проста мусілі падзяліць між сабой "тры сястры": адпаведна Расія, Беларусь, Украіна. І падзялілі! Але нават сярод тых балаў, што набіралі "бездапаравыя" дыпламанты, кідалася ў вочы падыгрыванне сваім. І хаця ў інтэрв'ю члены журы шчыра адзначалі тую ж Агнешку з Польшчы, на балах гэта ніяк не адбілася: яна перамясцілася з шостага месца на пятае...

Але калі такія "гульні" прынеслі новыя ўяўленні пра матэматыку — не думаю, каб гэта было на карысць міжнароднаму аўтарытэту конкурсу. А ці ж будзе яно на карысць пераможцам? Той жа Марыне Жолудзевай з Оршы, якая, атрымаўшы II прэмію, парушыла шматгадовую традыцыю адставання беларускіх выканаўцаў.

Да шчырай радасці за спявачку і ўсіх, хто рыхтаваў яе да конкурсу, прымешваюцца і ноткі трывогі. У яе сапраўды ўклалі вельмі многа: пачынаючы выбарам песень, касцюмаў і заканчваючы манерай трымацца на сцэне. Гэта быў практычна першы прыклад гэткай мэтанакіраванай падрыхтоўкі канкурсанткі — і яна не падвяла. Нельга сказаць, што яна зрабіла ўсё, што магла (гэта хутчэй адносіцца да другой беларускай канкурсанткі — Стэлы) — Марына годна прадэманстравала свае патэнцыяльныя магчымасці. Не толькі багаты голас, але і духоўную, псіхалагічную глыбіню спеваў, надзвычайную для яе 16-гадовага ўзросту. Вось толькі — як гэтыя магчымасці рэалізуюцца далей? Бо ў Марыны — ніякай музычнай адукацыі. І ніхто ніколі не будзе больш так ёю апекавацца, як у перыяд паміж перамогай дзяўчыны ў тэлеконкурсе "Зорная ростань" і яе паездкай на "СБ-97". Ці Аляксандр Рыгоравіч і надалей "дасць установку"? Было б няблага. Адное толькі — каб не атрымалася з усяго гэтага

## КАМЕДЫЯ З ДВАЙНІКАМІ І ПЕРААПРАНАННЯМІ.

Дарэчы, гэта не столькі адмысловы жанр тэатральнага мастацтва, колькі апісанне сітуацыі, што на кожным кроку сустракаецца і ў тэатры масак, і ў вадэвілі, і ў меладраме, уключаючы "мыльную оперу". І хаця з яе часта намагаюцца зрабіць драму, камедыяй так і патыхае ад самой умоўнасці сітуацыі, яе першапачатковай тэатральнасці, недарэчнасці ў рэальным жыцці.

Ад падобных "камедый" на "СБ" таксама павявала сюррэалізмам. Ну хіба не "сюр", калі поруч з шыкоўным рэстаранам "Эрыдан", што пры аднайменным шыкоўным гатэлі, на пляцоўцы перад амфітэатрам з'яўляецца палатачна-паходная забягалаўка з красамоўнай назвай "Эрыдан-2". Дарэчы, лічбу "два" так і хацелася прыстасаваць да іменаў многіх артыстаў, якія пасля сваіх прэс-канферэнцый, што на "СБ" завуцца "рандэву з зоркай", прымушалі рэзка змяніць пра сябе ўражанне. Сярод дурасліввых "Іванушак International" распачынаецца "раскол згуртаваных радой" са спробамі філасофствавання Ігара Сорына і яго ж нежаданнем "спяваць у залатой клетцы". Галантны кавалер Уладзімір Бярэзін "цягнуў коўдру на сябе", амаль не пакідаючы магчымасці сваім калегам Алене Спірыдовіч ды Алене Ромінай уставіць слоўца. А Піліп Кіркораў шчыра адмаўляў прапанову газеты "Культура" даць дабрачынны канцэрт, грошы ад якога пайшлі б на адраджэнне згарэлай сядзібы Іллі Рэпіна "Здраўнёва", што пад Віцебскам: "Гэты канцэрт — як паездка групы "На-на" ў Чачню: прыгожа, але нікому не патрэбна".

На жаль, як на "двайніка з пераапрананнем" я вымушаная была глядзець і на знакамітага музыказнаўцу Святаслава Бэлзу — зусім не таму, што ён сын навукоўца і кампазітара Ігара Бэлзы. Проста ўзнікла жудаснае несупадзенне двух абліччаў: інтэлігентнага суразмоўцы, якога мы прызвычаіліся бачыць на тэлеэкране, — і звычайнага "аб'яўляльшчыка нумароў", якім ён паўстаў падчас цыкла штодзённых канцэртаў, ганарліва названых "Музычная гасцёўня Святаслава Бэлзы на "Славянскім базары". Пералік заслугаў спевака, сціслыя факты біяграфіі, парачка музычных жартаў-анекдотаў — вось усё, чым "Гасцёўня" адрознівалася ад звычайнага канцэрта. А перад выкананнем аднаактовай оперы С. Бэлза не пасаромеўся... проста прачытаць лібрэта па праграмцы. І гэта пры тым, што сама опера, прэм'ера якой адбылася сёлета ў сакавіку, бліскуча ўвасабляла сабой

## ГУЛЬНІ МУЗЫЧНЫЯ.

Пакладзеная ў аснову фрывольна-жартоўная казка А. Пушкіна "Цар Нікіта і сорак яго ных дачок" выклікала ў кампазітара Аляксандра Чайкоўскага хутчэй не эратычныя асацыяцыі, на што намякала рэклама, а цэлы комплекс жанравых, стылістычных алюзій, з дапамогай якіх музыка набывае лёгкае гумарыстычнае адценне. Працяг традыцый М. Мусаргскага, І. Стравінскага спалучыўся ў творы з тэндэнцыямі пастаўангарда, калі звыклыя элементы, нібы ў гульні, складаюць нязвыклае цэлае.

Філасофскія асновы гульні як роду чалавечай дзейнасці пранізваюць не толькі канцэпцыі многіх сучасных псіхолагаў, але і мастацтва постмадэрна ўвогуле. Разам з тым, з паэтычнага пункту гледжання да "музычных гульняў" можна аднесці і джазавыя "джэм-сэйшн", і нават — прыпеўкі. Уся справа — у іх мастацкіх якасцях.

Запісаныя на стужку прыпеўкі агучвалі ўжо згаданую жараб'ёўку канкурсантаў. Дзіцячыя галаскі спрытна выводзілі нешта пра "Славянскі базар" — вось толькі слоў было амаль не чуваць, дый плёнка раз за разам, у адпаведнасці з гульнёй-жараб'-

ёукай, спынялася ў самыя недарэчныя моманты. Усе заварожана сачылі за парадкам нумароў, і прыпеўкам дасталася самая няўдзячная роля — быць незаўважанымі. А шкада, бо ідэю "базарных" прыпевак, саму па сабе вельмі цікавую, можна было б рэалізаваць з большай выдумкай.

Як заўсёды на "СБ", цудоўнай і непрадказальна-непаўторнай была штодзённая работа "Джаз-клуба". Дастаткова назваць імя Вячаслава Ганеліна, які на гэтым фэсце быў "дэлегатам" Ізраіля, і піцерскую групу "Дайджэст", што пяты год запар прыязджае на "СБ" з новымі праграмамі. Адкрыццём сёлетняга фестывалю стаў дзіцячы джазавы калектыў з Масквы, а таксама балгарскія музыканты: дуэт "Доні і Момчыл" і група "Спрынт", якія менавіта на "СБ" упершыню распачалі сумесны сэйшн — гульню ў імправізацыю. Ну, а шырокавядомы "Церамквартэт", які ўдзельнічаў у выкананні оперы "Цар Нікіта" і быў госцем "Джаз-клуба", ужо нават па сваім складзе — арыгінальная гульня: домра малая, домра-альт, баян і балалайка-кантрабас.

Прыемна, што ў гэтым годзе мы, нарэшце, сустрэліся з беларускімі джазістамі: вядомай групай "Яблычная гарбата" і вакальным ансамблем "Полацк-апіта-квартэт". Апошні калектыў — гэта музыканты-выкладчыкі, якія аддаюць джазу вольны час і, галоўнае, душу. Можа, менавіта таму блюзы, спірычуэлсы, класічныя джазавыя кампазіцыі і нават апрацоўкі беларускіх народных песень гучаць у іх так адухоўлена і грацыёзна, бы повязь чароўных санетаў.

На жаль, вакалістаў ансамбля "Камерата", які нядаўна адзначыў 10-годдзе, можна было бачыць у "Джаз-клубе" хіба што ў якасці слухачоў. Не адбылося іх выступленне і ў межах "Музычнай гасцёўні": літаральна за дзень да канцэрта афішу заклеілі новымі іменамі — Уладзіміра Пятрова і Алега Мельнікава. Не, я не супраць гэтых праслаўленых салістаў беларускай оперы (іхні канцэрт сапраўды быў сярод найлепшых фестывальных імпрэзаў), ды толькі ад былога іміджу "Камераты" хутка застануцца адныя легенды.

Зразумела, усяму можна знайсці апраўданне: ансамбль "Чысты голас", з якім "дзяліла" канцэрт "Камерата", з'ехаў на гастролі, дый сама "Камерата" ў той жа дзень была занятая на юбілейным вечары Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.

Дык не будзем нікога вінаваціць. Заўважым толькі сімптом: унікальны ансамбль, падобнага да якога не існуе (па меншай меры, у межах былога Саюза), усё болей ператвараецца ў звычайны "падпевачны фон" для эстрадных салістаў. А гэта ўсё роўна, што асвяжаць паветра амфітэатра парфумай "Шанэль" — такая вось "гульня".

На жаль, не стаўся сапраўднай музычнай гульнёй юбілейны вечар Барыса Брунова — нягледзячы на назву "Загадка Б. С. Б." (Канцэрт для канферансье з аркестрам). Здавалася б, было ў тым канцэрце ўсё: ад беларускай каманды "вясёлых і знаходлівых" і пародый на артыстаў эстрады — да саміх артыстаў, уключаючы "касмічны выхад" Ігара Наджыева — шматабяцальнага паслядоўніка В. Лявонцьева. Ды прастора для фантазійне атрымала годнай рэжысёрскай канцэпцыі і "загадку" ў асноўным вырашаў аркестр разам з М. Фінбергам: ці ім яшчэ мерзнуць на сцэне, чакаючы свайго нумара, ці можна крыху адпачыць за кулісамі.

Дарэчы, з рэжысурай на "СБ-97" былі асаблівыя цяжкасці. Чым далей, тым болей мне ўспамінаўся беларускі канцэрт "СБ-96", які ўжо стаў амаль класічным прыкладам таленавітага спалучэння мастацкасці, вынаходлівасці, канцэпцыйнасці і відовішчнасці. З таго ж, што я бачыла на "СБ-97", бадай, толькі юбілейны вечар Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі меў логіку развіцця, выразныя кульмінацыі (брава І. Капланаву, які выступіў рэжысёрам) — і галоўную ідэю: нашы салісты не горшыя за знакамітых зорак.

Апошнюю думку пацвердзіў і "сольнік" Аляксандра Саладухі. Адзін, без балета, спяваючы жыўцом, ён здолеў падняць залу амфітэатра — пад дажджом, а трэцяй гадзіне ночы. І даказаў усім: ён ужо не скача на месцы, а рухаецца: ад "поп" да зоркі. І гэта ўжо вам не гульня!

А вось гала-канцэрт "Украіна музычная" хутчэй сімвалізаваў сабой

## ГУЛЬНІ "ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫЯ".

Пачаўся ён, нібы тэатр, "з вешалкі": пры ўваходзе кожнаму давалі невялічкі сцяжок з назвай канцэрта. "Як міла", —падумала я, прыгадаўшы настальгічныя ўспаміны дзяцінства. Сапраўднае прызначэнне гэтай "цацкі" я ўцяміла пазней, калі падчас канцэрта гледачы, як водзіцца, пачалі размахваць сцяжкамі. Здаля не было бачна надпісу, затое добра кідаўся ў вочы жоўта-блакітны колер, нібыта ўся зала ўдзельнічала ў мітынгу ў гонар незалежнасці Украіны. А што, чым не "гульня"? Тым больш, што ўвесь канцэрт надта нагадваў былыя ўрадавыя імпрэзы часін застою, а галоўнай яго "дальнабойнай" сілай былі шматлікія танцавальныя нумары, якія ў большасці выпадкаў дэманстравалі ваенную моц дзяржавы. І калі казакі выйшлі з коп'ямі, асабіста мне наогул захацелася ўзняць белы сцяг.

Дарэчы, беларусы ў гэтым сэнсе, у адпаведнасці з нацыянальным менталітэтам, дэманстравалі поўнае міралюбства. Аркестр Міністэрства абароны акампанаваў Машы Распуцінай, заключны банкет праходзіў у лесе, на нейкім палігоне, пад расцягнутым парашутам — накшталт шатра (вайскоўцы пастараліся). Ну, а канцэрт Ансамбля песні і танца, што адбыўся на пляцы перад амфітэатрам напярэдадні адкрыцця "СБ", і ўвогуле быў сярод самых адметных: і па прафесійным узроўні, і па разнастайнасці нумароў. Вось толькі адна недарэчнасць: афішы яго пунктуальна пералічвалі ці не ўвесь склад Беларускага саюза кампазітараў — відаць, каб ведалі нашых творцаў "па літарах". Каб ведалі яшчэ і па музыцы, вайскоўцы выканалі песень шэсць Ігара Лучанка і адну Леаніда Захлеўнага. Ну, а каб ведалі ў твар, пры канцы выйшаў адзін І. Лучанок.

Дарэчы, ён неаднойчы выходзіў і на галоўную сцэну "СБ-97" — і не толькі ў якасці старшыні журы конкурсу маладых выканаўцаў. Так, на канцэрце аркестра М. Фінберга ён сядзеў за "Ямахай" і падмахваў акампанемент сваёй песні "Маці", а на вечары Б. Брунова яго аб'явілі як "старшыню Асацыяцыі цяжкай атлетыкі" — і ён дарыў юбіляру карціну (зразумела, не ўласнай работы).

А мяне ўсё свідравала думка: папярэднія старшыні журы (і М. Легран, і Н. Бабкіна, і А. Пятроў) мелі на "СБ" свой аўтарскі вечар. Чаму ж мы, беларусы, пазбавілі сябе ды нашых гасцей сустрэчы з нашай песеннай класікай? Тым больш, што гэта магла быць прэзентацыя чарговага магнітаальбома І. Лучанка, выхад якога быў прымеркаваны да "СБ-97". Тут нельга ківаць на самога кампазітара: ён, вядома ж, адкажа, што яму нічога не трэба. Яму, можа, і "не" — а нам, ягоным сучаснікам, "трэ": хаця б дзеля таго, каб не было потым сорамна перад нашчадкамі.

На жаль, такіх "палітычных" гульняў, што былі звязаны не з "вялікай палітыкай", а з "тусовачным міжсабойчыкам", на фестывалі хапала — як, дарэчы, і ўвогуле на эстрадзе. Да апошняга моманту пад пытаннем быў і ўдзел Ірыны Дарафеевай у беларускім канцэрце — ды добра тое, што добра заканчваецца. Словамі "спяваю песні для людзей, а значыць — буду жыць" яна нібы запрашала да іншых гульняў — з агульнай назвай

## "ПЕРАМАГАЮЦЬ УСЕ!"

На "СБ-97" перамаглі прэзентацыі. Не ў тым сэнсе, што іх было багата (на тое ён і базар!). І не тыя, куды прыходзілі, у асноўным, па гарэлку "Саладуха" ці проста пад'есці, як гэта практыкавалася на "Дыскабазары". Проста некаторыя прэзентацыі запомніліся менавіта "гульнямі для дарослых".

Да таго, што выставы аздабляюць музыкай, мы прызвычаіліся. А вось мастак Андрэй Смаляк, перанёсшы свой вернісаж з Артцэнтра М. Шагала ў сквер перад ім, запрасіў, акрамя Віцебскага дыксіленда, яшчэ і мадэльера Людмілу Тараканаву з яе калекцыяй "Свята на Пакроўцы", дзе стылізаваныя персанажы М. Шагала. І кожная жанчына атрымала букецік — не проста ад мастака, а з рук шагалаўскіх герояў!

Самай жа вясёлай была прэзентацыя з сухавата-навуковай назвай "Офіснае камп'ютэрнае абсталяванне: XXI стагоддзе". Замест працяглага пераліку тэхнічных характарыстык "вумных" машын арганізатары прапанавалі віктарыны, напаўжартоўныя спаборніцтвы, — і ніхто не скардзіўся, што яго прымаюць за дзіця.

Між іншым, на працягу ўсяго фестывалю Р. Бас не стамляўся даводзіць, што "Славянскаму базару", дарэчы, споўнілася 6 гадкоў, таму ён падобны да дзіцяці, якое рыхтуецца ісці ў школу, каб вучыцца пісаць і лічыць. Ну, лічыць ён яшчэ доўга не навучыцца (утойваць падлікі — іншая рэч: ён валодаў ёй з нараджэння). Наконт "пісаць" — таксама: будуць прэтэнзіі да журналістаў. А вось наконт "гуляць"...

На мой погляд, "СБ" ужо па сутнасці сваёй прызначаны менавіта для таго, каб на ім — "гуляць дык гуляць!" Без абавязковай прысутнасці "Сяброў", але пажадана пры наяўнасці сяброўак, што прапануюць анёльскія "крыльцы" дапамогі ў "крытычныя" дні загулу. Таму раю сваім паслядоўнікам: прыехаўшы на "СБ", найперш атрымайце "васількі" — і йдзіце ў "Арт-бар" дый сядзіце там невылазна: і адпачняце, і плётак найноўшых наслухаецеся, і з зоркамі перазнаёміцеся. А бегаць па ўсялякіх там канцэртах — яшчэ ногі адаб'яце.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

КУЛЬТУРА

# "БЕЛАРТ" і яго госці



*На здымку: Л. Крапіўная, Л. Доўбуш, дырэктар Брэсцкага клуба чыгуначнікаў У. Яшчук на адкрыцці выставы.*

Пяць год існуе ў Брэсце недзяржаўны мастацкі салон "БелАрт". Яго гаспадыня Людміла Крапіўная, архітэктар па адукацыі, расказвае:

— Працуем практычна без зарплаты, на адным энтузіязме. Калі спатрэбілася перабірацца ў іншае памяшканне, самі і клеілі, і фарбавалі. Сама дзіўлюся, як мы дасюль пратрымаліся...

Кожныя два месяцы ў салоне адкрываецца новая выстава — у асноўным прафесіяналаў і аматараў Брэстчыны. Для навучэнцаў ВНУ арганізаваны лекторый. Сярод тых, чые творы можна было пабачыць дзякуючы салону, Г. Вяль — графік еўрапейскай вядомасці, І. Фяцісаў — заслужаны работнік культуры, Т. Дзянісава — выкладчыца дзіцячай мастацкай школы, мастакі М. Кебец, Л. Салаўеў, А. Грыгор'еў і іншыя.

Брэсцкія жывапісцы любяць свой горад, ведаюць яго гісторыю. Пра гэта сведчаць нават назвы персанальных выстаў: "Міражы над старым Брэстам" (А. Фяцісава), "Твой горад" (Н. Богдан).

Песняром старога Брэста справядліва называюць і Лявонція Доўбуша. Больш паловы са ста яго работ закуплены мясцовымі музеямі, паўдзесятка з іх упрыгожваюць кабінет Людмілы Пятроўны.

— Мне не хацелася б расставацца з гэтымі цудоўнымі акварэлямі. У іх увасоблена наша гісторыя. Асабіста ў мяне вулачкі і куточкі старога горада выклікаюць настальгічнае пачуццё. Па іх блукала маё дзяцінства...

Л. Доўбуш не толькі патрыёт горада, куды ён прыехаў юнаком, ён падарожнік, адкрывальнік новага. У 22-х краінах свету пабываў мастак, што надало шматграннасць яго творчасці. "Знаёмячыся з творамі Л. Доўбуша, пераконваешся, што яго мэта — спазнаваць Зямлю і яе людзей", — пісала мастацтвазнаўца І. Тарыма.

Што гэта сапраўды так — сведчыць новая выстава станковай графікі ў мастацкім салоне на Набярэжнай. За простай, непрэтэнцыёзнай назвай — "Па краінах свету" — бачыцца добрая цікаўнасць і чуйнасць сэрца мастака, чые работы шырока выстаўляліся за мяжой і ўпрыгожваюць музеі, галерэі, прыватныя калекцыі многіх краін. У яго падарожных акварэлях усходняя і заходняя экзотыка — не самамэта, ён найперш звяртае ўвагу на чалавека, адчувае яго характар, яго злітнасць з той ці іншай мясцовасцю.

На прэзентацыі сваёй выставы герой дня быў элегантным і стрыманым. Адчувалася, што ў яго ёсць вопыт падобных імпрэз. Сярод тых, што прыйшлі сюды яго павіншаваць, былі і акцёры: творчая біяграфія Л. Доўбуша непарыўна звязана з абласным драмтэатрам, дзе ён працаваў афарміцелем.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Фота Ю. КУСКОВА*

МУЗЫКА

# Кантрабасісты — лідэры

Сёлета маладыя беларускія музыканты ўпершыню ўдзельнічалі ў кішынёўскім Міжнародным конкурсе імя Яўгена Кокі. Удала выступілі і нашы піяністы, і струннікі. Але бадай самай яркай была перамога беларускіх кантрабасістаў.

У кішынёўскім спаборніцтве ўдзельнічалі пяць маладых беларускіх майстроў кантрабаса — навучэнцаў Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі ды студэнтаў акадэміі. Як сцвярджае дырэктар ліцэя Уладзімір Кузьменка, пра беларускую выканаўчую школу на кантрабасе літаральна хадзілі легенды падчас конкурсу. Ігрой яе выхаванцаў захапляліся і члены журы, і публіка. А педагог маладых беларускіх кантрабасістаў дацэнт Мікалай Крывашэеў быў узнагароджаны спецыяльнай граматай журы, якую яму ўручыў міністр культуры Малдовы. Дарэчы, гэта унікальны выпадак, каб столькі вучняў аднаго педагога сталі лаўрэатамі.

Сталы музыкант, педагог Мікалай Крывашэеў скончыў Маскоўскую кансерваторыю па класе Яўгена Коласава. Потым іграў у аркестры Акадэмічнага тэатра оперы і балета, у Беларускім камерным, а цяпер ён — канцэртмайстар акадэмічнага сімфанічнага аркестра групы кантрабасаў Беларусі. Аксамітны тэмбр ягонага кантрабаса чуюць усе наведнікі канцэртаў, бо разам з усёй групай інструментаў першы кантрабас надае гучанню сімфанічнага аркестра адмысловую аснову, грунт.

На конкурсе ў Кішынёве самыя захопленыя водгукі атрымаў ягоны вучань-дзевяцікласнік Андрэй Шынкевіч, які спаборнічаў з музыкантамі старэйшага ўзросту, уключаючы студэнтаў. Журы адзначыла ў яго выкананні чысціню інтанацыі, шчырасць, віртуознасць. Андрэю Шынкевічу не было роўных — ён заняў першае месца.

Другое падзялілі вучань дванаццатага класа ліцэя Пётр Хіменак, які нядаўна стаў ужо студэнтам Акадэміі музыкі і музыкант з Румыніі. Трэцяе заняў студэнт другога курса Акадэміі музыкі Пётр Шайтэр.

М. Крывашэеў паведаміў, што ў Кішынёве конкурс кантрабасістаў складаўся з двух тураў. На першым выконваліся найскладанейшыя эцюды без суправаджэння фартэпіяна ды п'есы, старадаўнія санаты, на другім — "адвольным" — творы розных кампазітараў, і нашы кантрабасісты ўключылі ў сваю праграму творы беларускіх аўтараў Вячаслава Кузняцова, Ларысы Мурашкі. Абавязковым жа творам другога тура была п'еса малдаўскага кампазітара Алега Негруцы.

Спецыяльным дыпломам конкурсу ўзнагароджана беларуская канцэртмайстар Марына Федарчук, якая акампанавала нашым кантрабасістам.

**Вера КРОЗ**

# Адрас любові — слова

Аляксандру КРЫВІЦКАМУ — 70



**Вядомы мовазнаўца-дыялектолаг Аляксандр Крывіцкі нарадзіўся ў в. Залессе на Мсціслаўшчыне 15 жніўня 1927 года. Вучыўся ў сярэдняй школе. На пачатку 1944 года быў прызваны ў Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі паступіў у Магілёўскі педінстытут на філалагічны факультэт. Ужо там праявіў зацікаўленасць народным словам. Збор лексічных багаццяў Магілёўшчыны пачаў пад кіраўніцтвам удумлівага і сур'ёзнага даследчыка і педагога П. Юргелевіча. Усе гады вучобы ў інстытуце быў старастам дыялекталагічнага гуртка, штолета выязджаў у экспедыцыі.**

**Пасля вучобы год настаўнічаў. Але неадольна вабіла да сябе мовазнаўства, і ён пераходзіць на працу ў акадэмічны інстытут мовазнаўства. У 1959 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Неўзабаве выдаў працу "Сучасная беларуская літаратурная мова". Тры выданні вытрымаў яго папулярны нарыс "Наша родная мова".**

**Актыўны ўдзел прыняў А. Крывіцкі ў стварэнні капітальных двухтомных прац "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" (1963) і "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак" (1968—1969). Гэты навуковы звод звестак аб гаворках усіх куткоў Беларусі стаў каштоўным набыткам беларускай нацыянальнай культуры. За названыя працы А. Крывіцкі разам з іншымі аўтарамі быў удастоены Дзяржаўнай прэміі СССР. Пры яго непасрэдным удзеле стварыліся грунтоўныя кнігі "Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі" і "Нарысы па беларускай дыялекталогіі".**

**А. Крывіцкі — умелы і сур'ёзны арганізатар збору і даследавання лексікі беларускіх народных гаворак. Па яго ініцыятыве былі падрыхтаваны і выдадзены лексікаграфічныя зборнікі "З народнага слоўніка", "Народнае слова", "Народная лексіка", "Жывое слова", "Народная словатворчасць". Ён — арганізатар стварэння і адзін з аўтараў пяцітомнага "Тураўскага слоўніка", адзін з аўтараў калектыўнай манаграфіі "Беларуская мова для небеларусаў".**

**Амаль кожнае лета А. Крывіцкі праводзіць у экспедыцыях, збірае матэрыялы для "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа" і "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак". У 1976 годзе выйшла з друку яго брашура "У рытме з развіццём мовы", у якой расказваецца пра стан беларускай моўнай культуры ў розныя гістарычныя перыяды, паказваюцца лінгвістычныя набыткі пасляваеннага часу. Сумесна з А. Жураўскім выдаў абагульняючую працу "Беларускае мовазнаўства ў Акадэміі навук БССР" (1979). У ёй даюцца ацэнкі найбольш значных даследаванняў у галіне мовазнаўства за паўстагоддзя існавання акадэміі. Некалькі яго прац прысвечана фанетычнай сістэме беларускіх гаворак. Разам з А. Падлужным апублікаваў вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў "Фанетыка беларускай мовы" і "Практыкум па фанетыцы беларускай мовы". У працы "Што такое лінгвагеаграфія" папулярна расказаў пра вывучэнне моў лінгвагеаграфічнымі сродкамі.**

**Выключна прыязна ставіцца А. Крывіцкі да сваіх маладзейшых калег, кансультуе, раіць, падказвае накірунак навуковых пошукаў, кіруе падрыхтоўкай кандыдацкіх дысертацый. Заўсёды ён строгі, патрабавальны, але справядлівы рэдактар навуковых прац, слоўнікаў.**

**Вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства А. Крывіцкі з'яўляецца членам Міжнароднай камісіі "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа", кіруе Беларускай нацыянальнай камісіяй "Лінгвістычнага атласа Еўропы" і ўваходзіць у склад рэдакцыйнага савета гэтага атласа.**

**Георгій ЮРЧАНКА**

ПАМЯЦЬ

# З дынастыі Уладамірскіх

Ёсць у мастацтве імёны, якія адразу — варта толькі вымавіць іх — адгукаюцца ў нас ланцугом асацыятыўных уражанняў. Такое імя — "Уладамірскі". Слынная акцёрская дынастыя!

Галоўны ў ёй быў Уладзімір Восіпавіч, паплечнік і творчы аднадумца Фларыяна Ждановіча і Еўсцігнея Міровіча. Разам з У. Крыловічам, Г. Грыгонісам, К. Міронавай, Л. Ржэцкай ён сваім няўрымслівым тэмпераментам і псіхалагічнай праўдай характараў не толькі выконваў бліскуча галоўныя ролі ў першых спектаклях Першага БДТ — Купалаўскага тэатра, — але і закладаў асновы таго феномена, што завецца беларускім акцёрскім мастацтвам. На яго адкрыццях і здабытках вучыліся і вучацца пакаленні акцёраў нашай нацыянальнай сцэны.

Вельмі ярка падхапіў эстафету высокага майстэрства бацькі Барыс Уладамірскі, на творчым рахунку якога за дзесяткі гадоў склалася галерэя арыгінальных вобразаў як з класічнай драматургіі, так і з твораў сучаснікаў. Да нядаўніх часоў тую эстафету бясспрэчна таленавітай дынастыі годна нёс сын Барыса, унук карыфея Улада-Уладамірскага (так яго называлі ў закулiссі) — Саша.

Калі старога Улада прасілі сказаць, чым ён "бярэ" гледача ў палон, акцёр, які быў дзівосна пластычным і рабіў цуды, пераўвасабляючыся ў вобраз да непазнавальнасці, адказваў было надта коратка: "Я шаную слова..." Потым тлумачыў, што ў беларускай мове, калі ты яе шануеш, чуецца — і тое трэба ўносіць у манеру сцэнічнага вымаўлення — пэўная музычная, непаўторна фанетычная афарбоўка. І калі табе хочацца сказаць "так", дык сачы, каб то "а-а" паспела праспяваць свой акорд, а калі — "не", дык па-іншаму паспявай праспяваць "е-э..."

Сапраўды, Уладамірскія — з тых акцёраў, якія песцяць і зберагаюць харaство беларускай тэатральнай мовы з натуральнай унутранай патрэбы тое рабіць.

У гэтыя дні адзначаецца юбілейная дата ў жыцці цяпер адзінай ахоўніцы традыцый і архіва "дома Уладамірскіх", рэжысёра і актрысы Купалаўскага тэатра Галіны Іванаўны Уладамірскай. Яе імя пазначана на афішах спектакляў у свае часы этапных для трупы роднага тэатра — гэта творы К. Крапівы і А. Макаёнка, М. Горкага і А. Астроўскага, Н. Хікмета і Г.Фігейрэду. Працуючы сумесна з выдатнымі рэжысёрамі-пастаноўшчыкамі ў якасці асістэнта, яна перш-наперш выступала строгім кантралёрам культуры мовы. Але асістэнт, як кажуць, і "размякчае гліну", калі ідзе аналіз тэксту п'есы, і выпрацоўвае мізансцэны, і збірае патрэбны іканаграфічны матэрыял... Усё гэта рупліва і сумленна рабілася Г. Уладамірскай. А колькі яна выпускала радыёспектакляў і колькі змен сядзела ў мантажнай нашай кінастудыі, калі там агучваліся самыя вядомыя стужкі "Беларусьфільма"!

Асістэнт... Далёка не "вядучая" фігура ў арганізацыі тэатральнага відовішча або кінематаграфічнага твора. Ды ўсё ж незаменная. Неабходная. Мінаюць гады і ў тую знакамітую "Паўлінку" Янкі Купалы, што не сыходзіць са сцэны ўжо амаль палову веку, яна, Г. Уладамірская ўводзіць новых і новых выканаўцаў. Бо ведае і помніць партытуру не толькі галоўных роляў, якія першымі выконвалі Г. Глебаў і У. Дзялошка, Р. Кашэльнікава і Б. Платонаў, Л.Ржэцкая і В. Пола, а і малюнак скокаў, на якія вылятаюць з другога плана статысты, акцёры дапаможнага складу трупы. І мова, мова... Яна — яе знаўца, яна яе ахоўніца.

Сёння "ЛіМ" упершыню друкуе вершы малодшага прадстаўніка дынастыі — артыста Аляксандра Уладамірскага, які нядаўна пайшоў ад нас у іншы свет. Рознабаковае развіццё таленту ў яго было вельмі плённым — ён быў адмысловым акцёрам, добрым чытальнікам-дэкламатарам, здольным музыкантам. І — літаратарам, пра што сведчыць сённяшняя публікацыя. Такім яго выхоўвала матуля — Галіна Іванаўна. Ёй, юбіляру жніўня-97, мабыць, будзе балюча-прасветленым і душэўна прыемным падарункам гэты голас яе сына са старонак заўсёды чытанага ў іхнім доме "ЛіМа".

Аляксандр УЛАДАМІРСКІ

# Знямелы куст ружовы

### Белы дым

*Белы дым*
*Калыхае гаркаваты пах.*
*Пуцявін*
*Хавае стужкі восеньскі бор.*
*Успамін*
*Змахне крылом журботны птах.*
*Ручаін*
*Звініць апошні хор.*

*Човен перапльыве*
*Заімглёных азёраў вочы.*
*Боль, што ў душы жыве,*
*Мне расстанні*
*ізноў прарочыць.*
*Чырванню арабін —*
*Развітальных пякучых зорак —*
*Наваражы ўспамін,*
*Разарві,*
*Разарві гэтай ночы морак!*

### Ціхі звон

*Ля ног застылае расы.*
*У палон*
*Сваёй тугі акутвае час.На ўздагон*
*Гучаць былога галасы.*
*Светлы сон,*
*Як знічка, ў небе згас.*

*Адшукай*
*Празрысты след маёй слязы.*
*Не гукай*
*Заўчаснай сцюжы і халадоў.*
*Белых зграй*
*Яшчэ надыдуць маразы.*
*Небакрай*
*Яшчэ чакае сноў.*

●

*На згубу, ці на смех,*
*На шчасце, ці на грэх*
*Ваўку самотны лёс*
*Сышоў з нябёс.*

*Драпежнікам завуць*
*І ў любасці клянуць,*
*Але ў душу ніхто*
*Не хоча зазірнуць.*

●

*Але леты ляцяць, але зімы звіняць,*
*Але вёсны вясёлкай іграюць,*
*Толькі восені віск кліча позірк узняць:*
*Што блакіты нябёсаў параяць?*

*Неба шэрае спрэс і блакіту няма,*
*Жураўы закігікалі золка,*
*Пра цябе мне яны праспявалі дарма,*
*Адышла ты вясковай вясёлкай.*

*Падыду да знямелых ружовых кустоў,*
*Праз галлё паімкнуся да лісця,*
*Ды няма для прызнання майго*
*цёплых слоў,*
*Не знайсці мне з тугі маёй выйсце.*

*Упаднябессі блакітным галіна рыпіць,*
*Уніз спаўзае вяроўка вужакай,*
*На галіне на той шматпакутны вісіць*
*Закаханы паэт-небарака.*

# Імгненне і вечнасць

Калі глядзіш на гэты здымак, прыгадваеш не толькі тое, што звязана з акцёрскай дзейнасцю Уладзіміра Кін-Камінскага і яго маці Алены Рынковіч, Галіны Уладамірскай і яе сына Сашы (у такім парадку яны на фота). Думаеш, што наш Купалаўскі тэатр яскрава пацвярджае рэпутацыю славянскага кшталту артыстычнай трупы як сям'і. Але акцёры еўрапейскіх і заакіянскіх краін зайздросцяць нам, калі бачаць вялікі творчы плён арганізацыі тэатральнай справы як... роднага дома для акцёра. Звабнага і ўтульнага, строга патрабавальнага і заўсёды гатовага працай ператвараць будні ў свята тэатральнага відовішча. Беларуская сцэна — такая. І пачынаючы з дынастычных сем'яў Ігната Буйніцкага і Уладзіслава Галубка, яна рэкрутуе далёка не кожнага з галасістых ды прыгожаньких акцёрскіх атожылакакавалераў. Ад дзецюка або дачкі хай сабе і вельмі аўтарытэтнага бацечкі калектыў вымагае даволі высокага градуса безумоўнай таленавітасці. Тады фарміруецца дынастыя. Ждановічаў — Фларыян, яго брат Антук Крыніца, дачка Ірына. Памянёных Уладамірскіх — ста-



ры Улад, Барыс, Аляксандр. А Кін-Камінскія вядуць свой пачатак ад Веры Тарасік, якая некалі ў Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі была адной з вядучых акторак: яна маці А. Рынковіч, цешча Тадэвуша Кін-Камінскага, бабця Уладзіміра. Сёння на купалаўскіх падмостках выступае, напрыклад, Зоя Белахвосцік — унучка славутага Глеба Глебава, дачка вядомага і па кінаролях Валянціна Белахвосціка...

Такія асацыяцыі абуджаюцца, калі мы бяром у рукі пажоўклы здымак з сямейнага архіва акцёрскага роду Уладамірскіх. Гэта — таксама наш духоўны скарб.

ШЛЯХІ

## 6. ЧЫМ БОЛЬШ БЕЛАРУСКАГА, ТЫМ БАГАЦЕЙ АГУЛЬНАСЛАВЯНСКАЕ, І НААДВАРОТ...

# Выжыць і жыць!

## БЕЛАРУСКАЯ НІША Ў СЛАВЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

*Леанід ЛЫЧ*

Мне не заўсёды ўдаецца выгнаць з уласнай галавы неадчэпную думку, што распаўсюджваннем без усялякай меры на гістарычнай тэрыторыі беларускага народа рускай культуры і мовы займаюцца яўна варожыя славянскай супольнасці людзі. Яны выдатна разумеюць, чым больш умацуюцца ў нашым краі пазіцыі рускай культуры і мовы, тым горш будуць адчуваць тут сябе, а не дык і зусім захірэюць, беларуская культура і мова. Гэтым яўна па-супрацьславянску настроеным людзям удавалася і ўдаецца ўцягнуць у сваю хітра расстаўленую сетку не толькі шматлікіх прадстаўнікоў рускай, але і беларускай нацыянальнасцяў. У выніку ў нас расце колькасць беларусаў, якія не з'яўляюцца носьбітамі спрадвечна сваёй роднай культуры і мовы. Больш таго, яны варожа ставяцца да духоўных здабыткаў роднага народа, чым толькі садзейнічаюць культурна-моўнай дэградацыі апошняга і ўрэшце яго знікненню з гістарычнай арэны, што не можа разглядацца інакш, як сакрушальны ўдар па інтарэсах славянскай супольнасці ў цэлым. Нядобразычлівыя гэтай супольнасці наперад прадбачаць, што калі праявы канчатковай асіміляцыі беларускай нацыі набудуць яшчэ больш выразны характар, з яе асяроддзя выйдуць магутныя сілы, якія не на жыццё, а на смерць будуць змагацца за сваё выратаванне ад смерці, што абвострыць да небывалай ступені канфлікт паміж асколкамі беларускага этнасу і рускім народам, таму што гэтыя сілы толькі ў ім будуць бачыць асноўнага віноўніка свайго трагічнага адыходу ў нябыт. Каб не адбылося такога, трэба, не адкладаючы, ужо сёння на ўсіх узроўнях дзяржаўнай палітыкі рашуча брацца за выратаванне нашай нацыянальнай культуры і мовы, адкінуць усялякія спадзяванні, што яно (выратаванне) можа адбыцца стыхійна, толькі праз намаганні апантаных адраджэнскай ідэяй людзей. На ўсе сто працэнтаў упэўнены, што такі шлях не прывядзе нас да ўваскрэшання. Дзякуючы вялікім стараннем дойлідаў паланізатарскай і русіфікатарскай палітыкі падмурак, каркас, сцены, падлога, столь, дах беларускага культурна-моўнага палаца так згнілі, што сёння ў дзесяткі разоў лягчэй давяршыць поўную асіміляцыю беларусаў, чым іх духоўнае жыццё так адладзіць, каб яны нарэшце сталі паўнавартасным славянскім народам. Гэтага ж намаганнямі адных толькі грамадскіх рухаў не зробіш. І годзе цешыць, хваліць беларусаў, што яны нібыта маюць высакаразвітую нацыянальную культуру, дамагліся статусу дзяржаўнасці для сваёй роднай мовы. Усё гэта выдумкі. За пасляваенны перыяд Беларусь ледзь не франтальна перайшла на спажыванне рускай (асабліва прафесійнай) культуры і мовы, што парадзіла непавагу ў большасці карэннага насельніцтва да сваіх духоўных каштоўнасцяў.

Праз свядомае невыкарыстанне беларускай мовы ў час публічных выступленняў, а яшчэ горш — абразы яе сёй-той з нашых актывістаў руху за славянскае адзінства народаў імкнецца даказаць сваю адданасць і любоў да гэтай этнічнай супольнасці. Але ці той гэта шлях, шаноўныя суайчыннікі? Ці ж не зразумела вам, што для дадзенай супольнасці мы ўяўляем і будзем уяўляць каштоўнасць, толькі застаючыся недэнацыяналізаваным, неасіміляваным народам, са сваёй самабытнай мовай і адметнай ад іншых культурай? Не валодаць беларускай мовай, не быць прыхільнікам беларускай нацыянальнай культуры і гаварыць ад імя беларускага народа аб агульнаславянскіх інтарэсах — гэта страшэнная блюзнерства, на якое здольныя толькі безнадзейна хворыя на нацыянальны нігілізм людзі. Гатоў спрачацца з любым і кожным, што ад такіх славянская супольнасць народаў не мела, не мае і не будзе мець карысці.

Мне страшна становіцца за лёс майго народа ад горкага ўсведамлення таго, што каб звярнуцца са словам да абсалютнай большасці сённяшніх высокіх палітычных дзеячаў і значнай часткі элітарнай мастацкай, навуковай інтэлігенцыі, трэба абавязкова ўжываць мову суседняй дзяржавы, бо інакш не адбудзецца нармальнага дыялога: такога высокага рангу асобы альбо не могуць, альбо проста не жадаюць размаўляць па-беларуску. Яны, не ведаючы стомы і не шкадуючы часу, носяцца з ідэяй інтэграцыі з Расіяй не толькі з-за прафесійнай нядзольнасці самастойна кіраваць краінай, але і ад таго, што ў рускім культурна-моўным рэчышчы яны адчуваюць сябе куды больш вольна і ўтульна, чым у родным беларускім, якое для іх стала непажаданым і чужым. Я люблю рускую культуру і мову, але калі заўважаю, што яны татальна выцясняюць адусюль усё беларускае, добрага настрою ад гэтага не маю. Вельмі баюся, каб па якіх-небудзь прычынах на маю Бацькаўшчыну не трапіла з Расіі адна—дзве сотні таленавітых пісьменнікаў, артыстаў, жывапісцаў і прадстаўнікоў іншых жанраў культуры, бо тады яны разам з мясцовай адарванай ад нацыянальнага карнявішча творчай інтэлігенцыяй так зруйнуюць прыродныя асновы нашага духоўнага жыцця, што ў ім праз дзесяць—пятнаццаць гадоў нічога не застанецца беларускага. Страта ж беларускай культуры і мовы, чаго сёння могуць не заўважаць толькі крайне абмежаваныя ў разуменні такога пытання людзі, будзе мець сваім лагічным канцом знікненне з гістарычнай арэны яшчэ аднаго славянскага народа — беларускага. Такую з'яву нармальнай, заканамернай можа лічыць толькі той, хто да славянскага адзінства хоча прыйсці чыста арыфметычным шляхам: спачатку напалову зменшыць колькасць славянскіх культур і моваў, затым — да дзвюх—трох і нарэшце — да адной культуры і мовы, а гэта значыць і да аднаго народа. Зразумела, у такім выпадку ім павінен быў бы стаць самы шматлікі на сёння славянскі народ.

Нам жа патрэбна не проста славянскае адзінства, а славянскае адзінства ў шматаблічнасці. Заканамерна ўзнікае пытанне: а ці ж у нашай ужо суверэннай краіне не разбураецца гэтая шматаблічнасць тым, што пэўныя сілы, не выключаючы і дзяржаўныя, ігнаруюць сваю нацыянальную культуру, загналі ў падпечак родную мову і ледзь не ўсёй грамадой перайшлі на спажыванне духоўных каштоўнасцяў суседняга народа, няхай сабе нават і славянскага?! Адказ тут можа быць толькі адзін: разбураем!

Нівеліроўка славянскіх культур і моваў пад больш магутнага сваёй колькасцю ці пад больш развітага народа, як гэта не адно дзесяцігоддзе практыкуецца на Беларусі, — гэта сапраўдны біч для лёсу славянскай супольнасці. Сёння з яе вымываюцца беларусы са сваёй непаўторнай культурай і мовай, заўтра іх месца зойме нейкі іншы славянскі народ, калі своечасова не ўжыць захадаў па засцярозе яго культуры і мовы ад асіміляцыі. Як прадстаўнік беларускага народа вельмі шкадую, што пра такую засцярогу вельмі мала думала наша дзяржава раней і амаль зусім нічога не робіць у гэтым плане сёння.

Умацаванне ў нашым краі рускіх культурна-моўных пачаткаў за кошт абмежавання ўсяго беларускага — а інакш іх і нельга тут селекцыянаваць — павінна разглядацца як дзеянне, скіраванае супроць славянскай супольнасці. Яго ніяк нельга растлумачыць жаданнем самога народа адысці ад роднай культуры і мовы і далучыцца да рускіх адпаведнікаў. Народ у гэтых пытаннях займае пазіцыю аналагічную той, якую мэтанакіравана праводзіць яго дэнацыяналізаваная дзяржаўная ўлада разам са сваёй шырока разгалінаванай сеткай ідэалагічных службаў, установамі адукацыі і культуры. Калі б дзяржава публічна заявіла пра сваю гатоўнасць у імя славянскай ідэі прысвяціць усю сваю дзейнасць нацыянальна-культурнаму адраджэнню беларускага народа, яна знайшла б з яго боку самую поўную падтрымку. Дзякаваць Богу, сёння беларускі народ яшчэ не ў канчаткова завершаным стане нацыянальны труп, хаця дзеля гэтага на працягу некалькіх стагоддзяў гэтак шчыра папрацавалі і зараз працуюць рознага роду асімілятары. Бачачы, што дзяржава не толькі па-сур'ёзнаму не занепакоена страшэнным станам дэнацыяналізацыі свайго народа, а, наадварот, нямала чаго робіць па яе паглыбленні, ён таму праяўляе пасіўнасць, а часам нават і падтрымлівае такую дэструктыўную палітыку. Ну што ж тут зробіш? Відаць, у гэтым і заключаецца соль беларускага менталітэту. У іншых народаў, а хутчэй за ўсё ў большасці, палітыка дзяржавы па разбурэнні іх нацыянальных асноў выклікала б рэзкае супрацьдзеянне, а ў нашага, насуперак разумнаму сэнсу, яна знаходзіць ледзь не поўную падтрымку. Знікненне з гістарычнай арэны гэтага самабытнага славянскага народа па-сапраўднаму хвалюе толькі невялічкую жменьку інтэлігентных людзей, магчымасці якіх павесці за сабой масы дзеля іх нацыянальнага выратавання вельмі мізэрныя, бо ўсяляк абмяжоўваюцца дзяржавай.

Большага злачынства супроць славянства нельга прыдумаць, як, жывучы на Беларусі, перашкаджаць аднаўленню і развіццю яе нацыянальнай культуры, франтальнаму ўкараненню яе роднай мовы ва ўсе віды службовага справаводства — а пачынаць гэта трэба з самых высокіх эшалонаў дзяржаўнай улады, — ва ўсе тыпы навучальных устаноў. У імя высакароднай ідэі славянскага адзінства трэба ўсімі сіламі і сродкамі не захоўваць усталяванае ў выніку асімілятарскай палітыкі рускае культурна-моўнае аблічча Беларусі, а ўсяляк дэманціраваць яго, запаўняючы вызваленыя такім чынам нішы прыродна беларускім. Калі б для рускай культуры і мовы нідзе больш у свеце не існавала прасторы, як толькі на Беларусі, дзеля славянскага інтарэсу ім трэба было б надаць тут такое месца, як беларускай культуры і мове. На практыцы ж склалася зусім іншае становішча. Занятая пад рускую культуру і мову прастора не ў дзесяткі, а ў сотні разоў перавышае тэрыторыю, якую гісторыя адвяла пад беларускую культуру і мову. Таму антыславянскімі падаюцца ўсялякія спробы выкарыстаць гэтую і без таго мізэрную плошчу пад пасеў рускай культуры і мовы, абгрунтоўваючы, што, маўляў, так гістарычна склалася. Не, гэта не гістарычна склалася, а склалася ў выніку шматгадовага ўкаранення свецкімі і духоўнымі ўладамі Расійскай імперыі, ідэалагічнымі службамі бальшавіцкай партыі на Беларусі рускіх культурна-моўных стандартаў. Прычым рабілася ўсё гэта ў імя пэўных імперскіх ці камуністычных інтарэсаў, але толькі не агульнаславянскіх, бо апошнім пярэчыць развіццё культуры і мовы якога-небудзь аднаго славянскага народа за кошт другога і асабліва, калі гэты другі меншы за першы. Была б нейкая логіка ў тым, каб вялікая нацыя дзесьці трохі пацясніла сябе дзеля росквіту меншай, а калі ж усё робіцца наадварот — гэта нонсенс і тым больш, калі справа датычыць блізкароднасных народаў, у нашым выпадку — славянскіх.

Калі ў панацці "славянскае" не знаходзіць месца нішто беларускае, гэта ўжо зусім не "славянскае", а прама процілеглае яму. Нельга, як гэта ў нас многімі робіцца ўсё славянскае зводзіць толькі да самай вялікай нацыі славянскай супольнасці — рускай. Нічым такой вялікай карысці не прынясеш славянскай групе народаў, як усебаковым служэннем таму з іх, на тэрыторыі якога жывеш ці да якога належыш. Імкненнем жа на гэтай тэрыторыі развіваць іншую культуру, няхай сабе блізкародную, славянскага ўзору можна толькі падарваць агульны духоўны патэнцыял славянскай культуры. Апошнюю нельга разумець увогуле па-за існаваннем якойсьці канкрэтнай славянскай культуры на пэўнай тэрыторыі. Мы любім аперыраваць наборамі выразаў тыпу: "славянскае адзінства", "славянскае братэрства народаў", "росквіт славянскіх культур"..., але не задумваемся над тым, а што ж мы, беларусы, карыснага зрабілі і робім для гэтай роднаснай нам супольнасці народаў? Калі добра разабрацца, дык вельмі мала. Больш таго, амаль павальным адыходам ад роднай мовы, чаму так садзейнічаюць самі дзяржаўныя ўлады, сістэма адукацыі, страшэнным занядбаннем усяго нацыянальнага ва ўласнай культуры і пераходам да масавага спажывання рускіх духоўных каштоўнасцяў, мы здрадзілі славянскай супольнасці, бо запусцілі адну з яе культур і моваў — беларускую. Без належнага развіцця і пашырэння беларускай нацыянальнай культуры і мовы на Богам адведзеней ім тэрыторыі мы не ў стане будзем хоць у чымсьці ўзбагаціць духоўны свет славянскай супольнасці, што вельмі важна, улічваючы, які апошнім часам велізарны ўплыў зведвае яна на сабе з боку іншых культур і асабліва амерыканска-англійскай. На планеце Зямля дзякуючы магутным магчымасцям перадачы культурных здабыткаў на вялікую адлегласць адбываюцца вельмі небяспечныя працэсы глабальнай асіміляцыі народаў. У добрай ступені яна ўжо закранула ўсе славянскія народы і славянскую супольнасць у цэлым. Таму ў падобнага роду экстрэмальных умовах зусім не лішнім было б вызваліць беларускую культуру і мову з-пад рускай асіміляцыі і даць ім шырокую магчымасць для беспераШкоднага развіцця ў сваёй уласнай краіне. Калі ж мы гэтага тэрмінова не зробім, дапусцім поўную рускую культурна-моўную асіміляцыю беларускага народа, ён акажацца зусім няўстойлівым ад новай хвалі культурна-моўнай асіміляцыі, якая магутным патокам ужо насоўваецца на нас з Захаду.

Пушчаная ў шырокі абыходак "ідэя ўсходнеславянскага адзінства" вельмі хутка ўвабрала ў сябе шмат чаго адмоўнага, чым грэх добра праславіўся брэжнеўска-суслаўскі інтэрнацыяналізм. Розніца толькі ў тым, што ў першым выпадку адбываецца дэнацыяналізацыя ўсходнеславянскіх народаў, акрамя самага шматлікага з іх, у другім — асімілёўваліся ўсе савецкія народы, акрамя рускага, культура і мова якога лічылася праабразам культуры і мовы светлага камуністычнага грамадства.

У адной з даведак аб партыях на Беларусі ўдалося пазнаёміцца з мэтай Славянскага сабора "Белая Русь". І што мяне здзівіла, у гэтую мэту нічога не трапіла з беларускага, хаця менавіта яго інтарэсы і абавязвае ў першую чаргу адстойваць сама назва сабора. Мэта сфармулявана так (па стану на 26 жніўня 1992 г.): "Абарона <u>славяна-рускіх народаў</u> (падкрэслена мною. — **Л. Л.**) і прыярытэту традыцыйных каштоўнасцей іх цывілізацыі". Вось так, замест таго, каб з агульнай славянскай супольнасці выдзеліць беларускі народ, на гістарычнай тэрыторыі якога вядзе сваю грамадска-палітычную, асветніцкую дзейнасць Славянскі сабор "Белая Русь", ён клапоціцца аб нейкай надуманай, нерэальнай супольнасці славяна-рускіх народаў. Пры ўсёй маёй

*(Працяг на стар. 14—15)*



*Фота А.Клешчука*

*Заканчэнне. Пачатак у N 30—32*

## Прэм'еры



**Тры новыя прэм'еры рыхтуе да адкрыцця новага сезона калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску.**

**Сярод іх — "Утаймаванне сваво́льніцы" У.Шэкспіра. Пастаноўку прэм'еры на віцебскай сцэне ажыццявіў мастацкі кіраўнік Томскага тэатра юнага гледача Юрый Пахомаў.**

*На здымку: у ролі Грэм'е — народны артыст Беларусі Тадэвуш Кокштыс.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА**

## Альтэрнатывы акадэміі няма. Пакуль...

**У чэрвені ў Беларускай акадэміі мастацтваў праходзіла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Традыцыі мастацкай школы і сучасныя тэндэнцыі яе развіцця". Акрамя беларусаў, удзел у ёй бралі навукоўцы з Германіі і Расіі.**

**Неабходнасць асэнсаваць мастацкую традыцыю ў навучальным працэсе, суаднесці "школу" і самастойную творчасць наспела даўно. Прычым не толькі ў нас. У нашых калег у блізкім і далёкім замежжы таксама. Прычым Беларуская акадэмія мастацтваў мае ў гэтым сэнсе немалы вопыт.**

**Выступаючы на канферэнцыі, рэктар БелАМ сп. Шаранговіч выказаў заклапочанасць тым, што сёння прафесіяналізм перастаў быць абавязковым элементам мастацкай творчасці і, адпаведна "сёння нас захлістваe хваля антыпрафесіяналізму. Адсюль — перспектыва страты нацыянальнага аблічча, адметнасці нашай культуры. Акадэмія — не творчы саюз, а навучальны працэс аб'ектыўна мае кансерватыўны характар. Але ж навучальны працэс не можа стаяць на месцы, ён павінен развівацца разам з грамадствам. Інакш кажучы, сп. Шаранговіч супраць рэвалюцыі ў сценах акадэміі, але эвалюцыю лічыць з'явай нармальнай. Рэктару БелАМ блізкая пазіцыя вядомага французскага крытыка Ражэ Гарадзі — вынаходніка канцэпцыі "рэалізму без берагоў".**

**Лагічна дапоўніў прамову Васіля Шаранговіча судакладчык Міхал Баразна, старшы выкладчык гісторыі і тэорыі мастацтва. БелАМ, на ягоную думку, спалучае (па еўрапейскіх мерках) некалькі "акадэмій", а з гэтага вынікаюць і спецыфічныя праблемы. Але вырашыць іх шляхамператварэння факультэтаў у самастойныя ВНУ, шляхам драблення БелАМ немагчыма. "Аб з'яўленні сур'ёзных канкурэнтаў БелАМ па комплекснай прафесійнай падрыхтоўцы можна будзе гаварыць толькі пры ўмовах інтэнсіўнага эканамічнага росту, калі будзе вырашана большасць самых надзённых пытанняў грамадскага жыцця ў краіне". Застаючыся патрыётамі беларускага сучаснага мастацтва, мы павінны дбаць пра тое, каб гэта мастацтва было зразумелым і патрэбным у іншых краінах. Работа канферэнцыі ішла па чатырох секцыях, скончылася "круглым сталом". Магчымасць выказацца мелі і прадстаўнікі ВНУ, і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і школ з мастацкім ухілам.**

**Н.К.**

# Выжыць і жыць!

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

апантанасці беларускай ідэяй я, напрыклад, не жадаў бы, каб якая-небудзь партыя ці рух адстойвала славяна-беларускія народы, бо ў гэтых памерах і дзеяннях бачыў бы непрыхаваную праяву вялікабеларускага шавінізму. Лагічна на тэрыторыі Беларусі аб'яднацца ўсім славянам і ратаваць беларускую нацыю ад культурна-моўнай асіміляцыі, бо апошняя, слава Богу, аніводнаму з славянскіх народаў і тым больш рускаму не пагражае. У плане нацыянальнай кансалідацыі мы ад рускага народа адстаём на цэлую эпоху, таму на Беларусі трэба дбаць аб яе карэнным насельніцтве, ратаваць яго культуру і мову.

Нашыя высокія дзяржаўныя дзеячы не раз заяўлялі пра сваё шчырае жаданне рабіць усё дзеля славянскага яднання, адзінства. Такое жаданне трэба толькі вітаць. Не верыцца, што ёсць хоць адзін сумленны беларус, які выступаў бы супроць гэтага. Яднацца трэба, але толькі пры ўмове, што ў нас будзе што вартае яднаць са славянамі. Ці ж можам мы яднаць сваю з расхлябаным нацыянальным патэнцыялам прафесійную культуру з моцнымі прыроднымі асновамі рускай ці польскай культур? Ці ж можам мы з амаль забытай, выключанай з найважнейшых сфераў дзейнасці чалавека роднай мовай яднацца з рускім ці польскім народамі, у якіх родная мова знаходзіцца ў поўным росквіце? На гэтыя два пытанні, як і многія іншыя, я не магу даць сцвярджальнага адказу. Паколькі беларусы так страшэнна адсталі ад усіх без выключэння славянскіх народаў у сваім нацыянальна-культурным развіцці, трэба ўсяляк садзейнічаць беларусам, каб наблізіць час самага шматграннага і раўнапраўнага яднання іх з славянскай супольнасцю. Мне не хацелася б яднацца з гэтай сям'ёй без сваёй сапраўды нацыянальнай культуры і мовы і жыць там выключна толькі духоўнымі каштоўнасцямі якога-небудзь іншага народа. Таму нікому з дзяржаўных дзеячаў, нікому з інтэлігентаў не пасуе трэсці славянскай картай, не будучы самому прыхільнікам, змагаром за беларускую нацыянальную культуру і мову. Ісці да славянскага паяднання, славянскага адзінства, трэба скачучы ад нацыянальнай беларускай, а не чужой печы, якою б утульнай яна ні была.

Для ўсіх народаў з нармальным нацыянальна-духоўным патэнцыялам было б лішнім, а беларусам жа, не выключаючы многіх палітыкаў і інтэлігентаў, трэба даводзіць, як важна захаваць сваю самабытнасць, не даць растварыцца ў асяроддзі якога-небудзь іншага народа, быць шчырым носьбітам уласнай культуры і мовы. Аксіёма, якая падуладна разуменню і адукаванаму на ўзроўні пачатковай школы чалавеку. Куды цяжэй зразумець, што існаванне беларусаў як адмысловага этнасу выгадна таксама рускаму, украінскаму і польскаму народам. Не сумняваюся, што не разумеюць гэтага нават і многія з тых, хто знаходзіцца ў самых верхніх эшалонах улады, носіць на лацканах пінжакоў значок аб вышэйшай адукацыі ці мае дыпломы кандыдатаў і дактароў навук. Дык чаму ж усё-такі знікненне беларусаў як самабытнай нацыі з гістарычнай арэны зусім не ў інтарэсах, больш таго нашкодзіць гэтым народам? Адказ да банальнасці просты. Ды таму, што пры летальным зыходзе беларускай нацыі яны распачнуць бойкі паміж сабой за авалодванне яе этнічнай масай, натуральна, з адпаведнай тэрыторыяй. Пры спасылках на гісторыю і рускія, і палякі, і ўкраінцы выставяць такія прэтэнзіі на тэрыторыю змяртвелага, спарахнелага беларускага этнасу, што ў многіх яе месцах адбудзецца трайное перакрыжаванне іх інтарэсаў, што непазбежна прывядзе да вельмі маштабнага ўнутрыславянскага канфлікту. Па-за межамі яго застанецца мо толькі тэрыторыя Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці, дзе нядаўна адшуканы і афіцыйна зацверджаны геаграфічны цэнтр Беларусі. Думаецца, ва ўсіх выпадках на яго не адважыцца паквапіцца аніводзін наш сусед.

Пішу, а сам сабе думаю: пазнаёмяцца беларусы з маімі разважаннямі і палічаць, калі рускаму, украінскаму і польскаму народам не выгадна поўная дэнацыяналізацыя Беларусі, дык у нас няма аніякага страху за будучае, няма аніякай патрэбы актыўна супрацьстаяць ёй (дэнацыяналізацыі), бо гэта абавязкова зробяць у дзяржаўных канцылярыях суседніх краін, а нам трэба проста пачакаць з'яўлення нейкіх прынцыпова важных наконт гэтага афіцыйных дакументаў. Дый не, шаноўныя! З дэнацыяналізаванай багны, калі толькі хочам сцвердзіцца як сапраўдны народ, давядзецца выбірацца хутчэй за ўсё толькі ў разліку на свае сілы. Некалі і я думаў, спадзяваўся, што ў падтрымку нашага засіміляванага народа рашуча выступяць прагрэсіўныя палітычныя дзеячы і інтэлігентныя людзі Расіі, Украіны, Польшчы ці іншых славянскіх краін, а як пераканаўся, нашая справа ім зусім не рупіць. Магчыма, у дачыненні да апошніх я і памыляюся, бо яны менш дасведчаныя ў цяжкасцях нашага нацыянальна-культурнага развіцця, дый іх яшчэ ніхто не прасіў аб дапамозе. У цяжкасці ж трэба паверыць, бо хаця нашая краіна амаль цалкам знаходзіцца ў атачэнні родных славянскіх нацый, яе народ усё ж ціха, моўчкі адыходзіць без сваёй прыроднай культуры і мовы ў нябыт, як гэта ўжо практычна адбываецца на склоне XX стагоддзя з лужыцкімі сербамі з той толькі розніцай, што яны жылі і паміраюць у чужым для іх па культуры і мове нямецкім асяроддзі. Не магу прыгадаць, каб якая-небудзь славянская арганізацыя ці дзяржава выказала свае клопаты за лёс арыгінальных у многіх адносінах лужыцкіх сербаў. Не выключана, што прамаўчаць і пра беларусаў, бо ўжо даўно наспела паставіць пытанне аб іх выратаванні на самым высокім і прадстаўнічым форуме славянскіх народаў, але, на жаль, ніхто яго (пытанне) не ўздымае.

Прагрэсіўная грамадскасць многіх краін асуджае палітычных дзеячаў царскай Расіі і РСФСР, што па іх віне зніклі на тэрыторыі Поўначы, Сібіры і Далёкага Усходу айны, воць, камасінцы, кіерэкі, амокі, тазы, югі... і могуць ужо ў бліжэйшы час паўтарыць іх трагічны лёс шорцы і целеуты, што жывуць на тэрыторыі Кемераўскай вобласці, алеуты, кеты, нганасаны, нігідальцы, оракі, тофалары, юкагіры. Не мірыцца з такімі ахвярамі русіфікацыі і аўтар гэтых радкоў. Але, калі не прыняць на ўзроўні самой дзяржавы рашучых і эфектыўных захадаў, тое ж чакае дзесяцімільённую беларускую нацыю. Аднак нашая дзяржава, велізарныя пласты грамадскасці, у т. л. і інтэлігенцыі, зусім не б'юць трывогі з нагоды трагедыі, што няўмольна накатваецца на вялікі славянскі народ. Больш таго, расце лік дзяржаўных дзеячаў і прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія ці адмаўляюць пагрозлівыя маштабы русіфікацыі беларускага народа, ці імкнуцца пераканаць людзей у заканамернасці і прагрэсіўнасці такіх працэсаў.

Неўпрыкмет для простага чалавека пэўным сілам Беларусі, а можа, яшчэ і Расіі ўдалося схіліць значныя пласты беларускай навуковай, мастацкай і педагагічнай інтэлігенцыі працаваць, калі не цалкам, дык пераважна на карысць рускай навукі, культуры і адукацыі, за што гэтыя людзі атрымліваюць высокія дзяржаўныя ўзнагароды і званні. Стварэнне такіх рускіх духоўных каштоўнасцяў у нашай краіне падаецца як сведчанне паглыблення садружнасці двух славянскіх народаў у галіне культуры. Толькі вось не зразумела, чаму гэтага не робіцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі для беларускай культуры? Відаць, у гэтым няма разумнай патрэбнасці. У кожнай культуры павінна быць свая тэрыторыя. Чужыя ж яе могуць наведваць толькі ў час гастроляў, што між іншым і робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах.

З жалем вымушаны прызнаць, што выказаныя на пачатку XX ст. лепшымі людзьмі спадзяванні на беларускае Адраджэнне, не спраўдзіліся. Занадта шмат у яго было ворагаў, у тым ліку ў сярод безнадзейна засіміляваных беларусаў. Думаю, вельмі балюча было б бачыць сённяшнюю здэнацыяналізаваную Беларусь публіцысту, гісторыку літаратуры, краязнаўцу Рамуальду Зямкевічу, які ў 1911 г. выказаў прагноз, што мы "не будзем паміж усімі славянамі самым загнаным і найбяднейшым народам". Не, такімі мы застаёмся і на склоне XX ст. Да гэтых непрыемных, немілагучных эпітэтаў, што ўжыў Рамуальд Зямкевіч у дачыненні да беларускага народа, можна дадаць яшчэ не менш балючыя: засіміляваны, хворы на нацыянальны нігілізм. У той час як усе славянскія народы ў апошнім дзесяцігоддзі бягучага стагоддзя паказваюць яскравыя прыклады аднаўлення гістарычнай памяці, сапраўднага нацыянальнага абуджэння, шанавання сваёй самабытнай культуры і роднай мовы, у нашым жыцці працягваецца працэс збяднення нацыянальных культурна-моўных традыцый. Адрадзіць, удыхнуць у іх жыццё цяпер значна цяжэй, чым сто гадоў таму назад. Пакуль беларускаму нацыянальна-культурнаму Адраджэнню, асяродкам якога з'яўляецца мова, не будзе нададзены статус дзяржаўнай палітыкі, датуль у нас на гэтым шляху будзе больш стратаў, чым здабыткаў. Такога знoшанага нацыянальнага патэнцыялу, з якім мы ўваходзім у новае стагоддзе і новае тысячагоддзе, яшчэ ніколі не было ў гісторыі беларускага народа. Наперад прадчуваю, якія сур'ёзныя дакоры ў адрас сённяшніх палітыкаў, дзеячаў навукі, культуры і адукацыі будуць выказаны змагарамі беларускага Адраджэння дваццаць першага стагоддзя.

## 7. БЕЛАРУСАМ ПАТРЭБНА ДЗЕЙНАЯ СЛАВЯНСКАЯ ПАДТРЫМКА

Ад многіх чуў і сам лічу, што моцна знясіленая, крайне аслабленая ў выніку працяглага, жорсткага супраціўлення любым формам асіміляцыі інтэлігенцыя, пазбаўленая ўсялякага жадання да развіцця на ўласным нацыянальным грунце маладая беларуская дзяржава не ў стане выратаваць свой народ ад канчатковай дэнацыяналізацыі. Яму патрэбна дзейная падтрымка і найперш ад блізкароднаснай славянскай супольнасці. Іншыя народы нас могуць проста не зразумець ці праявіць алімпійскі спакой, поўнае раўнадушша. Можа, усё-такі ў прагрэсіўных колах славянскай супольнасці хопіць логікі, каб пераканаць велізарную па сваёй колькасці частку беларускай засіміляванай інтэлігенцыі, дзяржаўных дзеячаў у неабходнасці руйнавання кітайскай сцяны, якой яны адгарадзіліся ад беларускай нацыянальнай культуры і мовы, асудзіўшы гэтым самым свой народ на верную этнічную пагібель.

Доўгі час чакаў, спадзяваўся, што руку дапамогі працягне нам руская інтэлігенцыя, паколькі акурат культура і мова гэтага народа ў выніку адпаведнай дзяржаўнай палітыкі вяла і вядзе беларусаў да страты свайго духоўнага нацыянальнага патэнцыялу. Голас у яго падтрымку цяпер не так гучыць, як на рубяжы XIX—XX ст., у гады міжваеннай беларусізацыі. Магчыма, на сённяшняе раўнадушнае стаўленне рускай інтэлігенцыі да беларускага пытання паўплывалі і ўплываюць распад СССР і тыя нацыянальныя працэсы, што адбываюцца ў самой Расіі. У гэтых умовах умацаванне рускіх культурна-моўных стандартаў па-за этнічнай тэрыторыяй, у т. л. і на якой-небудзь славянскай, можа значнай часткай рускай інтэлігенцыі і палітыкаў гэтай дзяржавы разглядацца як вельмі пажаданая з'ява. Хутчэй за ўсё гэта і тлумачыць прычыну ўзнёслага настрою, бурных апладысментаў многіх дэпутатаў Дзяржаўнай думы Расіі, калі 13 лістапада 1996 г. з вуснаў беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі яны пачулі словы: "Быць рускай мове дзяржаўнай у Беларусі". Мы, беларусы, шчыра радуемся, калі па радыё ці тэлебачанні пачуем роднае слова ад якога-небудзь нават ардынарнага палітыка, артыста, старшыні калгаса, а тут жа рускіх дэпутатаў запэўнівае, што іх мова была, ёсць і застанецца дзяржаўнай у суседняй краіне, ніхто іншы, як сама яе першая асоба!

І ў той жа час, чаму б гэтым дэпутатам не задумацца, а ці выжыве ў такіх неспрыяльных варунках стагоддзямі зняважаная асімілятарамі беларуская мова? Хацелася б глянуць у вочы тым жа дэпутатам, каб у Дзяржаўнай думе Расіі раптам амерыканскі прэзідэнт ці англійская каралева заявілі: "Быць у вашай краіне дзяржаўнай мовай англійскай". І хаця гэтая мова больш за любую распаўсюджана ў свеце, вельмі багатая лексікай, прыгожая ў вымаўленні, мала хто з дэпутатаў апладысментамі сустрэў бы заяву англамоўных дзяржаўных дзеячаў. Чаму? А таму, што ў наданні англійскай мове статусу дзяржаўнай у Расіі думцы адразу ж убачылі б рэальную пагрозу для рускай мовы, хоць тут апошняя мае сваю гістарычную тэрыторыю, мільёны прыродных носьбітаў. Але праз якія-небудзь 25—50 гадоў, таго і глядзі, што ўжо шмат хто з іх цягнуўся б чытаць творы Пушкіна, Тал-

стога, Чэхава... не ў арыгінале, а на англійскай мове. Такія заканамернасці моўнага развіцця. На адной і той жа тэрыторыі не могуць мірна суіснаваць дзве—тры і болей моваў. Паміж імі і раней, і цяпер і ў будучым вялася і будзе весціся бязлітасная барацьба за выжыванне. Перамагае больш развітая, больш распаўсюджаная мова. Не сакрэт, што падобнага роду якасцямі ў большай ступені валодае ўсё ж англійская мова, хаця і рускай мове. нельга даць іншага азначэння, як мова-гігант. Дык ці ж застанецца што-небудзь жывога ад беларускай мовы, калі мы рускай мове, мове-гіганту, надалі ў нашай краіне статус дзяржаўнай? Адказ толькі адзін: беларуская мова загіне. Яна ж куды слабей за рускую, прычым непараўнальна больш слабей, чым руская за англійскую. Як трывожна, што гэтага не разумеюць ці не хочуць разумець і вялікія дзяржаўныя дзеячы нашай краіны і яе ўсходняй суседкі.

У такой сітуацыі нам не трэба саромецца за нечувана гаротны стан нацыянальнага жыцця, у чым менш за ўсіх вінаватыя этнічна-самасвядомыя беларусы, і непрымушана, з адкрытай душой звярнуцца па дапамогу да славянскай супольнасці народаў. Калі ідэю беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння не прызнаюць дзяржаўныя ўлады самой Беларусі і створаныя на яе тэрыторыі розныя славянскія рухі і арганізацыі, дык можа нас хоць зразумее славянства ў цэлым. Няўжо ж, скажам, чэхам і славакам, славенцам і балгарам, харватам і сербам... абыякава, што з прычыны больш чым трохсотгадовай жорсткай, па-свойму хітрай паланізацыі і русіфікацыі, у выніку сур'ёзных хібаў нацыянальнай палітыкі, што праводзілі і праводзяць дзяржаўныя ўлады нашай краіны, на мяжы канчатковага заняпаду знаходзіцца дзесяцімільённы славянскі народ — беларусы з багатай гісторыяй, арыгінальнай культурай, прыгожай самабытнай мовай? Гісторыю ў беларускага народа ніхто не адніме, а вось яго нацыянальная культура і асабліва мова ўжо даўно не з'яўляюцца пануючымі на сваёй этнічнай тэрыторыі. Іх роля тут пабочная. І парадаксальна тое, што ў жабрацкі стан яны прыйшлі не ў выніку паражэння ад канкурэнцыі з культурай і мовай чужога, далёкага ім народа, а пад уплывам рускай культуры і мовы, носьбітам якіх з'яўляецца такі ж самы славянскі народ, як і беларусы. З такой трагедыяй можна было б яшчэ змірыцца, каб яна адбылася ў выніку натуральнай асіміляцыі (апошнім часам наяўнасць такой у дачыненні да іншых народаў усё больш адмаўляецца вучонымі). Наадварот, мы ж стагоддзямі знаходзіліся ў сферы мэтанакіраванай палітыкі паланізацыі і русіфікацыі, прычым праводзілі яе не якія-небудзь другарадныя арганізацыі, групы людзей, а самі дзяржаўныя органы сумесна з магутнымі духоўнымі ўладамі — каталіцкім касцёлам Польшчы і Рускай праваслаўнай царквой.

Як ужо гаварылася вышэй, у наш складаны час аніяк нельга выключаць узнікнення цяпер ці ў будучым рознага роду канфліктаў паміж асноўнымі ў свеце этнічнымі супольнасцямі ці рэлігіямі. Таму славянскай групе народаў, каб быць у стане вытрымаць любое выпрабаванне, трэба з вельмі вялікай павагай ставіцца да кожнай сваёй складовай часткі. Нельга дзеля агульнаславянскіх інтарэсаў ці інтарэсаў найбольш шматлікай нацыі гэтай супольнасці ісці на збядненне якога-небудзь роднаснага ёй народа. Рабіць інакш могуць толькі людзі, маладасведчаныя ў пытаннях нацыянальнага, этнакультурнага развіцця славянскай супольнасці. Няма больш вялікай страты для апошняй, як асіміляцыя любога яе народа, прычым незалежна ад таго, адбываецца гэта ў славянскім асяроддзі ці за яго межамі. Таму заплюшчваць вочы на сучасную рускамоўную асіміляцыю, якую, дарэчы, праводзяць улады Беларусі, а не Расіі — значыць наносіць адчувальны ўдар у спіну ўсёй славянскай супольнасці народаў. Не толькі наспела, але і параспела пытанне аб арганізацыі сустрэчы дзяржаўных, грамадска-палітычных дзеячаў, вядучых вучоных у галіне нацыянальна-культурнага і моўнага развіцця народаў, каб сумеснымі намаганнямі вырашыць, што трэба рабіць па выратаванні беларускага народа ад асіміляцыі, бо моцна закранутыя ёю элітарныя колы палітыкаў і інтэлігенцыі самі не ў стане дый не жадаюць шукаць выйсця з гэтага жахлівага, ганебнага становішча.

Сучасныя дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь павінны адкрыта заявіць народу і ўсім славянам, ці яны і надалей будуць інтэграваць беларусаў у рускі этнас, ці пачнуць планамерна ставіць іх на шлях самабытнага нацыянальнага жыцця з тым, каб выратаваць гэты славянскі народ, не збядніць славянскую культуру? Далей заставацца ў баку ад рэгулявання культурна-моўным жыццём дзяржава проста не мае права. Нельга спіхваць вырашэнне гэтай праблемы на дашчэнту засіміляваны народ, валакучы яго на рознага роду рэферэндумы. Разумную, правільную канцэпцыю Адраджэння могуць выпрацаваць толькі буйныя і непазбаўленыя нацыянальнай самасвядомасці вучоныя. Перадавая, нацыянальна-самасвядомая беларуская грамадскасць не мае права маўчаць у час, калі навісла такая сур'ёзная пагроза поўнай асіміляцыі яе народа, калі ёй не супрацьстаіць дзяржава. Цалкам пагаджаюся з тымі, хто лічыць крайне наспелым пытанне аб стварэнні Славянскага фонду выратавання беларускага народа ад русіфікацыі, бо яго ўрад адкрыта імкнецца ў яе цесныя "братэрскія" абдымкі, нічога не робіць па пераадоленні гэтай нечуванай у нашай гісторыі трагедыі. Яе ўжо бачаць прагрэсіўныя людзі і неславянскай супольнасці, у прыватнасці аўстрыйскі прафесар, беларусіст Герман Бідэр, які піша, што ў сучаснай "вельмі цяжкай сітуацыі беларускай інтэлігенцыі вельмі патрэбна духоўная і матэрыяльная падтрымка з боку інтэлігенцыі іншых славянскіх і неславянскіх краін..." Радуе, што вучоны адсылае нас нават і да неславянскіх краін.

Дык давайце ж, не марудзячы, звернемся з просьбай да славянскай супольнасці склікаць кангрэс ці які-небудзь іншы форум славянскіх народаў, каб сумеснымі сіламі вырашыць, што неабходна ў самым тэрміновым парадку зрабіць дзеля выратавання беларускага народа ад суцэльнай дэнацыяналізацыі. На кангрэсе ў абавязковым парадку трэба заслухаць трох—чатырох самых высокіх дзяржаўных асобаў Беларусі з мэтай высвятлення, што імі ўжо зроблена і што плануецца на бліжэйшы час зрабіць па ўмацаванні пазіцый беларускай мовы ў грамадскім жыцці і асабліва ў адукацыі, па забеспячэнні шырокай прасторы для функцыянавання прафесійнай беларускай нацыянальнай культуры, спыненні выцяснення яе рускай культурай спрэс на ўсёй нашай этнічнай тэрыторыі. Думаецца, што перад аўтарытэтнай аўдыторыяй кангрэса славянскіх народаў нашыя высокія дзяржаўныя дзеячы пасаромеюцца заявіць, як гэта яны любяць казаць сваім грамадзянам, што нібыта самі беларусы аддаюць перавагу рускай мове і культуры, бо тут жа да іх (дзеячаў) пасыплюцца пытанні: Колькі ж у вас беларускамоўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў? Якія суадносіны ў выданні кніг, газет і часопісаў на беларускай і рускай мовах? На якой мове працуюць оперны тэатр і тэатр аперэты, здымае кінафільмы студыя "Беларусьфільм"? На якой мове дэманструюцца кінафільмы? На якой мове працуюць дзяржаўныя органы ўлады і кіравання? Пасля аб'ектыўных адказаў на такія пытанні нашым славянскім братам адразу стане зразумелым, чаму сёння беларуская нацыянальная культура і мова знаходзяцца на такой небяспечнай стадыі загнівання.

Існуюць пэўныя сумненні, што аўтарытэтныя, кампетэнтныя славянскія арганізацыі паспрабуюць ухіліцца ад пастаноўкі на парадак дня сваіх форумаў абмеркаванне пытання аб шляхах выратавання беларусаў ад асіміляцыі, спрабуючы апраўдаць гэта тым, што апошнія нібыта самі падчас правядзення майскага (1995) рэферэндуму добраахвотна выказаліся за працяг, поўнае давяршэнне рускай культурна-моўнай асіміляцыі. А калі так, дык ці ж лагічна, карэктна ратаваць народ супроць яго волі? Лагічна, бо цяпер многім стала зразумела, што вынікі выбараў ніколькі не адлюстроўваюць настроі і пажаданні людзей. Тонка прадуманымі дзеяннямі ўрадоўцаў і аддачай ім інтэлігенцыі яны былі дарэшты збітыя з панталыку і прагаласавалі так, як таго хацелася ў першую чаргу афіцыйным здэнацыяналізаваным элементам.

Беларускі народ яшчэ не да канца згублены. Яго паходня пакуль што гарыць, няхай сабе і слабенькім агеньчыкам. Пры сур'ёзнай падтрымцы дзяржавы можна было б выратаваць гэты яшчэ зусім не бесперспектыўны народ. Галоўнае захацець. Я цвёрда перакананы, што ніколькі не лішнім была б тут і высакародная місія дапамогі славянскай супольнасці па адбудове, умацаванні нацыянальных асноў беларускага народа. А вось, можа, і ўдасца супольнымі намаганнямі, калектыўным розумам выканаць запавет дарагога ўсім нам Янкі Купалы:

***"Падымайся з нізін,***
***сакаліна сям'я,***
***Над крыжамі бацькоў,***
***над курганамі,***
***Занімай, Беларусь,***
***маладая мая,***
***Свой пачэсны пасад***
***між славянамі".***

КУЛЬТУРА

# Ёсць імпэт працаваць

Што ведаем мы пра дзейнасць Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур? Практычна нічога. А між тым, нягледзячы на часовыя, спадзяёмся, цяжкасці, працуе ён дужа плённа і вынікова. Вось што расказаў дырэктар цэнтра Віктар Іванавіч Мацюшэнка:

— Наша задача — аказваць арганізацыйную і фінансавую падтрымку дзейнасці культурна-асветных аб'яднанняў нацыянальных меншасцяў Беларусі. Шмат што ўжо зроблена намі. У сакавіку, напрыклад, прайшла канферэнцыя па праблемах захавання і вывучэння культурнай спадчыны татарскага народа. Татары аселі на беларускай зямлі 600 год таму. Менавіта з гэтай нагоды было арганізавана свята "Караван-Байрам", якое праходзіла ў межах II Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. "Караван-Байрам" прайшоўся па Навагрудку, Смілавічах, дзе да свята адкрылі мячэць. А ў ліпені ён завяршыў свой шлях. Але на гэтым святкаванне 600-годдзя першапасялення не скончана — у лістападзе мяркуецца правесці ўрачысты сход татар з запрашэннем замежных гасцей. А яшчэ ж жывуць на Беларусі палякі, армяне, карэйцы, літоўцы... Ды што пералічваць — самі ведаеце. У маі—чэрвені, напрыклад, прайшлі імпрэзы польскіх самадзейных калектываў, фестываль песні ўкраінцаў Беларусі...

Што робім мы для развіцця культуры карэннай нацыянальнасці? Дапамагаем беларускім таварыствам за мяжой, падтрымалі і арганізацыю з'езда беларусаў свету. Даводзіцца дапамагаць беларусам у замежжы, хоць чымсьці, драбязой, бо ўсё натыкаецца на фінансаванне — грошай выдзяляецца мала. Паступіла вось 50 млн. рублёў на рахунак, каб заказаць касцюмы для гурта з Гайнаўкі. А яшчэ ж два гурты з Польшчы маюць патрэбу ў касцюмах. Будзем шукаць сродкі. А заадно — і азербайджанскія калектывы, якія таксама не маюць нацыянальных строяў і інструментаў? Да слова, мяркуем дапамагчы ім наладзіць сувязь з гістарычнай радзімай.

Кажаце — энтузіязм. Не без гэтага. Музей хацелася б мець, бібліятэку сабраць з замежнай літаратуры, якая мае дачыненне да нацыянальных культур, картатэку, у якой змяшчаліся б звесткі пра нацыянальныя гурты кожнага раёна, фундатараў трэба шукаць... Адным словам, працаваць трэба, а прафесіяналы-энтузіясты на дарозе не валяюцца. Да ўсяго іншага, у нас няма свайго памяшкання — арэнда пакою ў Доме ветэранаў нас не задавальняе.

Намаганні дзеля захавання літоўскай, яўрэйскай, татарскай і іншых культур на нашай зямлі спрыяюць выжыванню і развіццю культуры беларускай. Гэта не проста нормы дэмакратычнага грамадства, а нормы агульнамаральныя, бо зберагаць трэба кожную крупінку духоўнага багацця.

Такім чынам, фестывалі народных песень, якія завяршыліся і яшчэ адбудуцца: армянскае свята, што павінна прайсці ў дзень нараджэння Маці Божай; святкаванні Хрыстова раства, Калядаў і Масленіцы; нядзельныя школкі і курсы нацыянальных моў — здзейсненая і будучая праца Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур. Наперадзе справаздачныя мерапрыемствы — выніковыя канцэрты ў маі 98-га, якія завершаць II Рэспубліканскі фестываль. Ёсць жаданне ў цэнтры ствараць новыя мастацкія гурты, ёсць цікавыя ідэі, ёсць яшчэ імпэт працаваць.

**Вольга ЛАШКЕВІЧ**

# Крылы, падрэзаныя на ўзлёце

Усяго трыццаць гадоў споўнілася Васілю Кавалю, калі яго расстралялі. Паміж дзвюма датамі (нараджэння 17 жніўня 1907 года і смерці 29 кастрычніка 1937-га) — кароткае і па-свойму яркае жыццё аднаго з тых, хто быў закліканы да творчасці вялікімі сацыяльнымі пераўтварэннямі, што адбываліся ў краіне. У гэтым сэнсе В. Каваль падобны на многіх, хто разам з ім уваходзіў у літаратуру. Нарадзіўся ў вёсцы Савы цяперашняга Горацкага раёна ў сям'і селяніна Пятра Кавалёва (Каваль — псеўданім), вучыўся на агульнаадукацыйных курсах пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, восенню 1925 года паступіў у Магілёўскі педагагічны тэхнікум, але ў хуткім часе вярнуўся ў родную вёску. Пазней вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, працаваў у рэдакцыі часопіса "Маладняк", як ваенны журналіст служыў у Смаленску. У 1936 годзе быў рэпрэсіраваны... У друку В. Каваль выступаў з 1926 года. Напачатку пісаў вершы і апавяданні, а потым цалкам перайшоў на прозу. Пры жыцці В. Каваль пабачыў кнігі апавяданняў "Як вясну гукалі" (1927), "На загонах" (1928), "Крыніца" (1929), зборнік "Выбраныя творы", які выйшаў у 1932 годзе, а таксама аповесць для дзяцей "Санька-сігналіст" (1936). Другая аповесць "Следапыт" пабачыла свет асобнай кнігай толькі ў 1961 годзе, а ў 1979-м з'явіўся аднатомнік В. Каваля "Выбранае". У творах В. Каваля шмат рамантычнай узнёсласці, сацыяльнага аптымізму, які часам быў далёкі ад рэальнасці. Разам з тым відочныя задаткі таленту, уменне глыбока пранікаць у жыццё, ствараць пераканаўчыя характары. Калі б крылы не былі падрэзаны на ўзлёце, безумоўна, ён мог бы многага дасягнуць.

АРХІВАРЫУС

# Падарунак Купалы

Вось гэты, прывезены з Рыгі, з архіва Яніса Райніса фотздымак, падараваны латышскаму другу Янкам Купалам, сам я поўнасцю расшыфраваць не змог. У свой час у знаёмыя ім аблічча ўзіраліся Мікола Хведаровіч, Алесь Звонак... Але надрукаваць фота не выпадала. Здымак зроблены ў 1926 годзе, падараваны Райнісу ў дні яго гасцявання ў Мінску, падчас работы канферэнцыі па рэформе правапісу. Магчыма, мяне паправяць і дапоўняць. На сёння пра здымак супрацоўнікаў часопіса "Полымя" вядома наступнае. Сядзяць на падлозе (злева направа): Паўлюк Трус, Ілары Барашка, Андрэй Александровіч, Анатоль Вольны, Нічыпар Чарнушэвіч, Янка Марук. Сядзяць: Язэп Лёсік, Якуб Колас, Усевалад Ігнатоўскі, Цішка Гартны, Янка Купала, Антон Баліцкі, Сямён Вальфсон, М. Грэдзінгер. Стаяць (трэці рад знізу): Язэп Дыла, Мікалай Байкоў, Эля Каган, Аляксандр Шлюбскі, Іван Цвікевіч, Змітрок Бядуля, І. Дзяржынскі, Міхаіл Мялешка. У чацвёртым радзе злева направа: Аляксандр Цвікевіч, Міхайла Грамыка, М. Шульман, Б. Быкоўскі, Міхась Зарэцкі, П. Арэшнікаў, Алесь Гурло, І. Герчыкаў.

Пра асобных з іх нам да апошняга часу мала што вядома. Толькі 14 чэрвеня 1988 года, напрыклад, быў рэабілітаваны былы нарком асветы БССР Антон Васільевіч Баліцкі (1891—1937). Вялікі яго ўклад у развіццё нацыянальнай культуры рэспублікі.





Вельмі мала мы ведаем і пра жыццёвы, творчы шлях некаторых пісьменнікаў. Паміж Александровічам і Чарнушэвічам кучаравіцца Ажгірэй; ён жа Алёша, ён жа Анатоль Іўсцінавіч Вольны (1902—1937). Многія на гэтым здымку — "аднагодкі" — аднаго года ўсмертавання. Каб жа кожны, хто тут углядаецца ў вечнасць, змог падзяліцца з намі сваім запаветным... Можна было б стварыць "Залатую кнігу" беларускай культуры (у адрозненне ад "Белай кнігі", "Блакітнай" ці "Чорнай...").

А пакуль што пазнаёмцеся з паўзабытай спадчынай таго ж самага Анатоля Вольнага, які выступаў у свой час і пад псеўданімам Алёша. Прапаную фельетон з яго кнігі ("Маладняк", Менск, 1927 г.).

**Сяргей ПАНІЗНІК**

АЛЁША

# Сіла ў ведах...

Украінізацыя, беларусізацыя, татарызацыя... Ну скажыце, што рабіць чалавеку, які любіць выключна толькі мову Пушкіна і падазрона адносіцца да ўсіх тых моў, на якіх "отнюдь" не пісаў Аляксандр Сяргеевіч?

"Вы понимаете, мы из-за этой самой украинизации приехали из Украины сюда, в Минскую губернию, а тут, оказывается, белорусизация. Но ведь украинского и белорусского языков нет. Ведь мы же проехали всю Украину и Белоруссию и нигде этого языка не слыхали". Спрачацца з таварышамі, якія казалі гэтыя словы, я не хачу. Іх словы мы прыпішам якасці іх вушэй, якія хаця ж і маюць нахіл перарасці памер чалавечых вушэй, але так пабудаваны, што не ўсё могуць чуць...

Я нават і не злуюся на гэтых людзей. Мне проста іх шкада.

Людзі ехалі ў Менскую губерню, а прыехалі ў Беларусь.

"Такая, знаете ли, досада..."

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А мараль з гэтага фельетона вось якая:

"У ведах — сіла!"

Каб прыехаўшыя таварышы хаця б крыху ведалі карту Савецкага Саюза, гэткая непрыемнасць з імі безумоўна не здарылася б. Бо калі "чэмпіёны", што выступаюць у цырку, імянуюцца ў афішах чэмпіёнамі "Западного края", і "Северо-Западного" і іншымі архіўнымі вяліцтвамі, дык на тое ж яны і чэмпіёны... Чэмпіёнам — ім можна!

Але сумленнаму савецкаму працаўніку трэба ўсё ж такі ведаць карту Савецкага Саюза. Вучыцеся ж, дарагія таварышы. А для першага разу, дык я вам і параду дам:

У выпадку чаго, дык вы ўжо ў Казань не едзьце, бо там татарызацыя ідзе.

І наогул, каб не траціць шмат грошай на дарогу, дык вы ўжо самі добра паглядзіце ў карту Савецкага Саюза, ды тады ўжо з богам і паязджайце сабе з Беларусі.

*На здымках: партрэт Янкі Купалы, падараваны Яну Райнісу ў 1926 г., і знойдзенае ў архіве Я. Райніса ў Рызе фота супрацоўнікаў часопіса "Полымя" 1926—27 гг.*

АБОХЦІ МНЕ

# Давярай ды правярай

Штосьці непрыемнае варушылася ўнутры і сеяла незразумелую трывогу. Халодны васьміножак, так добра знаёмы студэнтам падчас іспытаў, сядзеў у жываце, пасылаючы імпульсы ў сонную падсвядомасць — нешта не так. Што? Яна падхапілася і пужліва зазірнула ў сябе. Мозг супакоіў: якое там спазнілася, сёння першы дзень твайго адпачынку. Яна з асалодай усміхнулася — "Ах ты паршывец", — жартаўліва пагражаючы немаведама каму. Не стаілася ізноў пад коўдрай (мажліва таму, што была ўжо сталай жанчынай), хутка апранулася і выйшла, ціхенька прычыніўшы дзверы, — дачцэ семнаццаць, разумець трэба.

Кухня ўжо вымушала чакаць чагосьці цікавага, калі дачка, яшчэ ў начной кашулі, уціснуўшыся ў фатэль, пільна ўзіралася ў газету з праграмай тэлебачання.

— Зая, сняданак на падыходзе, — сказала, цмокаючы вуснамі, каб расцерці памаду, маці. — Паеду зараз па крамах: бацька ў нас без абутку, а я ў газеце вычытала пра нейкі распродаж, трэба паглядзець.

— Ну-ну, давай, — задумліва працадзіла дзяўчына, прабягаючы позіркам газетныя радкі.

Раптам шэрыя вочы спыніліся:

— Што гэта? Гэта... Ха-ха. Ты толькі паслухай: "З 14 ліпеня ў самых буйных гандлёвых кропках Мінска... будзе арганізаваны незвычайны распродаж. Па жаданні аднаго забяспечанага амерыканца (эмігранта з Беларусі) у аддзелах, адзначаных указальнікам з клічнікам, можна будзе набыць мужчынскае, жаночае, дзіцячае адзенне, абутак, галантарэю замежнай вытворчасці. Кошт любой адзінкі гэтых тавараў не будзе перавышаць 80 тысяч беларускіх рублёў".

— Збірайся-збірайся, канешне, — працягнула яна. — Не будзе перавышаць... Чакай! Ты на рубрыку паглядзі: "У Ва-Банка на хвасце".

— А я ж думала... — разгубілася жанчына. — Ну жартаўнікі... Вось і вер пасля гэтага людзям (праз смех). Да чаго жывучая ўпэўненасць, што ўсё ў горадзе — усур'ёз... Што ў ёй — ні-ні...

На пліце пачынаў сіпець чайнік.

Было каля адзінаццаці.

*P. S. Выпадак гэты і сапраўды быў.*

**Вольга ЛАШКЕВІЧ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Хай жыццё — гэта міг між мінулым і будучым, хай мінулае — храм, а прышласць — палац, ды гібець паміж тымі крыштальнымі цудамі ва ўбогіх хацінках даводзіцца нам.

●

Пякучыя словы: "Музей беларускай мовы". Папраўдзе — беларускай галечы, бо з мовы робяць "наречие". Гучыць наша слова радзей, здаюць нашу мову ў музей. І ўсё ж, паны-ваяводы, не будзе народу зводу. Здаўлены чуеце зык — мова гучыць праз "язык".

●

У склепе без акенцаў збіраюцца падлеткі. Варожаць над макетам, працуюць што ні вечар. — Што майструеце, хлопцы? — Праектуем Горад сонца, трэба ж будзе людзям некалі жыць па-чалавечы.

●

Прабачце за бестактоўнае пытанне: як жыццё?

●

Ужо не ходзяць людзі на паклон, а манумент усё іх "асяняе". Эпохі, бачыш, відавочца ён, і ліквідацыі не падлягае. А я і не кажу, каб усё нашчэнт, пакінем для патомкаў пастамент. Нішто так ад аблуд не ратавала, як сузіранне голых п'едэсталаў.

●

Мова кансерватыўная і не церпіць перабудоў. Зараз былыя "члены" намі кіруюць зноў. А язык не паварочваецца гаварыць пра іх як пра "сяброў", хоць "сябры" замест "членаў" і лепш у сто разоў. Няма ніякага падабенства паміж "сяброўствам" і "членствам". Дык мо ў парадку выключэння, пакінуць нам старыя абазначэнні?

●

Першая прэмія ў міліцэйскай акадэміі: за выступленне ў дэбатах: "Ці маем мы права біць затрыманага, пакуль не даказана, што ён вінаваты". Другая прэмія ў міліцэйскай акадэміі - за выясненне лінгвістычнай таямніцы: "Як дабіцца прызнання ў затрыманага, калі само слова вымагае "дабіцца"... Спадары маніфестанты, кіньце свае амбіцыі: па-навуковаму працуе міліцыя.

●

Мы скажаем гісторыю, прыніжаючы жанчыну. Вера Мухіна ў сваёй алегорыі, магла і молат аддаць жанчыне. "Жанчына ў калгасе вялікая сіла", — абвясціў Сталін масам. З таго часу мала што змянілася, і не толькі ў калгасах. "Адзінка жаноцкасці — конская сіла" — нявесела пажартавала паэтка. Божа, калі мы яшчэ ўкладзём у рукі жанчыны замест молата кветку?

●

На іншаземным сцягу поўня недаспелая. Выпадак, кажуць, калі частка больш за цэлае. Рэклама тут як тут, свой прадчувае "кайф", "Глядзіце, дамы, "гуд", што можа "Гербалайф".

●

— Ёсць у фільме нешта добрае: заканчэнне — "хэпі энд". Дык і тое ўсё падробленае, усё ад іншых — "сэканд хэнд". Ну а што да першых "хэнд", фільм аплачваў прэзідэнт. Апякунства абавязвае? Плакаў казачны прэзент, "Сын за бацьку не адказвае", "хэпі энд".. "Хэпі энд", ды не канец, зноў у Мінск ляціць ганец: "Вельмі трэба вашу буську, робім фільм "Любіць па-руску", вы мілейшы чалавек, просім — выпішыце чэк"...


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4222
Нумар падпісаны ў друк 14.8.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4692/Г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12